Сяргей АСТРАВЕЦ (АСТРАЎЦОЎ) нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Пасля вайсковай службы атрымаў журналісцкую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Працуе ў Гродне рэдактарам газеты «Пагоня». Кола прафесійных зацікаўленняў: гісторыя і культура, літаратурная крытыка, канфесійнае пытанне. Перакладае мастацкую прозу з польскай мовы.

Апавяданні друкаваліся ў зборніках «Тутэйшыя», «Літаратура», «Перад маімі вачыма», у часопісах «Маладосць» і «Бярозка», газетах «Наша Ніва», «Літаратура і мастацтва», «Ніва».

Кніга апавяданняў Сяргея Астраўца «Янычары» — своеасаблівы літаратурны эксперымент. На яе старонках чытач сустрэнецца з не зусім звычайнымі героямі. Яны, у большасці, не ўкладваюцца ў трафарэтныя межы звычайных, станоўчых з усіх бакоў, маладых людзей. Абвостранае адчуванне адзіноты, несупынны роздум над штодзённымі і штохвіліннымі праблемамі нашага нялёгкага, запалітызаванага жыцця — іх адметная рыса.

Спакой, улежнасць, задаволенасць бытнасцю — гэта тое, з чым несупынна вядудь барацьбу героі апавяданняў Астраўца. І не так ужо важна, што яны жывуць як бы пазачасавасцю. Знарочыстая фантасмагарычнасць большасці апавяданняў Сяргея — крок да ўсведамлення складаных узаемаадносін грамадства і асобнага чалавека, кожнага з нас.

Урэшце — мы не пластылін, каб рабіць з нас марыянетак. Вось над гэтымі праблемамі і задумваюцца героі твораў Сяргея Астраўца.

# ДЗУКСКІЯ АПАВЯДАННІ

## КІСЛАЕ ВІНО

— Табе хочацца паехаць у якую-колечы незнаёмую краіну? (...)
— У Кітай. Тамака ёсць вялізарны мур...
— Ты, напэўна, не супраць пера лезці цераз яго?
— Ен занадта шырокі і вялікі. Цераз яго не пералезеш. Дзеля таго яго і змуравалі.

*Э. Канэці. Асляпленне*

Пляц імя Зруйнавання Бастыліі. Па іроніі лёсу паўночны бок яго прастакутніка ўпіраўся ў мур колішняга кляштара, у якім цяперака мясцілася турма. Аніякага, бадай, намёку на Храм Міласэрнасці[1]. Зрэшты, муроўку, на цэлую яе вышыню — у некалькі чалавечых ростаў,— размалявалі мастакі краявідамі гарадскіх вуліц, па якіх крочылі гарадзяне: цывільныя і вайскоўцы, паліцыянты і шпегі, прастытуткі і цнотніцы. У астатнім жа ўсё адпавядала траістаму лозунгу, абвешчанаму на друзе славутае вязніцы: «Роўнасць. Вольнасць. Братэрства». Ці, можа, у іншай паслядоўнасці. Гэта не дужа істотна. Адным словам, помнік генералу, які падараваў свабоду жыхарам і даў зразумець: як толькі гарадзяне перастануць красці, распуснічаць і навучацца трымаць языкі за зубаіі, ён дазволіць разбурыць неўласцівую пабудову на цэглу.

А пакуль усё заставалася па-старому. Час нібыта застыў, як мроіва таго гарачага паветра над пляцам, і нічога тутака не адбывалася. Нічога, вартага ўвагі не тое што храніста, але звычайнага нават рэпарцёра малатыражнае газеткі, якая трымалася патаемнымі субсідыямі, пра што, аднак, здагадваліся чытачы, бо шмат папяровае плошчы займалася прамовамі і партрэтамі генерала. Зрэшты, той не казаў сваіх прамоў штодзень, і таму «Вольнае Слова» мусіла паведамляць сваім аматарам таксама і пра тое, якія сёлета спадзяванні на ўраджай, пільна сачыла за сустрэчамі на шахматным турніры ў Касабланцы, правакавала дыскусіі пра цэны на гародніну ды аб карысці або шкодзе вегетарыянства. Яно таксама заклікала нарыхтоўваць смаржкі і страчкі, лекавыя зёлкі, акуратна адзначала кожнае пахаванне і

---

[1] У 1771 г. у Францыі выйшаў твор Мэрсэ, у якім апісваецца Парыж у 2440 годзе. На месцы Бастыліі пабудаваны Храм Міласэрнасці.

народзіны ды змяшчала шмат іншых навін. Гэта была газета для народа.

Чалавек, перад якім ляжаў свежы паасобнік «Слова», быў пасвойму знакаміты ў горадзе. Хоць паэтаў тут наогул не любілі, але ж яны не сядзяць за столікамі кожнай кавярні! А мужчына, пра якога мы кажам, якраз і быў паэтам. Апранаўся ён даволі невыразна, але з нейкім нават выклікам, па чым можна было ўскосна даўмецца, што гэта чалавек вольнай прафесіі. У ягоных жылах пульсавала, дарэчы, кроў з дамешкам нетутэйшай. Прапрадзед паэта быў асабістым барабаншчыкам кашталяна тае сумна вядомае Бастыліі, а трапіў сюды пры нейкіх скрутных абставінах ды запаліў сямейнае агнішча на гэтай неўрадлівай зямлі.

За помнікам мясціўся будынак музея Перамогі з постаццю Нікі разца італьянскага майстры эпохі Адраджэння. Багіня, лёгкая і нават лёткая, здавалася, вось-вось ускрыліцца з фасада, у лёце возьме генерала за руку, яны ўзнімуцца вышэй, зробяць аблёт пляца і, абмінаючы вежы і шпіцы, ператворацца ў ледзьве заўважныя кропкі ў блакіце і знікнуць суздром за даляглядам. Камяніца музея была паўнюткая зброі, штандараў і нават мела цэлыя шафы мундзіраў, захопленых генералам разам з усім рыштункам у пераможанага ворага.

Праўда, гэтае шанаванне ўсяго вайсковага давалася гарадзянам крыху ў знакі, бо спараджала чуткі, якія ахвотна распаўсюджваліся замежнай прэсай і радыё. Самая ходкая была хлусня пра тое, што ўсе гарадзяне — гэта пахмурныя, непрыветныя людзі, якія любяць хадзіць у шыхце. Гэта і зразумела, бо, маўляў, палова ж з іх — вайскоўцы! Але, калі быць шчырым, дык няма чаму так здзіўляцца, бо нават паэт меў вайсковы чын яфрэйтара на выпадак вайсковых гульняў або заўсёды магчымай мабілізацыі.

Столік стаяў пад паветкай з паркалю, побач была дзежка з пальмаю, якую штораз выносілі з памяшкання на сонца. За столікам, апроч ужо абмаляванага наведніка, сядзеў яшчэ адзін. То быў іх персанальны столік. Але не толькі ён лучыў абодвух. Чымсьці яны былі падобныя. Бедны паэт, не распешчаны выпадковымі заробкамі, і камівояжор, расчараваны жыццём. Хаця, калі разважыць, дык няма ліха, як люд адмаўляецца купляць дарагія зінгераўскія швейныя машыны, нават калі іх дакляруюць у пазыку. Горш, калі яму робяцца абыякавымі ўласныя паэты, а іхнія вершы не выклікаюць анічога, апроч пазяхання. Зрэшты, большасць насельніцтва было наогул непісьменным, паколькі ручная праца не вымагае вялікіх ведаў.

Паміж імі звычайна зачыналася гутарка.

«Не-э, што ты. Адсюль я ніколі не з'еду. Нават калі ўсё апярэжуць калючым дротам. Тут нарадзіўся. Тутака магілы маіх бацькоў. Тут і мне паміраць, на гэтай зямлі».

«Ужо і так паўсюдна, з усіх бакоў, дрот — цэлую мяжу задраталі. Можна падумаць, нехта пішчом лезе, хоча сюды дапяць... Цераз «кітайскі» мур уцякаюць толькі ў адзін бок!»

«Ды кінь ты ўпадаць у скруху. З'едзеш адсюль. Атрымаеш візу. Уз'яднанне сем'яў і ўсё такое іншае. Вам цяпер можна.

У цябе ж ёсць там сваякі?

Табе пашанцавала, маеш вось цяпер другую бацькаўшчыну. А ў мяне толькі мова яшчэ адна ёсць. Другая родная. І нічога, трываю. Вершы вось пішу часам. Білінгвістычныя».

«Табе ўсё толькі б жартаваць. Нават і з сябе кепікі строіш ».

«Інакш можна звар'яцець. Ад усяго гэтага.

Хоць паэзія — ужо вар'яцтва, як гэта сцвярджаюць калі-нікалі».

Да віна добра пасаваў авечы сыр. Пасля іх добра пілася ў спякотнае надвор'е кава, гатаваная на замову — па-шварцвальдску: з сокам чарэшняў, разліваная ў кубкі з колатым лёдам.

Не зважаючы на сваё незаможнае існаванне, паэт дазваляў сабе часам выпіць на тэрасе кілішак-два, а то і поўную пляшку кіслага або манастырскага віна. А кававыя бабы ўвесь час купляў у краме каланіяльных тавараў. Але не «мокка», зразумела, а толькі танную «арабіку». У горадзе літаратары наогул не маглі пахваліцца раскошай уласнага побыту, бо нічога не мелі. Аднак без кавы ніхто з іх не абыходзіўся. Яна была своеасаблівым эліксірам творчасці.

Зрэшты, вынайшлі карысныя для сябе ўласцівасці напою яны не самі. Яшчэ ў тысячным годзе нейкі арабскі асклепій, імя якога не захавалася, апяваў (прапагандаваў) каву ў медычным трактаце. А яшчэ адзін досыць вядомы пісьменнік, які ў рэшце рэшт сапсаваў хваробай селязёнку ад празмернага ўжывання кавы, заўважыў: кава, поўнячы страўнік, разам ажыўляе ўсе вантробы, усю істоту. І думкі пачынаюць бег, як аддзелы «Вялікага Войска» на змагарным полі.

Коміваяжор змрочна смактаў праз саломіну коблер з паляўнічай гарэлкай, якая пераважала ў шклянцы, студзячы раз-пораз вантробы сельтэрскай вадой.

«Не сёння — дык заўтра ў Лазане падпішуць пагадненне. Свабода пераезду для ўсіх, на вечныя часы!»

«Сумняваюся».

«Які ж ты, аднак, браце, Тамаш. Тамаш, ты — нявернік, бо не даеш веры.

А можа, ты й дарэмна гэтак імкнеш туды? Разумееш, як табе сказаць, сапраўдная літаратура — тая, што ёсць цалкам плён уявы пісьменніка. Ну каму, прыкладам, можа быць цікава тое, як мы з табою тутака седзімо і каштуем кіслае віно?»

«Не ведаю».

«Ты хіба не баішся расчаравацца? Гэта страшна — расчаравацца. Пахаваць сваю мару.

Можа, хай гэты край так і жыве ў тваім уяўленні?..

Вядома, я тамака не быў, як і ніхто з нас. Але, можа, няхай ён застанецца прыгожай райскай зямлёю?»

«Не хачу. Тады не трэба нічога. Калі і там не лепш».

Вернемся зараз да абмалёўкі ўсяго пляца, бо ён уяўляў з сябе даволі цікавы ўзор сярэднявечнага дойлідства і не быў зруйнаваны дзякуючы слабасці генерала, які любіў старасветчыну. Як ужо распавядалася, пляц аздаблялі музей і кляштар. Але гэтым не вычэрпваліся ўсе пабудовы, да якіх дакранулася рука праўдзівага дойліда. Пасярод бруку быў вымураваны фантан, у які, аднак, не падавалі ваду, бо яна мелася выцякаць з адпаведнага месца ў бронзавага амура, што нібыта раздумваў, у каго б яму пацэліць стралой са сваёй зброі. Усё астатняе магло толькі цешыць сваім суладдзем: аўтэнтычная чырвонай цэглы ратуша з часоў позняе готыкі, двухпавярховая аптэка, гандлёвыя рады, аўстэрыя, дом шляхецкай зборні, храм.

Храм. Колькі на ягоных шпіцах змянілася зорак, паўмесяцаў, крыжоў розных відарысаў! Ён і цяпер быў адчынены для ўсіх прагных да слова божага. Але ахвотных засталося, супраць спадзяванага, няшмат. Нават даверлівы надпіс над дзвярыма «Бог у цябе верыць» не надта вабіў сюды людзей, якія нібыта былі пакрыўджаны на бога за даўнейшыя марныя звароты да яго ў малітвах. Але ж ён усё-ткі вярнуўся да іх і расчыніў дзверы храма!

«Бог у цябе верыць. А ты ў яго? Ці вера твая была ад пачатку няшчырая і нетрывалая?! Ці ты знямогся і разняверыўся, калі табе дакляравалі кожнага разу іншага бога? А ты хацеў аднаго: свайго толькі... Але вось нарэшце і ён сам — ідзі да яго, укленчы і папрасі спагады. Чаму ж ты не йдзеш?!» Ксёндз-пробашч згарнуў паперу, не скончыўшы пісаць Казань, нагбом выпіў шклянку вады, узяў са стала малітоўнік і заспяшаўся да бажніцы. Вось-вось мусілі паклікаць да імшы.

Паэт з коміваяжорам раскланяліся з ім.

Сумныя вочы, прыгорбленая постаць, мітуслівая хада. Увесь ягоны выгляд нібыта сведчыў пра тое, што быць яму апошнім святаром у

пазбаўленым веры горадзе. Апошнім і самым няшчасным, бо яго не будзе каму прычасціць і прамовіць апошнюю малітву над магілай.

Люд пакрысе сцякаўся да расчыненай брамы храма. Штосьці запаволенае, рахманае назіралася ў ходзе і паставе вернікаў. Бо гэта ўжо быў не той люд, што даўней, як не можа застацца ранейшым і аднойчы збэшчаны бог. Паэтава сэрца смылела-крывавіла: ручаінкі вернікаў нагадвалі яму чароды авечак. «А калісьці ж іхнія продкі хадзілі на бой пад сцягамі з выявай ядлоўцу — натурыстае расліны, якая не прыжываецца ў чужой глебе. Напэўна, меў рацыю той мудрэц, што першы параўнаў аднойчы жывога чалавека з мёртвай шлінай...»

«Тамака сёй-той з іх пакаштуе манастырскага віна,— падумалася коміваяжору, які таксама сачыў вачыма тых, чые спіны паглынала праймо храмавага ўвахода.— Лепей за гэтую кісліну. Хоць яно і амаль без смаку ды мацунку, адно хіба колер густа-чырвоны, каб увасабляць тым кроў Хрыстову».

Сапраўды, гатунак «ізабэла», з якога ў душыльнях навакольныя сяляне атрымлівалі сок для манастырскага віна, займаў частку тутэйшых вінаграднікаў. Але лаза наогул была кволай, як і не дужа багатае на сонечную цеплыню — лета. Вінаград радзіў дробны, і ягады не паспявалі як след назапасіць цяпла і цукру. Віно з іх утваралася зазвычай кіслае. Нават з тае лазы, што спавіла паўдзённы схіл гары «323 метры». І ўсё адно сяляне не пакідалі мазольнае працы, якой вымагала крыху экзатычная, як на тыя мясціны, садавіна. Адразу па пераездзе мяжы — высокія тычыны вінаградных загонаў з напятымі паміж імі вераўчынамі пачыналі спатыкацца на шляху цягнічка, які курсіраваў раз на тыдзень. Яны, гэтыя загоны, магнэзам прыцягвалі да шыб рэдкіх пасажыраў, што транзітам ехалі на поўнач.

Асаблівае захапленне выклікала вінаградная гара. На самай яе вяршыні пільнавалі наваколле мураваныя вежы і сцены жаночага кляштара, які пасля ўцёкаў з яго мнішак аддалі на сядзібу вайскоўцам. На вялікі жаль, ад таго часу вінаграднікі пачалі паступова сохнуць карэннем і марнець. Самі вайскоўцы надта гэтым засмучаліся, бо былі патрыётамі і любілі айчыннае віно не горш ад заморскага.

«Ведаеш, мне не хацелася табе казаць. Я не веру, што мы з табою не адзінакрэўныя. Хіба гэтак важна, куды хадзілі маліцца нашыя бацькі: у касцёл ці царкву?»

«Памятаеш?

Тутэйшы край — мая Айчына.
З гарой кляшторнай пасярод,
Лазой спавітай да вяршыні...

Тут мае сэрца, мая муза.
Табе заўжды аддан буду,
Мой Народ.

Ён не назваў іх. Бо нельга было. А толькі: «тутэйшы край» і «мой народ».

«Зараз распавядзеш мне пра шлях з варагаў у грэкі, ці як яго?»

«Заўсёды будуць існаваць гарады, з якіх цягнікі пачынаюць сваю дарогу, і тыя, у якіх яе заканчваюць. Але ж і гэтаксама застануцца такія, праз каторыя пралягуць чыгуначныя рэйкі».

«Мне ўсё гэта ўжо вядома. На скрыжаванні з поўначы на поўдзень, з усходу на захад. Хіба не так? »

«Дзве анексіі, якія перажыў наш народ... Ды што там казаць. Калі бацька быў паэтам захаду, а сынава муза належала ўсходу. Яны, аднак, усё адно адчувалі, што ёсць т у т э й ш ы я, незалежна ад таго, на якой мове пісалі».

«Пакінь свой запал да лепшага разу. Ты ж ведаеш, што я неафіт. Не ўсім жа наканавана быць закаханым без узаемнасці і пачувацца ад гэтага шчаслівым».

Сёння яны не сказалі адзін аднаму ані слова. Дый навошта? Усё даўно сказана. Абмяркоўваць жа адно і тое ім не хацелася. А ў іхнім жыцці нічога не адбывалася. Іх яшчэ жывіла хіба толькі кволае спадзяванне. У комівояжора — на візу, у паэта — на выхад кнігі, якая, ён меў надзею, прынамсі, выкліча слязу ў суайчыннікаў. Болей, здавалася, ад жыцця ім чакаць не было чаго. Але нішто пакуль так і не здзейснілася. Праз некалькі гадзін па пляцы рассыплецца пошчак капытоў. Распачнецца штонядзельны цырыманіял вайсковага парада. А пакуль...

Трымалася нязвыкла спякотнае надвор'е, сапраўдны сквар. Нерухомае, напаленае паветра па-над пляцам нібыта ўвасабляла марнасць жыцця, дарэмнасць спроб паўплываць на яго ходу.

Час быццам застыў на месцы, як стрэлкі дзыгара — вежавага гадзінніка, які забаранілі накручваць праз гучны бой яго курантаў.

У вулічнай кавярні на пляцы Зруйнавання Бастыліі два мужчыны моўчкі пілі віно, кіслае віно сваёй айчыны.

# АБЛОГА

Рэжым працягла і пакутна канаў. І таму яго жыццядзейнасць нагадвала рух сапсаванага гадзінніка, які вісеў на сцяне ў хатнім кабінеце рэпарцёра, адным з трох пакояў кватэры, якую той наймаў некалькі год і якая хоць і не знаходзілася ў самым фешэнебельным квартале, але была ў дыхтоўнай камяніцы старой будовы.

Гадзіннік быў старасвецкай работы і мо тае самае славутае швейцарскае фірмы, што вырабляе зараз найлепшыя кішэнныя гадзіннікі-«цыбуліны». Напэўна, у ім штосьці сапсавалася: ляснула спружына ці яшчэ што-небудзь. Яго па звычцы штораз заводзілі, накручвалі зноў, але насценнік рабіў абы-як, толькі ствараў бачнасць таго, нібыта паказвае час. Зрэшты, ён сапраўды не спыняўся. Стрэлкі пераскоквалі ад рыскі да рыскі, адлічваючы хвіліны і гадзіны, але рабілі гэта альбо з празмерным спрытам, або зусім адвольна запавольвалі хаду.

Паводле сапсаванага гадзінніка, на дварэ была яшчэ шостая раніцы, але, мяркуючы па шэрым святле, механізм, напэўна, хлусіў ці, прынамсі, памыляўся. Занесці яго хіба да зэгар-майстра... Але гэта бязглуздзіца, няма ніякае пэўнасці, што майстэрня адчынена ў гэткі час, і невядома яшчэ, што робіцца на вуліцах. Уяўленне рэпарцёра малявала, прынамсі, барыкады. Каторы дзень паўсюдна панавала цішыня. Знадворку не чуваць было звыклых званкоў трамвая і людское гаманы. Дакладныя прыкметы ўсеагульнай забастоўкі. Кухарка, старая кабета, даўно не хадзіла па прадукты, бо вокны і дзверы крамаў красамоўна ахоўвалі жалезныя жалюзі. Але есці амаль не хацелася.

Гэта было жыццё ў аблозе. Ды дзіўным здавалася іншае. Бяздзейнасць урада. Дагэтуль, асабліва па нядзелях, ствралася ўражанне, нібыта кожны другі-трэці гарадзянін — жаўнер, столькі іх бадзялася ў асяродку кабарэ і дамоў кахання. Карацей, войска тутака не бракавала. Прычыну ўяўнай безабароннасці ўрада рэпарцёр зразумеў з часам, калі адключылі спачатку электрычнасць, а потым і ваду.

А неўзабаве людзей пачалі хапаць па кватэрах, бо ўжыць войска супраць народа магчыма толькі ў тым выпадку, калі ён выйшаў на пляцы. Інакш досыць бывае і страху. Іх бралі проста ў ложках, адным словам — у самы непрыдатны момант, калі тыя бачылі каляровыя сны ці кахаліся. Потым сталі арыштоўваць сярод белага дня, вывозячы аўтафургонамі з чырвоным крыжам. І ўсе пакорліва, як змовіўшыся, прытрымліваліся правілаў гульні. Дзеянне гэтага вялікага спектакля адбывалася без перашкод, цалкам паводле сцэнарыя. Цярплівасць і пакора народа, здавалася, былі бязмежныя.

Кожны раз, калі ў студню двара ўязджаў фургончык, які жыхары пазнавалі па характэрным гуку рухавіка, яны сціналіся ў нядобрым прадчуванні. Арыштаваных канваявалі да машыны. І тады, хто лішне не баяўся, мог праз вэлюм фіранкі назіраць, як іх саджаюць у жарало фургона. Кожны выконваў каманду на свой капыл: нехта казырыўся, сёй-той з абурэннем выгукваў штосьці аб Дэкларацыі правоў чалавека, а хто і траціў самавалоданне, дык два дзябёлыя ахоўнікі самі давалі яму рады, ужыўшы пры гэтым грубую сілу. Але ўсё адно паводзілі арыштаваныя сябе надзіва аднолькава, бо аніводзін не паспрабаваў аказаць супраціву ці — праз уцёкі — унікнуць арышту. Рэпарцёр сам пра сабе назваў гэта «сіндромам баязліўца», бо адчуваў, што і ён падобны на ўсіх іх. Ён не меў нават якое-колечы зброі, каб спрабаваць скончыць самагубствам.

Ці трэба цяпер казаць, што кожны прыезд каталажкі ён успрымаў блізка да сэрца. А калі забралі суседа па лесвічнай пляцоўцы, застаўся ўпэўнены, што на гэты раз зусім відавочна памыліліся дзвярыма. Аднак яго гэтак і не арыштавалі, з чаго можна было зрабіць дзве асновы: альбо ніхто з хлопцаў не патрапіў у кіпцюры палітычнае паліцыі, чаму цяжка было даць веры, альбо ніхто з іх не назваў ягонага імя. А што, апошняе цалкам верагодна. Ніхто ж не здрадзіў у часе вядомага безабароннага бунту таго геніяльнага паэта. Гісторыя ж паўтараецца ў сваіх дзеях. Але ці мог рэпарцёр сабе ўявіць, што ніхто нікога не дапытваў і ўсё адбывалася куды больш банальна?

Турма ў горадзе існавала ўсяго толькі адна-адзіная — у лёхах палаца Правасуддзя. Таму давялося пад вязніцу выкарыстаць яшчэ гмах храма, які стаяў пусты, бо маліцца ўсім даўно забаранілі. Але капліца на могілках усё адно пуставала, хоць людзі і мерлі, як мухі ўвосень. Затое ўжо крэматорый не меў выхадных дзён. Ды, напэўна, такая доўгая працэдура падалася некаму надта турботнай, і аднойчы, калі вада ў кранах знікла назаўсёды і ўсе зразумелі, што больш ніколі не ўбачаць святла электрычнай лямпачкі, насельнікі заварушыліся і пачалі паказвацца на вуліцы.

Вынік быў самы нечаканы. Спачатку добра напалоханыя людзі мусілі адшукаць прыхаваныя да пары-часу свечкі. Потым узброіліся вёдрамі, пакорліва, не абураючыся. Але як жа ўсё-ткі проста можна давесці да роспачы гарадзяніна, пазбавіўшы яго цалкам вады!

Калі натоўп, абцяжараны балеямі, наблізіўся да вадавежаў, што былі змураваны па-над крыніцамі, яго сустрэлі шчыльныя шэрагі, узброеныя дубінкамі і вадамётамі. Казалі потым, што тое сталася ракавой памылкай, бо з тых, хто яшчэ вагаўся, гэтая падзея зрабіла заця-тых непрыхільнікаў рэжыму.

Восць калі ў горадзе пачалі нявечыць брук ды пілаваць слупы і дрэвы. Цяпер ужо людзі выцягвалі са спратаў паляўнічыя стрэльбы і ўсё іншае, што магчыма ўжыць супраць ворага. Тады ж быў дзёрзка разрабаваны магазін, у якім прадавалася зброя, і зроблены напад на пастарунак, дзе гарадзяне таксама выстараліся сякога-такога рыштунку.

Гэтак пачалася вайна, якая потым засталася ў школьных падручніках, шырэй — у аналах краю, пад назвай «хатняя». Але адбывалася яна надзіва млява, быццам войска зусім і не жадала ваяваць. Можа, гэта так і было, бо за гады папярэдняе службы жаўнеры не горш за афіцэраў прызвычаіліся вольны ад вучэнняў час прабаўляць з вінам у таварыстве кабет.

Пра ўсё гэта рэпарцёр мог даведацца з чутак, што кожны раз прыносіла старая кухарка. Сам ён панічна баяўся ўсялякіх звестак, бо ведаў: кожная ўлада можа вызначыць ягоны лёс як заўгодна. Бо ён ні пекар, ні шавец. Булкі і боты патрэбны ўсім аднолькава.

Самыя пакутныя былі дні, калі навокал панавала цішыня. Ён прачынаўся поначы ў халодным поце, усё часцей прыслухоўваўся: тэлефон па-ранейшаму мертва маўчаў. Адключыць яго ён баяўся, бо могуць здагадацца, што гэта невыпадкова і што ён хаваецца ад размовы наўмысна. Калі б не дзваніліся прыяцелі — нічога, можа гэта сцярпець нават і шэф рэдакцыі. А калі б тэлефанавалі адтуль?.. А раптам яны ведаюць аб усіх ягоных псеўданімах з падпольнага друку? Пра гэта не хацелася думаць, але адчапіцца ад назольных думак было немагчыма.

Міжволі ўспаміналіся нават розныя дробязі, якія маглі б адмоўна паўплываць на яго лёс сёння. Не прадуманае да канца рэзкае слова, недвухсэнсоўная нататка, асобны эпітэт. Гэта была смеласць ад адвечнага страху. Яму тады прадбачыліся занадта акрэсленыя акцэнты, бо ён быў самы чытальны аўтар. Калі разабрацца, дык чытачы шукалі на старонках ягонае прозвішча з-за яго смеласці.

Ну, а што датычыць эзопавай мовы. У гэтым ён таксама дасягнуў пэўных вышыняў. Адно хіба: вытанчанасць стылю часам рабілася настолькі віртуозная, што не ўсе маглі дапяць падтэксту. Але ўсё адно яго нядзельны слупок на апошняй старонцы — «У краіне Лідзіі» — чыталі з задавальненнем.

Тут прыемныя летуценні парушыў успамін пра дзве літары, дакладней — знакі, пытальнік і клічнік. Усе пішучыя машынкі, што прадаваліся ў крамах, былі іх пазбаўлены. У горадзе не цярпелі рэзкіх інтанацый, усё мусіла гучаць лагодна, прыемна для слыху. Не цярпелі і крыклівых колераў. Дамы маляваліся пераважна ў шэрай колеравай

гаме. Дык два знакі. Скрынка з імі, сабранымі некалі з усіх наборных кас і спілаванымі з усялякіх «Ундэрвудаў», пагэтуль стаяла ў друкарні. Гартавыя брусочкі бязладна ляжалі ўжо багата часу. У мінулым рупныя, паверхні знакаў ад доўгага няўжытку цяпер набылі цьмянае свінцовае адценне.

Яму ўсё трапляліся пад руку выключна адны клічнікі, а калі адшукаўся нарэшце пытальнік, яго заспеў на гарачым хтосьці, каму ён мусіў потым кожнага разу аддаваць палову ганарару, ажно пакуль той аднойчы не загінуў пад коламі аўто.

«Ну а ты зарэгістраваў сваю машынку?» Пытанне павісла ў паветры. Яны сядзелі ўдвух за столікам вулічнай кавярні. Побач нікога не было. Таварыш, напэўна, чакаў адказу. Ён жа, сумеўшыся, стаў чамусьці тлумачыць, як набыў сваю машынку. Здзівіўся, што трэба рэгістраваць яе. Ён працуе рэпарцёрам, машынка — яго прафесійны варштат. Размоўцу нібыта зрабілася няёмка, і ён па-сяброўску паляпаў яго па плячы, маўляў, не турбуйся, я проста запытаў, гэта не мае ніякага значэння. Не мае... Ну а што, калі? А раптам?

У дзвярах шчоўкнуў замок.

Гэта вярнулася кухарка.

Настаў дзень, калі ў суседнім двары знішчылі каталажку разам з вартавымі. Не паспеў развеяцца куродым ад выбуху, як усе пачалі чакаць помсты. Але дарэмна. Наступныя падзеі зблыталі ўсе папярэднія карты. Таго ж дня адбылося здарэнне ля вадакачкі.

З розных кварталаў горада каторы дзень чулася страляніна і, больш рэдкія, выбухі гранат. А неўзабаве па бруку загрукацелі тракамі танкі. Вось калі ў полымі каміна апынуліся рэшткі, самыя дарагія, асабістага архіва рэпарцёра. Следам за кніжкамі са старой арфаграфіяй і газетнымі выняткамі ён спаліў няскончаны раман, які начамі пісаў патаемна ад усіх.

Неспадзявана высветлілася, што танкі — кепская зброя ў гарадскім баі, яны аказаліся надта падступныя ў вузкіх крывых вулках. Шалі вайны нават схіліліся да іншага боку. Але баі не спыняліся. Газеты па-ранейшаму не выходзілі, а радыё рэпарцёр не ўключаў. Брахлівы голас, які вывяргаў пагрозы, слухаць было прыкра і нават зусім немагчыма.

Па яго прыйшлі, калі ён ужо бадай і не чакаў. Гэта здарылася раніцай наступнага дня, калі скончылася страляніна. Электрычны званок парушыў цішыню пакояў набатным звонам. «Нарэшце» — ёкнула сэрца.

Старая выпусціла вязанне, замітусілася, абуваючы пантофлі і прыгаворваючы «зараз-зараз», бо пазванілі зноў, засяшалася адчыняць.

Ён ляжаў у ложку, з рукамі, счэпленымі на грудзях, нагадваючы чалавека, які ўжо чакаў прычашчэння.

Яна адамкнула, зняла ланцужок і, убачыўшы ўзброеных людзей, не разгубілася:

— З таго часу, як яго забралі, ён болей не вяртаўся.

Яна ведала, што ўнізе іх чакае аўтамашына, і амаль пэўна — якая.

Яны не здзівіліся.

Наступнага дня па вуліцах, упершыню за доўгі час, зноў пабеглі хлопчыкі, размахваючы свежымі, толькі з друкарні, адбіткамі газет.

Старая спусцілася, каб купіць газету.

Сярод іншых паведамленняў яны з ёй знайшлі спіс замардаваных ахвяр рэжыму і, асобна, тых з іх, хто пасмяротна адзначаны новым урадам Крыжам адвагі. У гэтым апошнім слупку рэпарцёр убачыў і некалькі разоў перачытаў сваё прозвішча.

## ЛІБЭРУМ ВЕТА[1]

### 1. Хвароба ікс

На пяры, абмочаным у чарніліцы ды так і не скарыстаным, паволі высыхаў атрамант. І фраза, збляклая ў апошніх літарах, засталася няскончаная.

Вялікі стол быў завалены разгорнутымі фаліянтамі і паперай. Помеж стаяла цікавая лямпа, статуэтка. Але, бадай, найбольш вартае ўвагі было начынне для пісьма — прыбор белага мармуру з масянжовымі часткамі, грувасткі і старасвецкі. Цяпер такіх не вырабляюць і нават у антыквара іх не часта сустрэнеш.

Гэта быў рабочы стол прафесара Літаратуры, сівога чалавека, адпаведнага гэтай сівізне веку. Сам ён цяпер стаяў у альтане, вымураваным балконе з мноствам скульптурных збыткаў, і назіраў, як у калідор вуліцы чорным шнурам павольна ўцягваюцца вайсковыя аддзелы.

Надвор'е стаяла выдатнае: сонечнае і спакойнае. А разгублены прафесар не ведаў, бедаваць яму або цешыцца.

[1] Вольнае вета (лац.).

Калі першыя шэрагі ступілі на брук, зазваніў ратушны гадзіннік, і адразу яму адгукнуўся з касцельнае званіцы вялікі басавіты звон. Быў поўдзень. «Пунктуальнасць — ветлівасць вайскоўцаў»,— з іроніяй, якая толькі была магчымая ў гэтай сітуацыі, падумаў уголас прафесар.

Наперадзе калоны гарцаваў, зразумела — на белым кані, чалавек з шыкоўнымі наплечнікамі і яшчэ больш бліскучымі аксельбантамі. Грудзі яго ажно ззялі крыжамі і разнакутнымі зоркамі.

Войска наогул выглядала вельмі дагледжаным і цалкам сытым. Чаго былі вартыя адны толькі мундзіры, пашытыя з дыхтоўнай чорнай тканіны!

Ці не палова горада разявак выплюхнулася з пад'ездаў на вуліцы. Мноства іншых пазірала з вокнаў і балконаў, дахаў камяніц. Прафесару ніколі не даводзілася бачыць адразу столькі люду. «Пятая калона»,— без асаблівае прыязні вымавіў ён і вярнуўся ў пакой, шчыльна зачыніўшы за сабою дзверы, каб не чуць бравурнага марша. Прафесар не любіў гучнае, фанабэрлівае музыкі.

Але, барані бог, не падумайце толькі, што ворагі заўсёды прыходзяць у горад пасля крывавага бою на танкавай бране. Не, танкі, праўда, былі і гэтага разу, з паўтузіна, але ўехалі яны, вабячы вока новай, з гэткай урачыстай нагоды, фарбай. Усе накрыўкі ў іх былі адчынены, і маладзенькія вайскоўцы адорвалі зверху красамоўнымі позіркамі тутэйшых дзяўчат.

Жыхары мястэчка, не прывучаныя да ўласнага волевыяўлення, і на гэты раз аніяк не выказалі сваіх адносін да падзеі. Тутэйшае войска, якому даўно не плацілі грошы, пакідаўшы зброю, разбеглася па хатах. Урад наогул даў лататы праз мяжу ў суседнюю, падобную да гэтай, міні-дзяржаўку і, асвойтаўшыся са сваёй новай роляй, неўзабаве пачаў пладзіць адозвы да зняволеных землякоў, папярэдне звярнуўшыся з нотай пратэсту ў Лігу нацый.

А ў горадзе тым часам жыццё не спынялася.

Было наладжана свята, народнае гульбішча з феерверкам, пад час якога ўпершыню ў гэтай дзіўнай вайне прагучалі стрэлы, але былі яны бяспечныя. Кожны хлапчыска ведае, што набоі ў гэтым выпадку ўжываюцца без куляў. Дарэчы, пра хлапчукоў. Проста на пляцы для іх адчынілі цэлую скрынку шакаладу, і хто быў спрытнейшы, мог у той шчасны раз угрызнуць зубамі дармовага прысмаку. Мужчынам разлівалі ў куфлі з вялізнае бочкі на колах піва, мацярок частавалі кашай з перасоўнай кухні. Маладзейшым жа самай асалодай было танчыць з элегантнымі жаўнерамі вальс. Бо ўсе жанчыны любяць вайсковых, а наўперад дзяўчыны.

У гарадку панавала перамога...

За тыдзень-два былі саарганізаваны самыя дэмакратычныя ў гэтых абшарах, не прымусовыя выбары. Кіраўніком дзяржавы аднагалосна быў абраны адзіны прэтэндэнт — палкоўнік Дыктатар. Кожны выбаршчык быў заахвочаны прадуктовай карткай. Пасля ўрачыстай прысягі прэзідэнт выступіў на пляцы са зваротам да свайго народа і прыняў парад дзябёлых, як на выбар, гвардзейцаў. Тады ж адбылася прэс-канферэнцыя для замежных і мясцовых рэпарцёраў, і пра шчаслівыя падзеі даведаўся ўвесь свет.

Неўзабаве быў складзены і ўрад, старшынёй якога прызначылі ўжо знаёмага нам старога прафесара Літаратуры, вядомага сваёй мудрасцю і памяркоўнасцю. Павагаўшыся, ён згадзіўся, маючы надзею хоць неяк паслужыць на карысць свайго народа. Сапраўды, міналі дні, тыдні, месяцы, і ў людзей з'явіліся ўсе падставы быць задаволенымі сваім урадам. На біржы працы, прыйшоў час, дэманстратыўна, пад пстрыканне фотакамер павесілі пудовы замок. Кожны, нават раней лайдак і піток, мог цяпер і быў абавязаны хадзіць да працы. Дзяржаве патрэбны былі рабочыя рукі, шмат рук. Было распачата будаўніцтва вялізарнае падземнае пячоры, тунеля, сапраўднае прызначэнне якога трымалася ў таямніцы і было вядома толькі членам урада. Нават увішныя рэпарцёры абмяжоўваліся толькі паведамленнямі аб тым, што «мы капаем штосьці найсамае-самае-самае...»

Жыццё настала хоць і не зусім заможнае, але не бясхлебнае. Кожны працаўнік атрымліваў за работу прадуктовыя карткі, а для тых, хто меў яшчэ гатоўку, крамы не маглі змясціць усяе вяндліны і кілбас. Усё рабілася выключна для народа. Дзеля большае эканоміі ўвечары адключаліся электрычнасць і вада, гэтае ж меркаванне прымушала ашчаджаць туалетную паперу, мыла, запалкі і шмат іншага, але ўсе былі ўсё роўна шчаслівыя. Пра гэта пачалі казаць уголас і штораз гучней і красамоўней. Газеты, як заўсёды, апярэджвалі тут усіх астатніх разам узятых. Дарэчы сказаць, у мэтах тае ж эканоміі асобных газет для жаўнераў рабіць не сталі, а пераўтварылі ў двухмоўныя, з двума рознымі шрыфтамі. Але чытачы з часам самі адмовіліся ад старога, архаічнага алфавіта, на якім друкаваўся эмігранцкі лісток і які ўсяляк расхвальвала радыёстанцыя ўцекачоў, і зноў дзеля эканоміі — газеты сталі адзінашрыфтавыя. Карысць ад такога кроку была агульная. А тое ж радыё слухаць ніхто не забараняў, але сыты люд сам смяяўся і кпіў з абяцанак з-за рэчкі, згадваючы мінулае галоднае жыццё. Відушчы быў той, хто сцвердзіў: «І сцьмянеюць старыя казані перад новымі». І праўда, не карысталася ўжо колішнім попытам нават нядзельная імша ў храме, які абыходзілі бокам. У

нядзелю месціčы сем'ямі сядалі ля тэлевізара — выгоды, якую даў народу новы ўрад, і слухалі штотыднёвае выступленне Дыктатара, які прыгожа кляўся ў адданасці ім і абяцаў яшчэ большых дабротаў.

Але як гэта мы зусім забыліся на старога прафесара! А між тым на здымках у газетах ён пачаў з'яўляцца побач з самім Дыктатарам і ягонымі целаахоўнікамі. Запамінальны твар: пенснэ, добразычлівыя блізарукія вочы і рахманая бародка. Асабліва любілі яго чамусьці кабеты і дзеці. Дык вось, аднойчы прафесар вярнуўся дахаты зусім разгублены. Удзень яму давялося паставіць свой подпіс пад загадам аб пераводзе школак на новы алфавіт, бо ўсё адно, маўляў, газет з тым архаічным шрыфтам няма і ён наўрад ці спатрэбіцца дзятве ў жыцці. Прафесару было шкада свае працы: ягоныя тамы не будзе каму чытаць! Дый зараз пісаў ён паводле таго, колішняга, алфавіта і старому чалавеку выбачалі гэтае дзівацтва. Яго моцна засмучала і тое, што друкаваць напісанае, да чаго ён звык, не стала дзе: апошнім стараалфавітным выданнем быў часопіс для хатніх гаспадынь, з увагі на іхнюю малапісьменнасць і неадукаванасць. Але немагчыма сабе ўявіць даследаванне аб рыцарскай паэзіі побач з кухарскімі рэцэптамі!

Прафесар, седзячы на хатняй канапе, доўга аб нечым раздумваў, потым дастаў з футарала машынку, узяў стосікі паперы і капіркі. На вуліцы шамацела, неба ўспорвалі лукаткі бліскавіц. Было ўжо позна, калі прафесар, схаваўшы за пазуху аддрукаваныя аркушыкі, хвіліну павагаўшыся, адсунуў шуфляду і дастаў з яе штосьці. У пакоі даўно стала цёмна, задзьмутая свечка толькі курэлася.

Кансьержа ў доме не было, яго «скарацілі», адправіўшы працаваць у тунель. Але зараз прафесару гэта было зручна. Ён намацаў у кішэні ключ і пасля доўгіх намаганняў адамкнуў парадныя дзверы. Ноч дыхнула яму ў твар вільгаццю і прахалодай. Прафесару зрабілася золка і няўтульна. Але ён перамог ніякаватасць, ступіў колькі крокаў і падаўся вуліцай, прыціскаючыся да муроў. Прабіраўся ён незаўважна, бо адзіным святлом у гэты час было месячнае. У гарадку панавала звыклая каменданцкая гадзіна.

Збочыўшы на вуліцу імя 69-х Угодкаў, прафесар нарэшце спыніўся, дастаў адзін аркушык, трохі памарудзіў, адчыняючы бутэлечку канцылярскага клею, і стаў прыладжваць паперыну. Клеілася кепска: мур быў мокры пасля дажджу. Прафесар так заняўся сваёй справай, што не пачуў, як нехта апынуўся ў яго за спінай. Незнаёмец бесцырымонна паклаў яму на плячо руку. «Гэ-гэ-гэ, ты чаго тут ходзіш, стары лайдак?!» Прафесар павярнуўся. На яго пазіраў п'яны жаўнер, малады дзяцюк.

Стары надзіва спрытна сунуў руку за пазуху. Бліснула маланка стрэлу. Твар жаўнера сказіла нялюдская грымаса. Вочы, спачатку вар'яцкія, зрабіліся асэнсаваныя, цвярозыя, жаласныя.

Затым усё было скончана.

Прафесар зрабіў крок-два. Пайшоў, хістаючыся. Яго пачало ванітаваць.

## 2. Дзверы

Паводле архіўнае стэнаграмы

— Панове! — маршалак абвёў прысутных заклапочанымі вачыма і ўрачыста працягваў: — Вораг сёння ўжо не такі моцны, каб зусім адмовіць ідэю адраджэння нашае Бацькаўшчыны, але ён яшчэ досыць дужы, каб прызнаць яе цалкам. Мы сабраліся тут, каб абмеркаваць усе магчымыя шляхі, якія могуць прывесці нас да незалежнасці. Абмеркаваць і згуртавацца, каб разам рушыць абраным шляхам.

— Мне здаецца, нам трэба пачаць з размовы аб тым, што ёсць дзяржава наогул, у філасофскім, так бы казаць, сэнсе, і якое дзяржаўнасці прагнем мы.

Стэнаграфістка накрэмзала на аркушы першыя кручкі. Яе праца спрашчалася, што дэпутаты мелі кожны свой нумар, як на аўкцыёне. Афішаваць свае прозвішчы дагэтуль яшчэ не было цалкам бяспечным.

— Згодны! У гэтым ёсць рацыя. Мы сто год не ведалі ўласнай дзяржаўнасці, народ забыўся на самое паняцце гаспадарства. Ён не гаспадар у сваёй хаце!

— Давайце звернемся да Макіявелі, да ягонага трактата аб дзяржаве, да «Манарха».

— Трактат Макіявелі нам не прыдатны. Не развагі аб дасягненні ўлады, тым больш дыктатарскай, абсалютнай манархіі, патрэбны цяпер. Нас мусіць цікавіць лад дэмакратычны! Вось чаму пан Мантэск'е, ягоныя працы, высновы будуць больш цікавыя. Гэта ён меркаваў, што дэмакратыя магчыма толькі ў невялікіх, як наш, краях. Вялікім наканавана дэспатыя...

«Ша-р-рль! «Персідскія лісты». Цудоўны твор!» — грасіруючы, у нос вымавіла стэнаграфістка, нават сама гэтага не заўважыўшы, бо яе словы адразу зніклі ў гучных галасах спрэчнікаў. Яна была адзіная жанчына ў зале, але на яе ніхто не зважаў. Кабет на вуліцы было процьма, дык старая дзяўчына ніяк не магла б зацікавіць мужчынскую грамаду.

— Пан мовіць бязглуздзіцу! Пражэкты Мантэск'е і іншых да яго падобных увасобіліся ў дзеях французскай рэвалюцыі, першым крокам якой сталася зруйнаванне Бастыліі, а наступным — вынаходніцтва гільяціны!

— Але ж ён адрозніваў манархію ад тыраніі і ад дэспатыі, ці разумееце вы гэта?

— Прабачце, чым лепей у нашых умовах дэспатыя ад сатрапіі? Гэта нонсенс! Проста глупства гэтак думаць!

— Панове, заклікаю да парадку і ўзаемапавагі!

— Я прапаную ўважліва ўчытацца ў «Левіяфана» пяра Томаса Гобса. Ён відавочна заслугоўвае нашай увагі.

Жанчына занервавалася. Яна баялася заблытацца ў нататках, гэтак раптоўна змянялі адзін аднаго аратары. Яна не паспявала ўзнімаць галаву, каб пазначыць у стэнаграме адпаведны нумар. Хіба гэта прамоўцы? Кірмаш нейкі! Стэнаграфістка старой школы, яна прывыкла да спаважных парламенцкіх дэбатаў, самавітых прамоўцаў з залатымі ланцужкамі кішэнных гадзіннікаў на камізэльках.

—- Не-не-не! Мы не можам зараз пагадзіцца з Гобсам. Людзі не могуць, як ён гэта сцвярджаў, нараджацца варожымі паміж сабой і не можа быць першым натуральным законам змаганне ўсіх супраць усіх! Бэллум омніум контра омнэс[1]. Што за бязглуздзіца... Па-першае, людзі знішчылі б самі сябе. А па-другое, у такім выпадку мы цяпер не здолелі б згуртавацца тут. Кансалідацыя народа абвяргае вайну індывідуумаў!

— Але ж Мантэск'е таксама сцвярджаў, што гісторыя чалавецтва і асобных краёў ёсць гісторыя змаганняў.

— Панове, вернемся да зямлі. Ніхто не аспрэчвае, што жыццё — гэта рух, змаганне. Але мы не можам зараз практыкавацца ў схаластыцы. На пляцы чакае народ, чакае нашага рашэння.

Мы маем на сёння канкрэтнае, акрэсленае становішча. Прапаную дэталёва разгледзець яго і вызначыць шляхі нашых магчымых дзеянняў. Зрэшты, шляхі могуць быць тры. Якога жадаем мы? Вось пытанне.

— З тымі, з гэтымі альбо самі?

— Шаноўная грамада, баюся, што выйсці толькі два. Я маю сакрэтныя звесткі, што дэспатыя атрымала ультыматум пакінуць усе занятыя яе войскам абшары.

— Гэта яшчэ нічога не значыць.

---

[1] Вайна ўсіх супраць усіх (лац.) — афарызм аўтарства Т. Гобса.

— А пану гэтак хочацца, каб ягоны спакой у магістраце ахоўвалі чужынскія штыхі?!

— Гэтыя або тыя, ці не ўсё адно?

Спачатку сілячыся яшчэ нешта ўцяміць, стэнаграфістка неўзабаве страціла арыентацыю ў палеміцы і толькі машынальна натавала пачутае.

— Няма выгады мяняць сабе гаспадара, калі хочаш застацца лёкаем. А пагатоў — як імкнешся стаць гаспадаром самому сабе! Гэта так. Але давайма не размахваць кулакамі перад носам збройнага жаўнера! Затое раю ацаніць належна нашу сённяшнюю магчымасць і скарыстаць з яе. Мы вось тут седзімо ў белых манішках, пад гальштукамі, у чорных фраках, а па той бок фронту нашыя сябры правялі такі сход патаемна ў слясарнай майстэрні на пляцы Уніі.

— Гэтую пана магчымасць я разумею як абвяшчэнне культурнай аўтаноміі. Бо я не магу даць веры, што хтосьці здатны паважна спадзявацца на вольнае гаспадарства, якое трымаецца на варожых штыхах.

— Гэтая акцыя можа зрабіцца толькі першым крокам...

— Панове, я патрабую права лібэрум вета!

— ...Першым крокам. Тады мы звернемся ў Лігу нацый з нотай.

— І тады адно войска зменіцца іншым. Няўжо пан паважна мысліць сабе існаванне безабароннага краю? Безабаронны — заўсёды ахвяра. Драпежнікаў дагэтуль яшчэ не бракавала.

— За вольнасць не змагаюцца ў белых пальчатках!

— Пачакайце. Нас сапраўды не цікавіць лёс марыянетачнае дзяржаўкі або пратэктарата. Не дзеля гэтага нашыя дзяды пралівалі сваю кроў у паўстаннях. Наш рух, усе папярэднія падзеі адбываліся згодна з вядомай логікай. Спачатку ўтварэнне арганізацыі, затым — газета і, хочацца сказаць, абвяшчэнне незалежнасці гаспадарства. Але давайце не спяшацца. Хто дасць гарантыю, што заўтра не прыйдзе вайсковы патруль і не выкіне ў акно ўсе нашы дэкларацыі ды не апячатае будынак?

— Я дам такую гарантыю!

— Хто, хто гэта? — захвалявалася зала.

— Паручнік фон Ка,— пракацілася па радах.

Ах гэтыя вайскоўцы! Забілася мацней сэрца стэнаграфісткі ад прыліву эмоцый. Але дзе ж ягоныя наплечнікі, мундзір, дзе крыжы?! Жанчыны трацяць прытомнасць ад бляску эпалетаў. Ах, па-ручнік!..

— Не спяшайцеся, паручнік. Сваю гамонку я якраз скіроўваю туды. Да пэўнай канкрэтызацыі. Мне здаецца, гэта павінна быць

галоўнай вымогай сённяшняга сходу. Такім чынам, мова ідзе аб тым, што продкі называлі «Паспалітым рушэннем».

— Збройны выступ.

— Называйце гэта як заўгодна. Але я маю на ўвазе яго падрыхтоўку, сама акцыя — ужо справа дзесятая.

— Панове, давайма не прыспешваць сябе. Неразважлівасць у гэткіх выпадках...

— Правакатар!

— Дайце яму сказаць.

— Лібэрум вета патрабую!

— Цішэй!

— Суніміце яго!

— Рэч вось у чым. Я ведаю, што не адзіны йшоў сюды зрабіць менавіта разважлівы выбар. Шмат хто з панства жадае не крыві, а мажлівасці будаваць уласную дзяржаўнасць. Тут узгадвалі пра паўстанні. Што, іхнія вынікі нас так нічому й не навучылі? Мы хочам канстытуцыйна ствараць Бацькаўшчыну! Кроў яшчэ не ёсць парука поспеху. Трэба толькі дамагчыся ад Лігі нацый...

— Дамагаюцца моцныя. Кволыя — просяць!

— Як сабе хочаце. Мне здаецца, не ўсім да душы збройнае змаганне ад заўтра. Для гэтага патрэбны грошы. Шмат грошай. Золата. Патрэбны зброя, людзі, здольныя з ёю абыходзіцца. Што, у паручніка ўсё гэта ўжо ёсць?

— Грошы дасць пан!

— Мае грошы — папера. У краіне разруха і інфляцыя. Вы ж прагнеце гармат з Крупавай сталі, бельгійскія стрэльбы. Фантастыка!

«Мае вы летуценнікі! — з пафасным націскам прамовіла ў думках чапурыстая стэнаграфістка.— Круп, гэты багаты нямецкі фабрыкант, ён — апавядаюць — набыў для сваёй маладзенькай палюбоўніцы выспу ў моры. Фабрыканты — яны не летуценнікі, не! Яны маюць грошы і купляюць на іх выспы. А гарматы ім не патрэбны, яны іх толькі прадаюць. Усе каханкі, напэўна, любяць грошы не менш за жонак».

— Ды дзе наогул быў пан, калі мы пачыналі нашае змаганне? Дзе? Сыта кпіў хіба з маладзёнаў, якіх мардавалі гумай паліцыянты. Якога, маўляў, ражна ім трэба, гэтым студэнтам! Ведаю. Ці не так, пане імярэк?!

— Кіньце сварыцца. Сапраўды, мы яшчэ не гатовы да таго, на што нас штурхаюць.

— Дзяржаве — так! Збройнаму чыну і кровапраліццю — не!

— Я, паручнік фон Ка, прапаную адзінае разумнае выйсце. У нас зараз ёсць рэальная магчымасць адрадзіць сваю Бацькаўшчыну. Калі мы, прысутныя тут, не скарыстаем яе, нашчадкі не даруюць нам гэтага. Каго будзе цікавіць, ці мелі мы грошы і ці быў да нас прыхільны пан Круп.

Мой план просты...

— Лібэрум вета!

— Няхай пан замаўчыць! «Лібэрум вэта» — сёння гэта анахранізм. Адзін за ўсіх вырашаць не можа. Гэта супраць волі бога.

— Такім чынам, мой план надзвычай просты. Калі вораг адыдзе за паўночную дэмаркацыйную лінію, а гэтак абавязкова здарыцца, нашыя аддзелы апануюць мясцовасць і зоймуць абарончае збудаванне «Судэты», каб не пусціць да сябе паўднёвага суседа. Адначасова абвяшчаецца ўсеагульная мабілізацыя. Па некаторых падліках, мы маем яшчэ тыдзень-два, каб стварыць вайсковыя аддзелы і сабраць у насельніцтва каштоўнасці, на якія хоць часткова выкупім арсеналы «Судэтаў». Дэспатыі давядзецца расплочвацца за рэпатрыяцыі. Наша золата не будзе пры гэтай нагодзе лішнім.

— Нашу любую Бацькаўшчыну спярэсцілі калючыя драты, перацялі яе напалам, і мы лепей загінем, як дамо начаціць ёй новыя кайданы!

— Да зброі!

Усе ўзнімаюцца і натхнёна спяваюць «Каханая Бацькаўшчына». У вачах блішчаць слёзы.

Захопленая знянацку, стэнаграфістка спачатку хапатліва спрабуе натавадь словы гімна, але асадка падае з яе рукі, і на паперы ўзнікае калматая клякса. Кабета ўскоквае і ўсхвалявана, дрыготкай рукой знімае са свайго гарбатага носа акуляры. З апошнімі ўжо словамі песні яе па-жаночы кволы голас тоне ў хоры астатніх.

Здавалася, спеў знітаваў людзей.

Маршалак, усхваляваны, звярнуўся з заключным словам да суайчыннікаў:

— Зараз мы ўсе ўзнімемся са сваіх месцаў і выйдзем адсюль праз адны з двух дзвярэй. На першых напісана «Так», на другіх — «Не». Перад гэтым я раю ўсім зрабіць слушны крок. Каб гэтыя дзверы сталіся сімвалічным уваходам у нашую вольнасць, ужо на векі вякоў...

Заляскалі крэслы. Зала ажыла. Гэта быў амфітэатр медычнай навучальні. З усіх бакоў, зверху людзі спускаліся ўніз, у цэнтр «сподка», тоўпіліся вакол кафедры, віншуючы адзін аднаго, а потым рушылі да выйсця.

Адны выходзілі з узнятай галавой, годнай хадою, узрушаныя. Іншыя вінавата — не глядзелі адзін аднаму ў вочы.

Але ладная палова дэпутатаў нібыта замерла.

Яны ведалі, што на вуліцы стаіць войска з прымкнёнымі штыхамі. Ведалі, што яно не дужа надзейнае для свайго камандавання і што на пляцы сабраўся і чакае народ. Ды ўсё адно нешта іх стрымлівала. Яны не маглі так адразу згадзіцца. Але і сказаць «не» не адпавядала іх гонару. Гэтыя людзі вагаліся. Але для іх не было прадугледжана тут іншых дзвярэй. Заставаўся хіба чорны ход.

Раптам, распіхваючы ўсіх локцямі, зверху заспяшаўся нейкі чалавек, парушаючы ўрачыстасць працэдуры, якая адбывалася ў зале. Ён праштурхаўся да кафедры і, ляснуўшы па ёй кулаком, зароў: «Лібэрум вета!»

Стэнаграфістка страціла прытомнасць.

*ЗАЎВАГА: аўтар скарыстаў дакументы з архіваў фонду Ю. Пілсудскага за 1918 год, што знаходзяцца ў сховах бібліятэкі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве.*

## 3. Дэпеша

Калі б прыўзняць фіранку, дык можна было заўважыць, як за бруднай шыбай паўпадвальнага акенца, да ўсяго яшчэ закратаванага, раз-пораз з'яўляліся нязграбныя салдацкія боты. Не трэба было нават і напружваць слых, каб пачуць дзвынканне падковак аб мокры брук. Патрулі рухаліся з дакладнасцю насценных ходзікаў. Але адсоўваць фіранку ні ў якім разе было нельга. За парушэнне інструкцыі аб зацямненні святла каралі без літасці.

Нізка спушчаная са столі гарэла лямпачка пад металічным парасонікам, які пакідаў вялікі пакой — падобна, нейкую майстэрню — у паўзмроку, асвятляючы толькі колца на стале з двух ссунутых варштатаў. На падасланых газетах стаяла бутэлька-пляцёнка і гліняныя кубкі з налітым, але не скаштаваным чырвоным віном. Навокал была раскладзена сціплая спажыва: рыба, гародніна, хлеб. Усё гэта разам, залітае цьмяным святлом нямоцнай лямпачкі, нагадвала нацюрморты фламандскіх майстроў.

Падобна было, што людзей, якія згуртаваліся за сталом, ежа ніколькі не цікавіла. Яны аб нечым зацята спрачаліся. Аднак гамонка, між тым, была нягучная, бо размаўлялі напаўшэптам. Таму ў дальнім куце памяшкання няможна было б зразумець усе падрабязнасці

гутаркі. Але паступова яна рабілася спакайнейшая, уваходзіла ў свае берагі, як рака пасля паводкі.

Раптам недзе аддалена пачуўся стрэл, а праз некаторы час — выццё сірэны. Людзі змоўклі ды пагасілі святло. Гармідар на вуліцы доўжыўся нямала. Усе сядзелі ў напяцці. Аднак пакрысе ўсё сцішылася. Зноў запалілі лямпачку, хмурачыся хвілінку ад яе святла. Мужчыны ўжо зусім паспакайнелі, знік і іхні спрэчны імпэт. Здавалася, усё ўжо сказана было дагэтуль. Але не прыйшоў яшчэ час сыходзіць, бо разумней было счакаць. Яны зноў прысунуліся бліжэй да стала, і размова аднавілася. Зрэшты, гэта было некалькі маналогаў пастфактум.

Чалавек з вытанчанымі рысамі твару, з абліччам, якое з галавой выдавала ў ім інтэлігента, магчыма, местачковага доктара ці журналіста, гаварыў прыгожа і пераканаўча. Ён казаў, што зрабіць хвораму надрэз скальпелем і адмовіцца затым ад аперацыі — вар'яцтва, калі не больш — сапраўднае злачынства. Хворы можа памерці, і ніхто ў такім выпадку не даведаецца дакладнага, слушнага дыягназу! Так-так, сцвярджаў ён. А калі справу давесці да канца, адпрэчыўшы ўсялякае ваганне, дык нават калі апераваны не выжыве, веданне абставін ягонае хваробы дапаможа ў будучым выратаваць іншых людзей. Бо хваробы, працягваў чалавек, паўтараюцца. У гэтым ёсць дабро для эскулапаў...

«Мерцвякоў у трупярні прэпаруюць таксама не дзеля пустой цікаўнасці»,— уздыхнуўшы, закончыў ён змрочна.

— Гэтай зборняй, сваёй прысутнасцю на ёй мы ўжо падпісалі сабе прысуд. У гэтым краі нават сцены, здаецца, маюць вушы,— спакойна, але з жорсткасцю ў голасе мовіў другі, твару якога не было відаць.— Значыцца, адгэтуль іншага выйсця ў нас папросту няма. Іншым можа быць толькі адно — падначаліцца.

— Ды што тут кагосьці пераконваць? — дадаў яшчэ нехта.— Узгадайце прыклад з тымі паўстанцамі, што прастаялі на пляцы ў чаканні, пакуль імператар апрытомнее ад страху, ці тую рэвалюцыю, якая загінула ад варожага кубла побач са сталіцай, бо раздушыць яго палічылі неінтэлігентным. Хіба гэта не ўрокі для нас?

Потым былі сказаны яшчэ нейкія словы. Важныя ці не дужа. Пасля ўсе ўсталі і, стоячы, выпілі віно, моўчкі, нічога не кажучы, як гэта робіцца зазвычай. І толькі адзін прашаптаў убок, як у тэатральнай дзеі, альбо толькі падумаў гэта: «За поспех безнадзейнай справы...» — і таксама адпіў з кубка.

Яны ішлі доўгім лабірынтам калідора, крочылі цераз мураваныя клеткі дамоў, міналі брамы, крадком спяшалюя перасекчы вулкі. Па

дарозе да іх далучыліся яшчэ нейкія людзі. Удала дабраўшыся да патрэбнага месца, яны спусціліся ў зеўру каналізацыйнага люка і зніклі тамака разам са сваім ладункам, насунуўшы за сабой чыгунны панцыр накрыўкі.

Далей мусілі прабірацца амаль па пояс у вадзе. Ад смуроду было цяжка дыхаць. Праменьчык ліхтарыка ліхаманкава скакаў па слізкай, зялёнай муроўцы сутарэння. Ішлі, угнуўшы галовы. Той, у каго быў ліхтарык, час ад часу спраўджваў шлях па схеме, асвятляючы паперку, якую вымаў з кішэні.

Немаведама колькі так мінулася часу. Напэўна, была ўжо глыбокая ноч, калі ўвесь гурт выбраўся вонкі і, захмялеўшы ад чыстага паветра, чарадой пачаў караскацца ўгару па пажарнай лесвіцы. Цераз акенца ў даху ўсе трапілі на гарышча, а адтуль — праз загадзя адамкнуты ход — усярэдзіну.

Сонная цішыня гвалтоўна лопнула. Камяніца напоўнілася бязладным рэхам стрэлаў. Белы мармур парадных усходаў афарбаваўся крывёю, суладдзе яго ліній знявечылі трупы, якія яшчэ толькі што былі жывымі людзьмі.

Будынак быў зроблены як не абарончы: моцныя муры, вузкія вокны высока над зямлёй, дубовыя дзверы з завалай і герсай — апускнымі кратамі. Вось чаму яго няцяжка было падрыхтаваць да аблогі. Неўзабаве аб муры зашчоўкалі кулі, зазвінелі шыбы, пагасла раструшчаная неонавая шыльда «Тэлеграф». Праз хвіліны ўсёператварылася ў суцэльную страляніну: строкат кулямётных чэргаў, карабінныя стрэлы, выбухі гранат. Падыходзілі новыя аддзелы, і напал бою штораз мацнеў. Усё войска скупавалася вакол тэлеграфа, апанаваўшы прылеглыя да яго вулкі.

Але ўзяць штурмам будынак ніяк не ўдавалася. Адзіны яго ўваход, надзейна ўмацаваны, перакрэсліваў усе самыя смелыя планы, а гарачы свінец зверху наогул ставіў кропку ў жыцці кожнага, хто толькі спрабаваў наблізіцца да цытадэлі. Афіцэры ў думках развіталіся з наплечнікамі. І, мусіць, раніцай гэтак бы і здарылася, каб не адзін кемлівы прапаршчык...

Калі з воклічам «гур-рра!» узброены натоўп кінуўся да праломіны ў месцы, дзе толькі што былі дзверы, на другім паверсе з вар'яцкімі вачыма тэлеграфіст — пад руляй нагана — механічна, у каторы ўжо раз адбіваў: «Усім-усім-усім клч Пачуйце нас клч Перадайце Лігу нацый крп Просім дапамогі кск карных захадаў супраць Сатрапіі крп Літаніі створаны ўласны ўрад крп Абвяшчаем край незалежным крп Паратунку клч»

Ды, падобна, гэта было марнай працай. Пашанцавала або не літанцам, але яны апынуліся нібы ў абдоймах дзвюх дзяржаў. Жаўнеры аднае з іх беглі зараз угору па мармуровых усходах. Другая — трымалася нейтралітэту. Мір і спакой панавалі на яе абшарах. Дзяжурны тэлеграфіст спаў, яму і не ў галаве было, што камусьці можа заманулуцца тэлеграфаваць сярод начы. Ну якія могуць быць яшчэ паведамленні, апроч віншаванняў і звестак аб датах прыезду ды нумары цягнікоў?! Калі нават некаму і занецярпівіцца, з гэтым можна пачакаць. Бо ўсе ж спяць! Спаў і тэлеграфіст, не чуючы, як выстуквае свой аднастайны спеў груваcткі тэлеграфны апарат з крыжовай шпуляй на баку.

Папяровая стужка, спярэшчаная літарамі, серпанцінам клалася ў кошык для папер.

## ВАСКОВЫ ТВАР

...Вада нахлынае на ўсыпаны друзам бераг, знікае, зноў вяртаецца. Гэта паўтараецца безліч. Калісьці рака, штогод плытчэйшая, цяпер гэта шырокая пратока, другі бераг якой адно курэе, хаваючы сваё іншае, адметнае ад нашага, а таму вабнае і таямнічае жыццё. Падыходзіць да вады не забараняецца зусім, але рабіць гэта не пажадана. Увесь бераг усцяж праглядаецца з розных месцаў: вежаў, званіц, высокіх дахаў. Я ведаю, што за мной сочаць, адчуваю на сваёй спіне праніклівыя позіркі праз акулярыкі оптыкі. Але я не баюся дастаць кулю ў спіну, бо мы з імі, лічы, знаёмыя. Іх я ніколі не бачыў, але яны мяне амаль штодня, бо я не здатны анічога з сабою зрабіць. Пастаяць ля вады й паўзірацца ў смугу на захадзе — адзіная палёгка ў жыцці кожнага жыхара нашага клятага горада. Аднак амаль не баюся, бадай, адзін толькі я. Паміж намі нібы існуе маўклівае пагадненне, зрэшты, хутчэй папросту аднекуль з верхніх паверхаў дзяржавы дазволілі мне такі мой выбрык: пісьменнік... Усё адно яны ведаюць, што я не ўцяку і ніхто не ўцячэ. Рака мёртвая. У ёй няма анічога жывога. А яшчэ ж, напэўна, існуюць падводныя сецішчы і плывучыя міны! У ручве патрулююць ахоўныя катэры. Уцячы аніякай магчымасці. Хіба на дэльтаплане, калі пашанцуе і будзе спрыяць вецер. Але пакуль ты зробіш і выпрабуеш той дэльтаплан, усё стане вядома сэкурытатэ. Дый усе прыбярэжныя горы апанаваны вайсковымі назіральнымі пляцоўкамі, бункерамі, пеленградыёстанцыямі.

Я стаю і гляджу ў ваду. А ўвечары я напішу наступную частку рамана аб гэтым бязмоўным народзе, які прагнаў захопнікаў ледзь не паляўнічымі стрэльбамі і пасадзіў сабе на карак сваіх хатніх ворагаў,

горшых за ўсялякіх іншых. Я кляну свой лёс, што не даў мне застацца да скону простым мулярам або прыбіральшчыкам смецця. «Дзяржава цябе вучыла, і ты мусіш аддаць усяго сябе службе ёй». У тваім выпадку — пяром. Так, нават не машынкай, мецць якую забараняецца, бо яна дае магчымасць распаўсюджваць друкаванне, а адбіткаў у нас жудасна баяцца. Панічная боязь і праз яе — забарона некантраляванага слова. Я буду апяваць гэты народ, яго змаганне з прыхаднямі, а потым у мяне быццам струна абарвецца, як лопаецца раптоўна ўнутры раяля, бо ніякае натхненне ўжо не дапаможа, таму што табе пільна спатрэбіцца фальшывы голас. А сфальшывіць, калі ўжо ты адчуў моц свайго голасу, цяжка, а можа, нават і зусім немагчыма, як немагчымы чысты спеў пры адсутнасці слыху й голасу. Мне сфальшывіць — што графаману напісаць геніяльны твор. Я стаю ля вады і пераконваю сябе: «Ты — Ісмаіл Дабар». Той самы, які напісаў выдатны раман і сапсаваў яго апошнім, штучна далучаным раздзелам аб будынку Цэнтральнага Камітэта Партыі. Заўважаю, што сапраўды шапчу сам сабе: «Я — Ісмаіл Дабар, я — Ісмаіл...» Прыйду дахаты, сяду за свой стол з шуфлядамі і напішу чорным атрамантам: «Раздзел 28-мы. Абзац: А потым настаў час мірнай стваральнай працы». І болей не выдушу з сябе ані слова. Мой раман-эпапея пасля гэтага не пасоўваецца наперад паўгода, бо словы скончыліся. У палітычным выдавецтве мяне, мусіць, пахавалі ўжо, а сябе разам са мною. Да гістарычнага з'езда партыі застаецца ўсё менш часу. Нават калі я небяспечна спазнюся, яны будуць працаваць дзень-ноч, абы паспець выдаць да гэтае даты мой раман. А калі я не паспею зусім, мы ўсе апынёмся ў глыбінцы нашае краіны Дзукіі, у бязлюднай яе частцы, дзе ёсць (цс!) уранавая гара.

Паварочваю ключ у дзвярной адтуліне. Вось я й дома, калі гэта месца толькі можна так назваць. Не, усё ж дом і іншага ў мяне не будзе. Распранаюся, запальваю фаерку, закручваю кран і стаўлю на агонь ваду. Зноў будзе табе гарбата без паху і з ніякім смакам хлеб (краіна перажывае цяжкасці!), да якога дадам скрылёк маргарыну. У мяне таксама яшчэ ёсць крыху цукру, лыжачку якога я, мажліва, сабе сёння адшкадую. А можа, й не, хутчэй за ўсё. Талонаў на цукар у мяне болей няма. Затое ёсць на гарбату, якой у крамах усё адно не знойдзеш. Што ж, я й так мушу заварваць двойчы, але некалі, ведаю, яна ў любым разе скончыцца. Выйсце будзе: ліпавая квецень ды зёлкі, калі дачакаюся лета. Цяжэй з цукрам. А калісьці мне даводзілася нават піць каву. Яе мянялі на зброю ў адной афрыканскай дзяржаўцы, пакуль яна трымалася нашае арыентацыі... З'ядаю хлеб з салена-

ватым маргарынам. Трэба эканоміць. Газу таксама трэба ашчаджаць. І асабліва электрычнасць.

Спыняюся ў дзвярах пакойчыка, прыглядаюся: ці не шукалі зноў чагось у маю адсутнасць? Не. Здаецца, не. Радыё нібы чакала, каб аглушыць мяне «Інтэрнацыяналам». Гэты ненавісны вялікасны фальцэт, што чытае апошнія навіны, якія заўсёды аднолькавыя, і захопленая скорагаворка паведамленняў з месцаў. Ад гэтага ўжо нават не ванітуе, нутро адгукаецца адно чымсь падобным на пякотку. Міжволі моршчуся. Пакруціў ручку радыё, хоць ведаў, што марна: або, нібы роў авіярухавіка, глушнікі, або — «Інтэрнацыянал». І ўсё адно ўсе радыёпрыёмнікі — на спецуліку, як калісь паляўнічыя дубальтоўкі. Пачынаю ціхенька напяваць сабе «Уставай, пракляццем катаваны!». Успамінаю: лепшы спосаб пазбыцца рэалізму — давесці яго да абсурду. Двойчы паспрабаваўшы, пачынаю спяваць на поўны голас. Пераканаюць суседзі... Ці, можа, ёсць каторы смелы, каб паскардзіцца на спевы Вялікага Гімна?! Вам баліць галава? Значыцца, яна не зусім здаровая...

Сядзеў над сшыткам да трэцяй гадзіны ночы. Потым нечакана намаляваў мужчынскія геніталіі й заваліўся спаць. Сніў брыдоту, баяўся. Прачнуўся рана («Інтэрнацыянал» за сценкай!). Пачаў галіцца і вельмі няўдала. Паспрабаваў у прыбіральні чытаць газету, яшчэ больш узлаваўся. Вады не было. Зноў давялося наліваць падрыхтаванай з вядра. Потым усё ж пацякла, нават крыху летняя. Памыўся. Разглядаў свае геніталіі (сувязь з начным малюнкам?), задумаўся. Навошта яны мне, калі ў іх няма патрэбы, дакладней — калі нельга мне, як непабранаму, ужываць іх? Партыя адной са сваіх вялікіх задач бачыць захаванне маральнасці народа. Ніякае каб не было распусты. І потым, патрэбны жаўнеры, павышэнне нараджальнасці, а значыцца — шлюб. Ні адная жанчына не наважыцца прыйсці сюды і не пусціць мяне да сябе. Гэта адназначна турме, дзе, дарэчы, кажуць (пад вялікім сакрэтам!), існуе лесбіянства й мужаложства... Не, я не маньяк, і думкі мае максімальна банальныя. Мяне ўжо даўно не цікавяць мае рудыментарныя геніталіі, папросту думка пра іх скіроўвае мяне да высновы пра мае пяро. Вось і ўсё. Аніякіх, як бачыце, думак пра распусту. Пра жанчын, іхнія пругкія грудзі! іхнія мяккія клубы! і самае-самае-самае... А-ха-аха, сэрца штосьці захвалявалася.

Трэба неяк ліквідаваць той аркуш, з геніталіямі. Але ж як? Старонкі пранумараваны. Могуць жа тэкст праўдзіць, у любы час могуць, калі мяне нават дома не будзе. Прыйдуць, адамкнуць, адсунуць шуфляду, разгорнуць клятчасты сшытак... Хіба з сабою яго насіць, таксама небяспечна, спыняць на вуліцы. абшукаюць.

Праца ў мяне такая. Сяджу ў вітрыне кнігарні імітуючы вялікіх пісьменнікаў. Каго менавіта, вырашаюць у Цэнтральным Камітэце. Мне гэтая праца дасталася як прывілея за пісьменніцкія здольнасці. Не падумайце толькі, мне таксама даводзіцца цяжка, але гэта, канечне, не тое ж самае, што ў капальні здабываць вугаль. Я мяняю адзенне, над маім тварам завіхаецца тэатральны грымёр (тэатр — побач). Усё гатова! Я сяджу ў пісьменніцкім пакоі з кніжкай за сталом. Таго аўтара чытаю, пад якога я ўбраны. Праз акно за мною назіраюць цікаўныя. Зрэшты, гэта зроблена пераважна для нячастых і нешматлікіх замежных турыстаў, каб прывабіць іх у наш горад. Разявакаў на вуліцах наогул, апроч нядзелі, не бывае. Усе на працы. А наш люд вой як яшчэ любіць паглядзець на мяне! Ім здаецца, што я — васковы, пра лонданскі музей яны маглі прачытаць у газеце. Натоўпу падабаюцца злепкі людзей, нежывыя людзі. Хлеба не давай, дазволь адно пазыркаць! «Змрочны гумар васковых фігураў заўжды прыводзіў да захаплення просталюдзінаў»[1]. Каб усё было цалкам падобна і ніхто не здагадаўся пра падман, я, калі адчуваю, што больш не здатны захаваць свайго скамянелага здранцвення, магу зрабіць перадых. У мяне ёсць пад нагой гузік. Я націскаю яго, і фіранкі на акне зашморгваюцца ўраз. Увечары ж папросту гасне святло. Рабіць доўгіх пярэрваў не дазваляецца, але я маю магчымасць паварушыцца, пазяхнуць, перагарнуць сто разоў перачытаную старонку кнігі. Лепей, канечне, ад пачатку глядзець убок, але тады часам цяжка схаваць адвольныя зрухі твару. Але нічога, яны, як дзеці, наіўна вераць, што я — не я, а, скажам, Франсуа Рабле або той жа Ісмаіл Дабар, які напісаў вельмі правільны раман, у якім здолеў з праўдзівай сілай паказаць будынак Цэнтральнага Камітэта Партыі.

Іншая рэч — замежнікі. Дагэтуль яны ведалі адно — чырвоныя пакоі з прастытуткамі, якіх можна выбіраць на свой густ, шпацыруючы па вулцы. У нас замест прадажнае жанчыны быў выстаўлены на агульны агляд прадажны мужчына, лаўрэат і ўсё астатняе. Цікава, што адчувалі яны, бачачы мяне: шкадобу, грэблівасць, проста цікаўнасць да экзотыкі? Я ім моцна зайздросціў. Яскрава ўяўляў, як пераапрануся кімсьці з іх... Зрэшты, гэта немагчыма ў нашых умовах. Забіць каторага з іх, каб уцячы з ягоным пашпартам? Аніякага пачуцця рэальнасці! Лёс, наканаванне або нават пракляцце нарадзіцца менавіта тут, цяжка гібець і тутака ж памерці, сканаць, здохнуць... Не, яны мяне не шкадавалі, яны таемна радаваліся, што сяджу васковым пудзілам я, а не хтосьці з іх, хто мае шчаслівае права пакінуць наш

[1] Паводле Артэгі-і-Гасэта Х.

жудасны горад і болей ніколі сюды не вяртацца. Для іх паездка сюды — прыгода і магчымасць паказытаць свае нервы. Усё адно як экскурсія ў турме. Дзверы за тваёй спінай жалезна замыкаюцца, але ты ведаеш, што цябе павінны будуць выпусціць.

Сёння я сеў у анфас да акна і апоўдні ўбачыў маладую жанчыну. Я выразна заўважыў шкадобу да сябе ў яе вачах, яна затрымалася больш за іншых, а потым яе паклікалі і з усімі разам павялі аглядаць паліцы адзінае ў горадзе кнігарні, застаўленае творамі класікаў рэвалюцыйнага вучэння. Потым я ўбачыў яе мімаходзь яшчэ аднойчы. Назаўтра яна прыйшла зноў, але ўжо адна (як ёй гэта толькі ўдалося!). Больш я яе не бачыў. Цяпер я нічога не чытаў, а ўсё ўспамінаў яе і марыў. Пры гэтым у маіх нагавіцах штосьці пачынала варушыцца. Можа, я дарэмна думаў, што яна мяне пашкадавала. Адкуль ёй было ведаць, што я жывы муляж? Праўда, я неўпрыкмет колькі разоў мірганууў, калі яна глядзела на мяне, але ці заўважыла гэта яна... Яна ж магла быць папросту сентыментальнай бібліяфілкай, якая разглядала ў кніжных шафах тытулы кніжак, не ведаючы, што гэта таксама муляжы. Але ўсё адно я не мог на яе забыцца.

Аднойчы я прывёў да сябе кабету. Што? Не, вядома ж, мы прыйшлі паасобку. Я чакаў і ціхенька ўпусціў яе. Мы гэтак хваляваліся, што ў нас нічога не атрымалася. Але нам усё адно было вельмі добра разам, я пачаставаў яе нейкай някепскай гарбатай і адкроіў пшанічнага хлеба з яблычным мармеладам. Мы нават супольна курылі (яна вельмі прасіла пра тое нікому не казаць). Потым я чытаў ёй пачатак свайго рамана. Ёй спадабалася. Калі зусім сцямнела, мы выбраліся праз акно па пажарнай лесвіцы. Я прычыніў акно. Красці ў мяне не было чаго, а сшытак я часова схаваў у скрынцы са смеццем. Хаваючыся, я праводзіў яе, і мы дамовіліся аб наступнай сустрэчы. Болей я, назавём яе Бэртай, не бачыў жанчыны, з якой у мяне нічога не адбылося. Я паспрабаваў пацікавіцца, што з ёй, і адразу ўсё зразумеў. Мяне гэтае здарэнне страшэнна напалохала, я баяўся на вуліцы ўзняць вочы, я чакаў, але разам спадзяваўся, што, можа, яшчэ й абміне. Усе спадзяюцца на гэта і робяцца як шаўковыя. Уцячы адсюль нельга.

Аднойчы, калі я доўга-доўга ўзіраўся ўдалячынь, мне пачало здавацца, што таго другога, зусім іншага берага няма і ніколі не існавала, а мы сабе самі яго вымыслілі, каб лягчэй было трываць. Уцякаць мне не было як, і я ўспыхліва ўзяўся пісаць пра вялікасны будынак Цэнтральнага Камітэта Партыі, каб паказаць ім напісанае, калі па мяне прыйдуць з кайданамі. Я пісаў пра тое, што даўней там ладзілі балі каралі, а сёння выразніца народных інтарэсаў мудра дбае пра лепшае заўтра гэтай працавітай краіны... Я пісаў і адчуваў нейкі

жудасны і цяжкі хмель (ці не такая невядомая нам наркаманія?). Потым я як бы цверазеў і тады адчуваў гідлівасць да сябе. Але я не ведаў ніякага іншага выйсця... Мой «васьміножац» болей не варушыўся. Неяк я стаяў, мыўся пад іржавым друшлячком. Узяўся за чэлес, ён не паказваў прыкметаў жыцця, тады я сціснуў яго ў жмені, ён расцёкся, як недалітая вадой грэлка. Небарака, таксама баіцца.

Сягоння меў бяссонне. Устаў і ціхенька ўключыў радыё. Выпадкова мне ўдалося пачуць голас з таго берага (значыцца, ён існаваў!). Паведамленне ўсхвалявала мяне. Ісмаіл Дабар эміграваў, уцёк, прычым яшчэ тыдзень таму. Так заўжды: або сапраўдныя навіны трапляюць да нас з вялікім спазненнем, або зусім пра іх не даведваемся. У сваёй ідыёцкай вітрыне я думаў толькі аб гэтай, вельмі важнай для мяне падзеі. Я лічыў яго цяпер здраднікам, бо ён пазбавіў мяне прыкладу, не спыніўся перад прыкрым канфармізмам. Але вось уцёк. Так, вядома, яму лягчэй было здзейсніць такое. Яго ведалі ў Пэн-клубе, у Нобелеўскім камітэце, у Аб'яднаных Нацыях...

Увечары, шчыльна зашморгнуўшы занавескі, я смакаваў каньяк «Сам» (Камю!), курыў нейкія замежныя цыгарэты з мядовым пахам, а потым яшчэ запарыў кавы. Які цымус! Усё гэта набыў нелегальна ў замежнікаў. Агледзеў пакой, пагасіў цьмянае святло і пакінуў жытло праз акно. Без шкадавання. На стале застаўся ляжаць разгорнуты (малюнак з геніталіямі!) сшытак з раманам... Каля чырвонага жалезнага чоўна без споду я прыўзняўся з пяску й разагнуўся. Перабраўся асцярожна туды і доўга ляжаў, адпачываючы. Дзесь паблізу захрумсцеў буглёўнік, прайшоў патруль. Я ў страху стаіўся. Глупствам было б трапіцца менавіта зараз. Вырашыў болей не рызыкаваць, адкаркаваў «Сам», выпаражніў чорную халодную пляшку. Саштукаваў свае вёслы ды адштурхнуў у ваду пласкадонку-«душагубку». Самападман. Мне было вядома, што яна не магла не быць прадзіраўленая. Каб толькі даплысці да сетніцы... Час зрабіўся нейкі гумовы. Я ўжо даўно ў вадзе, а на мне выратавальны пояс. Што б ні было, усё ж лепш за уранавую гару. На гэтым заканчваю. Ці памятаеце? У мяне два «я». Я — Ісмаіл Дабар...

Чалавек, які быў знойдзены непрытомны на заходнім беразе і які ўпарта называў сябе Ісмаілам Дабарам, трапіў на медычны кансіліум. Дактары прызналі яго вар'ятам. Пад час следства ён скончыў самагубствам. Пахаваны на турэмных могілках. Гэтыя нататкі ўзяты намі з судовай справы.

# НОБЕЛЬ

## I

Я — Ісмаіл Дабар. Канечне, даць гэтаму веры няпроста. Большасць сябраў Нобелеўскага камітэта прагаласавалі за тое, каб даць мне прэмію ў галіне літаратуры за 199... год. Мне па-школьніцку вельмі карціць ушчыкнуць сябе. З усіх прэтэндэнтаў яны абралі мяне. Я стану першым уладальнікам Нобеля ў нашай маленькай Дзукіі. Дакладней, я буду ім лічыцца, а саму ўзнагароду здам, напэўна, на захаванне ў Нацыянальны музей або ў ЦК, хутчэй нават у ЦК, а ў музейнай вітрыне пакладуць медальны муляж. Побач напішуць двухмоўна, на дзуцкай і эсперанта, мае прозвішча, усё іншае і змесцяць мой фотапартрэт.

Прэмія мне належыць за раман. Ён пра тое, як... зрэшты, няўдзячны гэта занятак — пісьменніку перакасваць змест свайго твора. Хай гэта зробяць крытыкі. Скажу толькі, што ён — мой лепшы раман. Лепшы ва ўсёй сусветнай літаратуры за леташні год. Нобеля даюць толькі за лепшае. Нобель сярод узнагарод усё адно што даляр (або, можа, фунт?) — першы з усіх грошай. Медаль з золата 900 нейкае пробы.

Кніга мая ўжо перакладзена на некалькі галоўных моваў. Калі нобеляванне здзейсніцца, з'явяцца яшчэ дзесяткі з паўтара-два перакладаў на ўсіх кантынентах. Лепшыя пераплёты, нібы — золата літар: кніжная чарадоўка «Нобелеўскія лаўрэаты».

## II

Апошняй ноччу я ачуўся ў вусцішы. Сасніў, што кахаюся з жонкай нашага ўлюбёнага правадыра. Бачыў яе аднойчы ў тэатры. Яна маладзюткая й выбітна пекная, акторка. Я моўчкі прызнаюся сабе ў тым, што быў блізкі з ёю. Яна часцютка дыхала, нібы паскорана паўтарала: яшчэ-яшчэ-яшчэ... Ложак пад гэты час ходырам хадзіў. Сюд-туд. Нібы нейкі варштат. Калі пра гэта даведаюцца, кепска будзе. Я ляжаў, расплюшчыўшы ў ноч вочы. Сэрца маё працавала пад грудзінай, як моцны поршневы рухавік, і я адчуваў, што тулава торгаецца, быццам кволая абалонка. Здавалася, што я бяссонна ляжу на дрогкай мулкай паліцы ў цягніку, які звозіць мяне ў цемру.

Правадыры маюць панаду да прыгожых маладых жанчын, і асабліва чамусьці да актарак. Ён, аднак, не трымае гарэма. Кандомы ў нас не прадаюцца, але аборты забаронены. Самотнікам накшталт мяне застаецца самагвалтаванне. Кожны грамадзянін Дзукіі свабодны

так, што ў сне можа згвалціць нават самога ўлюбёнага правадыра. Калі, канечне, пра гэта ніхто не даведаецца...

**III**

Цэлымі днямі я адно што перачытваю свой раман, апавяданні, іншыя творы. Чытаю, так сказаць, з адлегласці. Ужо не як аўтар, якому й самому шмат незразумелага ў самім напісаным, а як чытач, нават хутчэй — літаратуразнаўца, хоць у мяне й няма адпаведнае адукацыі. Я дбайна вывучаю сваю мову, стыль, фразеалогію. Можна падумаць, мне давядзецца абараняць дысертацыю па ўласнай прозе. «Моўная стылістыка твораў Ісмаіла Дабара». Калі ласка, спадарства прафесары...

Атрыманне нобелеўскае ўзнагароды не абы-якая падзея. Трэба быць да ўсяго падрыхтаваным, нават да правакацыі. «Спадар Дабар не ёсць аўтар нібы ягонага рамана! Вылічальная машына адказала адмоўна!» Аб гэткім штукарстве ўжо вядома даўно. Потым зноў-такі графалагічная экспертыза. Нельга забывацца й на такую магчымасць. Я да млоснасці перапісваю ў сшыткі свой раман, як калісьці газетныя слупкі, да чаго прымушаў нас школьны настаўнік эсперанта. У мяне ўжо цэлы стос гэтых бязглуздых сшыткаў.

«Я — Ісмаіл Дабар, а не Курт Вонегут... Нарадзіўся 11 красавіка 1949 г. у простай сям'і. Рана пайшоў працаваць, зведаўшы жыццёвыя універсітэты не па кнігах. І г. д.»

Потым мне задаюць падкрэслена ветліва самыя неспадзяваныя пытанні, а я, часам ледзь выказваючы іронію, імкнуся стрымана, а галоўнае, натуральна, слушна і пераканаўча адказваць. Свае ўяўныя дыялогі я прагаворваю вольнымі хвілінамі ў думках. Варта быць гатовым да ўсяго. Увага: гэтыя мысленыя размовы я абмяжоўваю (моц і даніна звычцы) двукоссямі — як і ў маіх тэісстах. Уяўныя гутаркі ў двукоссях, як вядома,— а дна з прыкмет аўтарскага стылю Ісмаіла Дабара.

Як старажытны перапісчык, я пераношу ў чарговы сшытак абзацы з разгорнутае кнігі. Мне трэба да драбніцы вывучыць аўтарскі стыль. Я працую доўга, дакуль гарыць свечка. Калі заплюшчваюся, уваччу яшчэ доўга рабаціць ад процьмы дробнага чорнага шрыфту.

Засынаючы, яшчэ раз нагадваю сабе: «Я — Ісмаіл Дабар».

**IV**

Са мною абыходзіліся далікатна, амаль ветліва. У мяне не было прычын адказваць няўдзячнасцю. Мне прапанавалі папяросу. Я не курыў, але не стаў адмаўляцца. Мне паднеслі агню. Я заперхаўся. Гэ-

тага наўмысна не заўважылі. Мае нервовыя пальцы супольна з вуснамі сяк-так рабілі бязглузды рытуал, міжволі пахавалі толькі пачатую папяросіну ў шкляной попельніцы, потым справілі памылку. Знянацку мяне апанаваў вонкавы спакой, і я сам зноў папрасіў агню. Але так было толькі хвілёва, пакуль я не загасіў нарэшце недакурак, які быццам наўмысна густа задыміў.

Маўчанне. Няёмкая хвіліна. Мяне абыякава разглядалі.

Я адчуў, як вусны мае зрабіліся ломкія. Яшчэ хвіля, і сківіцы пачалі б па-здрадніцку ляскаць.

Я змеціў пагардлівыя ўсмешкі. Успомніў пра лямпачку, пра няўтульнае крэсла дантыста, мне захацелася кавы. Варожасці не было. Мне не пагражалі. Не было нават намёку на шантаж. Адно выключная дасведчанасць нават у тым, пра што мне хацелася б забыцца. Ну й слушна. СБ дзеля таго ж існуе, каб усё пра ўсіх ведаць.

Пагатоў гэта быў не допыт. Гутарка. Цікавіліся маімі звычкамі, жаданнямі і да т. п. Удакладнялі. Хацелі бліжэй пазнаёміцца. Спачувалі, раілі, стрымана чакалі маіх меркаванняў у адказ. Гарэлка? Жанчыны? Замежныя мовы? Якія таварышу Дабару больш даспадобы кнігі? Стаўленне да буржуазнай літаратуры, да партыйнасці і класавасці ў літаратуры, да «Архіпелага...», да Нобелеўскіх прэмій?

Яны задавалі пытанні жвава, бо іх было некалькі, а я адзін, так што мой язык зрабіўся мулкі і маларухавы. Я зусім не меў спачынку, бо адказваў на ўсе пытанні запар. Напрыканцы ў галаве маёй шумела, як у кіпучым сагане.

Мяне правялі да дзвярэй і выпусцілі.

Я выйшаў і азірнуўся, нібы яшчэ не верачы. На дзвярах шыльдачка: «Прыём грамадзян у любы час сутак».

**V**

Я йду вуліцай і раптам адчуваю, што са мною не ўсё о'кей. Яшчэ нават не апусціўшы вачэй або не хапіўшыся жменяй, пачынаю з вусцішшу ўсведамляць, што я — голы. Адам. Сорам. Жах. Схавацца!

З'еў учора адразу паўтузіна гарачых пшанічных хлебцаў. Дапаў, як той голы... Кепскі сон пахаваны, і я паўночы курчуся ў прыбіральні. У поцемках, бо святло з вадой нанач адключаюць. Забрадзіла «рашчына» ў страўніку. У пярэрвах хаджу на кухню па гарбатнік.

Раніцай прымушаю сябе займацца перапісваннем, якое штораз здаецца мне яшчэ горш бязглуздым.

**VI**

Спачатку цягніком, потым з Б. летаком да Стакгольма, дзе засядае Нобелеўскі камітэт і штогод адбываюцца цырымоніі ўзнагароджання. Я ехаў адзін, і, забягаючы наперад, показкі пра скрыпку Паганіні ды наган Дзяржынскага са мной не здарылася. Я ўпершыню трапіў за межы. Усё адбывалася як у казцы. Гэты дзіўны гатычны горад, халоднае мора, сталёвае паўночнае неба. Бліскучая зала, усе — нібы дырыжоры — у чорных фраках і белых кашулях, таксама і я. Белазубыя ўсмешкі, ордэны, штучныя пошугі фотаўспышак. Паміж процьмы мужчын — частка кабет, пераважна пенсійнага веку: адаманты, фрызуры, якіясь шыкоўныя шаты. Мне было вядома, мяне папярэдзілі аб тым, як выпадкова ўратаваўся той расеец, аўтар «Архіпелага...» Пад час ягонай нобелеўскай прамовы згары яму на голаў рынуў вялікі партрэт у важкой раме. Выпадковасць... Як у сне я іду да трыбуны. У галаве віруюць вар'яцкія думкі аб тым, як я прамоўлю абвінаваўча, выкрыю рэжым і мяне пачуе ўвесь вольны свет. Чаўпятня. Але я выходжу й завучана, нібы механічны чалавек, пачынаю абурана гаварыць пра заганы буржуазнага грамадства, пра бяздолю простага люду, пра яшчэ штось. Здаецца, я фанабэрліва адмаўляюся ад прыкрай узнагароды. Пралетарскія пісьменнікі не прадаюцца! Мы пішам паводле сэрца, а нашыя сэрцы належаць партыі... Ці штосьці падобнае. Апошні ўспамін: я істэрычна лямантую «Камунізм пераможа! Мы вас усіх пахаваем!..». Мяне апаноўвае сутаргамі падучка. Свядомасць гасне, нібы чорна-белы тэлеэкран.

**VII**

Да мяне ніхто ані разу не звяртаўся, але іхнюю прысутнасць я адчуваю фізічна: яны побач, на кожным кроку...

Дома мяне чакае вусцішная звестка. Ён скончыў самагубствам. Ён апынуўся ў турме, бо пераправіў свой раман, за які належыць прэмія Нобеля, за мяжу, і адмовіўся пісаць далей Збор твораў (39 тамоў!) нашага ўлюбёнага правадыра. Наколькі лепш у К., дзе ўсе кнігі выходзяць безназоўна! Цяпер мне давядзецца пісаць за нобелеўскага лаўрэата. Я — не Ісмаіл...

# «КРЭСОВЫЯ» ГІСТОРЫІ

## ЭПІТАФІЯ...

Прысвячаю памяці ўдзельнікаў
Паўстанцкай вайны[1] 1863-1864 гадоў.

Бой быў удалы. Карны атрад з казачага эскадрона і ўзвода салдат моцна пашкодзіў інсургенцкія шэрагі. Іншыя карнікі заняліся далейшым праследаваннем у пушчы рэшткаў паўстанцаў. Двух жа конных казакаў ды трох салдат на чале з малодшым афіцэрскім чынам Мешчараковым адправілі адканваяваць у бліжэйшае мястэчка палонных. Тыя збольшага былі параненыя ў сутычцы, таму канвой рушыў павольна, пераадолеўшы да прыцемкаў толькі частку шляху.

Неба на захадзе спачатку пакрысе, потым барзджэй пацямнела, зрабілася чарнільна-сіняе, а неўзабаве і зусім чорнае. Небасхіл вісеў над зямлёю суцэльнай хмараю. Толькі паміж ім і далягладам утварыўся светлы пасак. Быццам гэта нехта падсвечваў з долу буйным ліхтаром. Але то было не сонца. Яно вісела яшчэ досыць высока, недзе ў цёмным мроіве. Бляклы размыты абрыс зіхоткага шара.

Зверху штораз гусцей і гусцей церусілася снежная замець: апякаючы твары падарожных, студзячы ім рукі. Сярод снежнай віхуры досыць дзіўна выглядалі крылаткі, якія бязлітасна шпурляліся вятрыскам. Яны былі цалкам ва ўладзе стыхіі, як арэхавае шкарлупінне ў хвалях.

Снег узмацнеў. Урэшце ад яго пашарэла неба — дзякуючы спалучэнню чорнага з белым. Снежныя хвалі, мільгаючы церушынкамі ўваччу, нагадвалі процьмы раз'юшанае ад голаду саранчы.

Наогул дзіўныя здаліся сярод гэтае нягоды грымоты, бо за імі не магло быць дажджу.

— Малання, сухая маланка ўвосень. Благі знак, ваша благароддзе. Божая кара,— пэражагнуўся адзін з ахоўнікаў.

— Ка-ра. Раскаркаўся!.. За што і каму? — знервавана перадражніў таго Мешчаракоў.

На ноч уладкаваліся ў небагатым драўляным касцёле, бадай, нават капліцы, што стаяў асобна ад вёскі пры лесе. Несамавіты ксяндзок збянтэжана мітусіўся і церабіў крыж, усё паўтараючы: «Езус Марыя, Езус...» Маскалі тым часам, не зважаючы на яго, нанасіўшы пад дах бярэмамі сена, ладзілі начлег.

---

[1] Гэтак на Астравеччыне дагэтуль называюць паўстанне на чале з К. Каліноўскім.

— Нічэго, айцец,— запанібрата, па-простаму супакойваў святара Мешчаракоў.— Хрысту пасля яслей віфлеемскіх не прывыкаць к сену.

— Раны боскі,— чулася ў адказ мармытанне.

Казакі хацелі, зважаючы на надвор'е, і сваіх коней таксама паставіць у касцёле. Але Мешчаракоў забараніў, не дазволіўшы, зрэшты, невядома чаму. Хіба праз нейкую ўласную забабоннасць: усё ж такі гэта быў храм. А можа, ён папросту не схацеў начаваць пад адной страхой з коньмі.

Абодва казакі з гэтае прычыны, амаль не сцішваючы голасу, незадаволена перамаўляліся. Было чуваць, што яны лаюць вайсковых, а разам і жандараў. Бо хто з усіх іх зараз найболей кроў сваю пралівае, вынішчае крамолу польскую? Толькі не гэтыя, з якіх і здраднікаў-дэзерціраў, і так баязліўцаў — уга колькі! А хіба хоць адзін казачы афіцэр або есаул знюхаўся з мяцежнікамі...

Але, даўшы спачатку волю свайму абурэнню, абодва станічнікі, адзін з якіх быў сталы ўжо дзядзька, усё ж змусілі сябе скончыць марную гамонку. Мешчаракоў, урэшце, быў іхнім цяперашнім камандзірам і невядома што яшчэ вымысліць на месцы — ці не напіша рапарт?

Вайсковыя дзеянні, і раптам — лясь табе! — непадначаленне.

Палявы суд доўга не разбіраецца.

Ну, а да таго яшчэ яны ўсё ж адчувалі сябе ў тыле ворага. Хоць ззаду засталіся свае і наперадзе яны таксама павінны быць, але за кожным дрэвам навокал мог хавацца інсургент. А небяспека робіць людзей асцярожнейшымі і гуртуе супраць усялякае спрэчкі ды нязгоды.

— Не-э, як ні круці, без каня казаку ніяк няможна,— прамовіў са шкадобай, цягнучы словы, адзін з незадаволеных.

На гэтым спрэчка была вычарпана.

Палонныя не перамаўляліся, нібыта баючыся, што чужынцы будуць чуць іхнюю гутарку. Аднак адчувалася, што некаторым карціць раскрыць раты, каб штосьці паведаміць адзін аднаму, а можа, папросту выказацца. Нарэшце той, што быў паміж іх самы даўгалыгі і меў бараду, прамовіў нешта, выгаворваючы незразумелыя для большасці словы неславянскай моваю. Адзін толькі ксёндз здзіўлена ўзбрывіў вока: «Санкта лаціна[1]...»

— Не разгаварываць,— спыніў гаваркога вусаты казак.— Вучоныя, давучыліся, такую вашу маць,— буркнуў ён нязлобна.

---

[1] Святая латынь (лац.).

Гэтым усё і скончылася. Неўзабаве леглі спаць і пакрысе, змардаваныя, сталі засынаць. Толькі на падворку быў нанач пакінуты вартавым салдацік з тутэйшых. Ён вызначыўся ў сутычцы: застрэліў двух мяцежнікаў, а трэцяга захапіў у палон. Яму, зразумела, былі вядомыя норавы і звычаі тубыльцаў, а найгалоўнае — мясцовасць.

Здарожаныя казакі храплі як пшаніцу прадаўшы.

Але спалі не ўсе.

Побач апынуліся той высокі, што валодаў латынню, і маладзён, напэўна, гімназіст. Першы штосьці шаптаў яму, а той, прагна слухаючы, адно горача дыхаў у адказ.

Перад гэтым, часова сцішыўшыся, на двары зноў усхадзілася непагадзь.

— «Мужыцкая праўда» — гэта той дух, які быў нам патрэбны, легенда, якая згуртавала б цэлы люд. І паўстанне таму яшчэ не задушана. Вось прыйдзе толькі вясна...

Адчувалася, што чалавеку вельмі хочацца выказацца.

— Незадавальненне рэкруцкім наборам[1] не можа зрабіцца такой жа сілай. А Рэч Паспалітая ў межах 1772 года... Наогул як замала гэтага для сялян!

— Тылько Жэчпосполіта обойга народув в межах седэмдзесёнтэго другего року![2] — перарваў маналог нехта з палонных.

— Васпан, як заўжды, мае рацыю,— насмешліва прамовіў даўгалыгі.

— Пшэцеж то ест здрада Констытуц'і тшэцего Мая![3] — не сунімаўся спрэчнік.

— Мы ведаем апроч Канстытуцыі трэцяга мая іншыя ідэалы. Хоць бы задумы Камісіі часовага ўрада Міхала Агінскага[4],— няголасна, з годнасцю адказаў барадач.

Той, счакаўшы, таксама прыцішыў гамонку, бо зразумеў недарэчнасць свайго пафасу ў гэткім становішчы.

— Нех пан Ігнацы собе помышлі. Кім ест тэн чловек, які не маёнц ешчэ вольношці, юж кроі Ойчызнэн своен на чэншці? Чы он не ест шаленцэм, проша пана?![5]

---

[1] Паўстанне, як вядома, распачалося заўчасна — у студзені 1863 года. Прычынай гэтаму быў рэкруцкі набор, упершыню зроблены ў Царстве Польскім.

[2] Толькі Рэч Паспалітая абодвух народаў у межах семдзесят другога года! (Польск.)

[3] Але гэта здрада Канстытуцыі трэцяга мая! (Польск.)

*Заўвага: Паводле гэтага дакумента, падпісанага 3 мая 1771 г. у Варшаве, Польская Карона і Вялікае княства Літоўскае абвяшчаліся на векі вякоў адзінай непадзельнай дзяржавай, што азначала поўную страту незалежнасці Вялікага княства.*

[4] Урад адноўленага пры Напалеоне ў 1812 г. Вялікага княства Літоўскага.

[5] Няхай пан Ігнацы падумае. Хто той чалавек, які, не маючы яшчэ волі, ужо кроіць сваю Айчыну на кавалкі? Ці гэта не вар'ят, проша пана?! (Польск.)

— Ды адкуль тут палякі наогул узяліся? — абазваўся нехта яшчэ з кута.— Статут забараняў ім тут сяліцца[1]...

— То ест очэвішце здрада[2],— са скрухаю працягнуў паляк.

— Вораг, як крумкач, угнездаваўся ў сэрцы кожнага з нас,— адказаў цьмяна даўгалыгі і змружыў вочы.

Болей ніхто не прамовіў ані слова. Кожны думаў сваё, пакуль не заснуў.

Сярэдначы, абуджаныя пошумам-трэскам, яшчэ не сцяміўшы ў чым ліха, але з жудасным прадчуваннем, якое халадзіла душу, людзі падхопліваліся, хочучы ратавацца. Але самае вусцішнае чакала іх наперадзе: ані ўваходныя дзверы, ані заднія не адчыніліся. Агонь мацнеў штохвіліны. Не здолеўшы нічога зрабіць, людзі з такой жа лёгкасцю, як дагэтуль паніцы, падначаліліся абыякавасці.

Даўжэй за іншых не мог змірыцца Мешчаракоў. Яму ўсё яшчэ карцела штосьці рабіць. Падскочыўшы, ён схапіў загрудкі салдата, што, укленчыўшы, нешта адлучана шаптаў.

— Чаму не тушаць, чаму?! — выдыхнуў раз'ятрана таму проста ў твар.

— Дзярэўня далёка.

— Знаю, што далёка. Дык хоць бы адна падла тушыць прыбегла. Сволачы, звяры. Сваіх ж а спалілі.

— Пабойцесь бога, ваша благароддзе. Мужык гэтага не здзелает. Каб жывога чалавека...

— А хто ж тады дзверы заваліў, га?!

— Так, відна, богу было ўгодна.

— Богу?.. Якому гэта богу? Іхняму?!

— Бог на ўсіх адзін.

Адштурхнуўшы жаўнера ўбок, унтэр з горыччу, змяшанай з нянавісцю, вымавіў здушана:

— Халопы, халопы. Ну што з імі... Усе аднолькава халопы...

І як шалёны кінуўся наўкруга, хапатліва абмацваючы бярвенне, нібыта спадзяваўся адшукаць хоць якое выйсце.

Пачынала курэць загата — сухі мох, напханы ў шчыліны паміж бёрнамі.

Ксёндз, каб не страціць прысутнасці духу, маліўся, перабіраючы пацеркі сандалавага ружанда.

— Дэус, квы нуллум рэспус[3]...

Толькі рукі ў яго дробна трымцелі.

---

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. забараняў жыхарам Кароны набываць зямлю ў княстве.

[2] Гэта відавочна — здрада... (Польск.)

[3] Божа, ты нікога не выракаешся... (Лац. Пачатак каталіцкай малітвы аб адпушчэнні грахоў.)

Інсургенты сядзелі скупіўшыся. Сядзелі моўчкі, не зварухнуўшыся, як стаіліся. Адно водбліскі агню мільгацелі па тварах ды ліхаманкава пабліскваі ў кожнага вочы.

Напэўна, усе ў гэты свой апошні час шапталі пацеры. Адзін Мешчаракоў з роспачы нібы звар'яцеў, бадзяўся з кута ў кут, то шалёна рагочучы, то расціраючы кулакамі слёзы. Да і прыпадобіцца да іншых яму, відаць, не дазваляў які-ніякі, але чын. Ен не хацеў звяртацца да бога, бо ці не меў яго ніколі ў сэрцы, ці грахі ўласныя не дазвалялі дапусціць нават самое думкі аб дараванні.

Апроч малітвы, гэтым людзям нічога ў жыцці болей, бадай, не засталося.

Нават салдат-татарын, адзіны на ўсю хрысціянскую бажніцу, б'ючы паклоны, маліўся свайму алаху. Але ці чуў той яго, ці адрозніваў адзіны гэты знаёмы голас сярод іншых, разнамоўных, сярод вусцішнага тлуму?

Гэты тлум, пэўна, і быў тым самым пеклам, якім штораз пагражаў парафіянам з амбона гаспадар храма, знішчаны цяпер звонку жорсткасцю і няўмольнасцю падзей. Хаця мо яму аднаму паміж іх не было чаго баяцца? Хіба ён калі парушаў боскія запаветы? Не. Дык завошта ж гэткія пакуты?..

— Божа, божа літасцівы, ці гэта не людзі самі вымыслілі сабе тое пекла?! І ці не ёсць рай само гэтае жыццё, дараванае богам, сама магчымасць жыць?..

Рабілася гарачэй, а малітвы стылі на вуснах.

Паміж людзей, ледзьве не датыкаючыся да іх сваёй цімцовай скурай, трапятаўся кажан з абпаленымі крыламі, які апынуўся ў пастцы разам з імі. Ён біўся на доле, марна намагаючыся ўзляцець.

Калі са страхі пачалі падаць агнёвыя кавалкі, шугану ў у гору спеў: «Божэ, цош Польскен![1]»

У тых, што спявалі, былі скручаны за спінай рукі, і спеў застаўся адзінай справай, якую яны яшчэ маглі здзейсніць. То быў апошні ўчынак кожнага з іх.

Неўзабаве абрынулася страха ў пошуме агню.

Досвіткам на месцы пажару ўжо толькі курэлі асмалкі ды цеплынёй дыхала ад выгару. Навокал мёртва чарнелі абгарэлым голлем дрэвы. На самім цвінтарышчы дзе-нідзе бачыліся спапялёныя капцы. Па тых з іх, што мелі каменныя крыжы, можна было ўпэўніцца, што то — магілы.

---

[1] Божа, што Польшчу скрозь доўгія вякі
Атачаў бляскам магутнасці і славы... (Польск. Пачатковыя радкі рэлігійнага гімна, папулярнага ў 60-я гады XIX ст. сярод прыхільнікаў польскага вызваленчага руху. Існавалі і яго беларускамоўныя варыянты.)

Неўзабаве селянін, што праязджаў паўз папялішча калёсамі на змарнелай кабылцы, спыніўся і, злезшы, зняў сваю шапку-аблавушку. Прыстаў так на хвілю моўчкі. А тады, перажагнуўшыся, паехаў далей.

Немажліва было даўмецца, пра што ён цяпер думае.

## ГАЗЕТНЫ РАМАН

### З рэдакцыйнае шуфляды

Націснуўшы гузік выключальніка, Гаваруха заспанымі вачыма агледзеў памяшканне «га-ванны», як у прастамоўі празвалі спалучаны з лазніцай-ваннай санвузел.

Ён даўно ўжо не спаў, толькі намагаўся гэта рабіць. Радыёдынамік, які самахоць уключыўся на кухні, аглушыў меддзю духавога аркестра.

Пасля сціслага агляду навін Гаваруху давялося — у напаўпрытомным стане, у думках — выконваць гімнастычныя практыкаванні, якія змянілі ў паднеб'і ягонай галавы апошнія ўрыўкі сноў.

Потым грымнуў «Марш энтузіястаў». Але Гаваруху ўсё яшчэ было шкада сябе, бо ведаў: калі ўстане, каб утаймаваць радыё, болей заснуць ужо не здолее.

Цярплівасць ягоная выплюхнулася цераз коптур, калі пачалася працоўная пераклічка гарадоў.

Амальгама туалетнага люстэрка ад часу пацямнела і пабралася плямамі. Твар Гаварухі, і без таго нясвежы і няголены, выглядаў у ім заняпалым, як ад нейкай небяспечнай хваробы. Ён не стаў доўга разглядаць сябе, абмакнуў шчотку ў дзіцячы парашок і пачаў без асаблівага жадання шараваць свае зубы.

Уночы ён вярнуўся з другое змены, а сёння меў адгул за працу ва «ўдарную», або, як казалі, у «чорную» нядзелю.

Жонка з сынам былі на вёсцы і таму трэба было думаць, як з карысцю для сябе выкарыстаць дзень.

Яечня гучна сквірчэла, і пах яе моцна казытаў ноздры.

Праступджана засіпеў імбрычак.

Патэльню ён паставіў на складзеную ў некалькі столак газету. Сядзеў, абапёршыся локцямі на стол, і выдзіраў відэльцам, дапамагаючы скарынкай хлеба, з яечні скваркі.

Вочы яго прабеглі па сценах, якія даўно патрабавалі рамонту, і спыніліся на газеце, на пляме ад алею — след патэльнага споду. Праз яе праглядала чорная татуіроўка літар. Міжволі яны пачалі складацца ў словы.

Ён ізноў чытаў нясвежыя, колішнія навіны.

Дачытаць іх не даў дынамік, які раптам азваўся зноў. Спачатку «Балеро» Равэля, пасля — «Танцам з шаблямі».

А па сканчэнні выбраных маршавых урыўкаў з «Блакаднае сімфоніі» Шастаковіча пачаўся агляд цэнтральных газет.

Гаваруха выключыў радыё.

Сядзець у хаце не хацелася.

Чытаць кніжку ён не жадаў, газеты — пагатоў. Тэлепраграмы ў будзень пачыналіся ўвечары. Але тэлевізара Гаваруха не меў.

Зашпіліўшы папругу ён насунуў чаравікі і замкнуў дзверы.

Скрозь друшляк паштовае скрынкі штосьці бялелася. Гаваруха адчыніў яе. Тамака былі газеты.

* * *

Чытаць ягоны бацька навучыўся, калі ў іхняй вёсцы ўтварылася ячэйка таварыства «Прэч непісьменнасць!». А навучыўшыся, моцна пашкадаваў, што ў былы час разрываў «Акопную праўду» на шматочкі — для самакрутак з махоркі.

Прадаўшы ў мястэчку квактуху, ён выстараўся на нейкія антыкварныя акуляры, якія старызнік саступіў яму за бесцань.

Зрэшты, на зрок бацька ніколі не наракаў і сярод навакольных паляўнічых зважаўся за найлепшага стралка. Але штонядзельнае чытанне ўсім сваім хатнім — зазвычай зашмальцаваных і ўжо зусім не новых газет — узвялічвала яго ва ўласных вачах.

Гаваруха-меншы далучыўся да таямніцы чытання прэсы трохі пазней, нават у школцы-чатырохгодцы не адразу адчуў смак газетнага слова. Бо адно, калі шапялявы бацька, блытаючыся, уголас сілібізуе, і зусім іншае, калі пад сцягам — пры барабаншчыку і гарнісце — на піянерскім сходзе настаўніца, гарадская Алена Іванаўна ўзнесла, з хваляваннем, слушна вымаўляючы націск, прачытае штосьці накшталт таго, як адважны піянер выкрыў уласнага бацьку — прытоенага ворага або пра тое, як кепска жывецца бедаку Лу Сіню, які змалку мусіць гарбець на багатыра з далёкае выспы Самаа.

Потым газеты штораз часцей сталі пачынацца жудаснымі заклікамі. Знішчым, раздушым гадзіну! Сабаку — сабачая смерць! Расстраляць ворагаў народа!

Аднойчы небараку ціхмянага Антося, суседа праз дзве хаты, арыштавалі ноччу. За газетны партрэт.

Ад таго выпадку ў вёсцы пачалі пабойвацца газет.

У часе апошняй вайны вяскоўцы з аднолькавай ахвотай круцілі самакруткі, што з партызанскіх, што з акупацыйных газет. Прадчуваючы, што сцерагчыся трэба і тых і гэтых.

Здарыўся нават і кур'ёз.

Змарнавалі на курава аднойчы, як даведаліся потым, рукапіс рамана свайго земляка, які служыў у «Б. газэце» па заданні, пра што, зразумела, не ўсе ведалі.

Па навале, праз газеты ж — «за прапаганду» — зрабіўся пакутнікам яшчэ адзін аднавясковец — Цімох, які здуру абклеіў усярэдзіне акупацыйнымі газеткамі будан прыбіральні.

Ды што там казаць, калі адной з самых небяспечных у анкеце зрабілася тады графа пра тое, ці быў ты пад акупацыяй? Быццам сам у гэтым і быў вінаваты.

* * *

Па звычцы ён прыстаў у хвасце чаргі, якая неўзабаве, бо тавар быў «штучны», вывела яго да акенца саюздрукаўскага кіёска. Люд з чаргі браў газеты, пакідаючы ў металёвым сподку потныя — толькі з кулака — медзякі.

Гаваруха таксама не паскупіўся.

Бо дахаты яму прыносілі далёка не ўсе газеты, якія існавалі.

У піўным павільёне, які ад рання гуртаваў аматараў паласавацца камсой з півам, былі вольныя столікі. Ён узяў толькі адзін куфель з шапкай пены, якая мела смачны пяшчотны колер. Гартаючы прэсу, стаў раз-пораз адпіваць з куфля. Зусім як у замежных фільмах.

На яго касавурыліся.

Часу яшчэ было шмат. Гаваруху заманулася сесці ў напаўпусты тралейбус і проста паездзіць. Звычайна ён карыстаўся грамадскім транспартам толькі едучы на працу альбо вяртаючыся назад. Ніякага задавальнення такая паездка не давала. Кожнага разу ўваходныя дзверы даводзілася браць спрытнасцю і неймаверным намаганнем локцяў.

Называлася гэта паміж мужчынамі «штурмам Зімняга».

Да расчаравання Гаварухі, які то намагаўся чытаць, то без справы пазіраў за шыбу, усе маршруты кальцаваліся на новабудоўлі гіганта хіміі, які быў аздоблены вялізнымі плакатамі з бадзёрымі надпісамі.

У скверы каля фантана гуляла дзятва. Дарослыя вывучалі прасціны газет.

І ён таксама спачатку пацягнуўся быў да жмута сваіх, але перадумаў.

Ды ўсё адно спакою не знайшоў.

Велізарны гучнагаварыльнік са слупа паведамляў пра тое, што зніжаны цэны на гадзіннікі, баяны і акардэоны, удакладняючы пры гэтым паасобку на колькі працэнтаў.

Гадзіннік Гаваруха меў, апроч будніка, яшчэ і наручны. Прэміравалі за выкананне плана. А баян быў яму наогул без патрэбы, бо музыка з яго, як казала са шкадаваннем жонка, ніякі.

Але ўсё адно даводзілася слухаць яшчэ і каментарыі да паведамлення, у якіх просты люд дзякаваў партыю за клопат.

* * *

Гадзіннікі, баяны. Хоць ёсць за што і падзякаваць. А то, як тады здарылася, калі цэны наадварот павысілі. На мяса ды масла.

Таксама дзякавалі!

Той раніцай у іхнім цэху з'явіўся, як снег у маі, нейкі дужа ўвішны газетчык. За вухам ён меў чамусьці аловак, зусім як у старога майстра Яўхімыча.

Гутарыў ён, зразумела, з ім, з Гаварухам.

Гаваруху прылюдна не хацелася казаць ані «так», ані «не». Ухваляць не дазваляла сумленне, ганіць — развашлівасць.

Але назаўтра ў газеце, на першай старонцы, ён — вачам не даў веры — вітаў мудрасць гэтага рашэння.

Той спрытнюга нават логіку нейкую вынайшаў. Маўляў, павысілі цэны розначныя, узрастуць і закупачныя. Саўгасы і калгасы ўстануць на ногі. А моцныя гаспадаркі змогуць даць краіне куды больш мяса і масла. І тады гэта дазволіць знізіць цэны на іх значна ніжэй, чымсьці яны былі нават да павышэння.

Праз месяц з рэдакцыі поштай даслалі грошы. Два восемдзесят. Якраз на бутэльку, жартавалі ў брыгадзе.

Пасля таго выпадку ў душы Гаварухі пасяліўся нейкі недавер да газетнага радка.

Але навокал усе выпісвалі і чыталі газеты. Гэта быў як вір, што зацягваў кожнага.

Самі газеты пярэсцілі здымкамі, на якіх рабочы клас і калгаснае сялянства, сабраўшыся купкамі, з прасветленымі тварамі чыталі і абмяркоўвалі надрукаванае ў абавязкова разгорнутых — каб была відаць назва — паасобніках.

Штодзённыя палітінфармацыі ў перазменках таксама чыталіся са свежых газет. Ды і на сходах пры прамаўленні з трыбуны даклада ці справаздачы ніколі не абыходзіліся без цытавання газетных перадавіц і паасобных дырэктыўных артыкулаў.

Тым часам на Захадзе некаторыя ашуканцы, што самазвана абвясцілі сябе прадказальнікамі лёсу, малявалі будучыню як эру тэлебачання і радыё, у якую газетныя канцэрны ўшчэнт абанкроцяцца.

Але савецкія людзі ведалі лепш, што наперадзе іх чакае нечуваны росквіт газетна-выдавецкае справы, калі газеты будуць друкавацца з каляровымі здымкамі і перадавацца з горада ў горад па фотатэлеграфе, так што любы правінцыйны чытач зможа браць у рукі паасобнік цэнтральнае газеты адначасова з жыхарамі Масквы і Ленінграда.

* * *

За часы захаплення Гаварухам-бацькам друкаваным словам у іхняй хаце прагучала, мусіць, куды больш невядомых, чужых для селяніна словаў, чымсьці за ўсё існаванне вясковае цэркаўкі, у якой па-свойму можна было маліцца хіба толькі ў думках.

— Хведзька! Хадзі сюды,— клікаў ён большага сына.— А ці ты ведаеш, што зараз у Карэі дзеіцца? Пра войскі ААН чуў?

А то яшчэ надта непакоіў яго Суэцкі канал.

Даўно тое было.

Не вярнуць тых часоў.

Апошняе спатканне з ім Гаваруха памятаў, быццам учора яно адбылося.

Быў пачатак восені. У хаце як мае быць нацеплена печ. Паміж аконнага пераплёту на астраўцах шыб варушацца апошнія мухі. На стале — недаедзены, сваёй яшчэ выпечкі акраец і сальнічка.

Масніцы адшараваны нядаўна і пахнуць цёплай вільгаццю бярозавага дзеркача.

Сцены і столь спрэс абклеены разгорнутымі газетамі. Праўда, не столькі ад павагі да іх, колькі праз няйменне шпалераў.

Раней Гаваруху нават падабалася гэта. Ляжыш сабе на ложку ці на печы. Ні пра што не думаеш. Толькі лянотна счытваеш са сцен колішнія навіны.

І ў старых газетах ёсць сваё хараство. Яны здольны выклікаць своеасаблівае замілаванне. Гэта сведкі свайго часу.

Памёр бацька раптоўна. Хоць яму і штораз горшала.

Драмаў у ложку. І раптам схамянуўся, быццам што сасніў нядобрае. «Забярыце адсюль газеты! — лямантуе.— Вынесіце мяне на волю з хаты!»

Кінуліся да яго.

А ён рукамі замахаў, нібыта бараніўся ад нябачных папяровых птушак, і сцішыўся. Назаўсёды.

* * *

Дварамі, каб абмінуць будаўнічую пляцоўку, Гаваруха выйшаў да пляца, пасярэдзіне якога рос гаёк, у ім ён ужо быў сёння.

Каля цэнтральнага гастранома, ля вітрын з газетамі тоўпіўся люд.

Гаваруха раўніва скасіўся на свае. Такіх у яго не было.

Прыладкаваўся за спінамі, у прасветах паміж патыліц ён спрабаваў разабраць загалоўкі.

Таварыш Ахмэд Бэн Бэле рыхтаваўся да візіту ў нашую краіну. Дала першую электрычнасць Белаярская атамная. Асуджалася беспардонная абструкцыя ўрада КНР.

На старонках ішла таксама размова аб руху за камуністычную працу і побыт у вёсцы. Нагадвалася, што галоўнае — клопат аб чалавеку. Падлічвалася колькасць дзён, якія засталіся да пуску «Аміяка».

Гаваруху, калі ён праціснуўся бліжэй, асабліва спадабалася нататка пад сатырычный рубрыкай «У гасцях у Івана Недарэкі».

На двор'е

Бюро прагнозаў І. Недарэкі паведамляе, што сёння чакаецца сонечны, без ападкаў настрой. Тэмпература вагаецца ад нулявога мацунку ліманаду і вышэй. Праўда, сям-там, як прадказваюць сіноптыкі, будуць «шумець камыш і гнуцца дзярэўя».

Ён сплюнуў ад прыкрасці, калі дачытаў. Гэта быў перадсвяточны, пяцідзённай даўнасці нумар.

У краме, купленыя Гаварухам, дзвесце грамаў кілбасы загарнулі ў традыцыйны кавалак газеты, бо паперы ў краіне заўжды моцна бракавала.

Праз некаторы час ён апынуўся на пляжы — вузкай стужцы ўздоўжрэчнага пяску — з двума-трыма металічнымі мухаморамі да паслуг адпачываючых.

Аднак вада, зразумела, была яшчэ халодная, а пачытаць газеты перашкаджаў усюдыісны гучнагаварыльнік. Праўда, ён перадаваў не агляд друку, а ўсяго толькі папулярныя песні ў выкананні Маі Крысталінскай.

Гаваруха зжаваў кілбасу. Без хлеба, бо луста аказалася надта чэрствая і нясмачная.

У перапынку паміж музычнымі нумарамі ратавальнік, які не паказваў носа са свайго будана, з грозьбаю папярэджваў, каб тыя, хто купаецца, не заплывал і далёка.

Лезці ў сцюдзёную ваду, зрэшты, ніхто й не думаў.

Ад поручняў невялікага рачнога вакзальчыка рыхтаваўся да адплыцця маленькі параходзік.

Стракочучы прапелерам, па-над пляжам крыжавым ценем прамчаў аэраплан.

На галовы загараючых, кружляючы, апускаліся газетныя паасобнікі і ўлёткі, у якіх — Гаваруха падабраў адну — усіх без выбару віншавалі з Днём друку, разам з гэтым запрашалі выпісваць і чытаць газеты і часопісы.

Гаваруха абтрусіў з тулава пясок, адзеўся, пашыбаваў да параходзіка і няўпэўнена ўзышоў на палубу.

Яго ніхто не спыніў.

Не паспеў ён і агледзецца наўкола, як неўзабаве пасудзіна дробна затрымцела і ахуталася парай, пасля чаго Гаваруха заўважыў, як павялічваецца стужка вады паміж нізкім бортам і берагам.

Адступаць было позна.

Таварыш, не перашкаджайце, пачуў ён побач. Што вы тут слупом усталі? Ідзіце на верхнюю палубу.

Гаваруха падпарадкаваўся. Але, адчыніўшы нейкія дзверы, гэтак і не трапіў наверх.

— Пачакай, любы мой.— Затрымаў яго чалавечак, што сядзеў за столікам і падліваў сабе ў шклянку сітро.

— Ты, міл чалавек, не спяшайся,— працягваў ён.— Бо я цябе запрашаю з нагоды свята пачаставацца за гэтым вось сталом.

— Ды я тут выпадкова,— спрабаваў аднеквацца Гаваруха.

— Як гэта выпадкова? А газеты ты чытаеш?

— Чытаю. Ды і не толькі. Нават і пішу ў іх часам.

— Дык які ж ты выпадковы? Ты самы, што ні на ёсць, свой чалавек! Сядай побач.

Новы знаёмы назваўся старшым рэдактарам рэдакцыі, бывалым газетчыкам. Назваў і аддзел, у якім працуе, але Гаваруха ад засмучэння не запомніў. Яшчэ той настойліва прасіў называць яго папросту, Іван Іванычам.

— Ну, а цябе як зваць? Давай прадстаўляйся!

— Хведар.

— Ты, Хведзя, ведай,— запэўніў той,— табе пашанцавала, што мяне напаткаў. Я цябе навучу пісаць.

— Ды я,— спрабаваў растлумачыць Гаваруха.

Але той, не слухаючы яго, дастаў з кішэні льнянога пінжака газеціну, паляпаў па ёй адваротным бокам далоні і прамовіў:

— Рэкамендую. Мой фельетон.

* * *

Другі год Гаваруха рупліва займаўся ў школе рабкораў пры Доме палітпрасветы. Гэта была яго пятая ці шостая грамадская грузка.

За час вучобы ў гарадской газеце надрукавалі некалькі дробных нататак, напісаных ужо яго ўласнай рукой.

Ён ганарыўся гэтым.

Шкада, што не жыве болей бацька. Ён быў бы вельмі ўсцешаны тым, што просты сялянскі сын, ягоны Хведзька, друкуецца ў газеце.

Чорны прапісны шрыфт, якім было набрана пад нататкай яго прозвішча, ап'яніў у першую хвілю Гаваруху.

Ён ужо больш не лічыў сябе неспрактыкаваным навічком. І газеты праглядаў не як просты чытач.

Гарт, шпігель, марашка, кегель. Усе гэтыя словы гучалі таямніча. Нібыта вывучаеш нейкую невядомую замежную мову.

А калі даходзіла да назваў шрыфтоў, дык здавалася, што корпаешся ў куфэрку з каштоўнасцямі. Гэтак цікава называліся друкарскія шрыфты.

Ад боргесу і цыцэра да дыяменту і адамантаў.

З друкарскай кухняй знаёміў рабкораў чалавек, які не горш ад усіх гэтых шрыфтоў называўся загадкава — метранпажам.

У школе іх вучылі і таму, як падрыхтаваць да друку асобную нататку, пашыраную інфармацыю, карэспандэнцыю. Майстэрству жанраў, карацей.

Прыклады лепшых публікацый яны занатоўвалі ў сшыткі. Найбольш удалыя ўзоры разбіралі па сказах і абмяркоўвалі ўдачу аўтара. Некаторыя абзацы нават міжволі, пасля дэталёвага з імі знаёмства, западалі ў памяць. Іх ён ведаў не горш ад раздзелаў вайсковага статута.

Асабліва падабаўся ўсім фельетон на антырэлігійную тэму.

Называўся ён... Зрэшты, не ў назве справа. А пачынаўся наступным чынам:

«Здавалася б, дыхтоўна, на вякі збудаваны гмах гарадскога касцёла за ўсю сваю доўгую гісторыю нарэшце пачне служыць на карысць працоўным замест таго каб збіраць пад свае шаты ды туманіць свядомасць адсталых людзей малітвамі... Карацей, пасля ўходу з яго ксяндза К-га, па хадатайніцтву шмат якіх жыхароў горада, было вырашана будынак касцёла перадаць краязнаўчаму музею. Няхай бы ён папулярызаваў рэвалюцыйную, ратную, працоўную гісторыю краю! Няхай бы людзі, і асабліва моладзь, у гэтым храме гісторыі народнай атрымлівалі новы зарад мужнасці дзеля здзяйснення добрых спраў у імя раю сапраўднага — у імя камунізму...»

* * *

Гэта быў той самы фельетон.

Пачуццё павагі да субяседніка апанавала Гаваруху.

— Ды ты не глядзі, што нумар стары,— па-свойму зразумеў збянтэжанасць Гаварухі той.— Шэдэўры не старэюць, а толькі набываюць мацунак.

Ён хітравата пабразгаў чайнай лыжачкай па шклянцы з каньяком.

— Аднаму піць нядобра,— намякнуў ён.

Аднак Гаваруха не паддаўся на ўгаворы і піў далей толькі піва.

Новага знаёмага натхніла Гаварухава недасведчанасць у пытаннях партыйнага друку. Ён зрабіў сціслы экскурс у гісторыю. Пачаўшы з папірусаў, праз «Куранты» Аляксея Міхайлавіча і «Ведамасці» наступнага цара, ягонага сына,— перакінуўся да «Нойес рэйнішэ цайтунг».

Паступова ён хмялеў і таму, відаць, сярод набыткаў у публіцыстычным стылі Ільшча адзначыў найбольш толькі сакоўныя, накшталт таго, што «ўсе вашыя пісанія, гаспада, сяўружына з хрэнам».

У сваю чаргу Гаваруха паказаў уласную нататку, якую насіў з сабою. У ёй апавядалася пра вечар, прысвечаны 400-годдзю рускага кнігадруку, на якім мясцовымі літаратарамі абмяркоўваўся рукапіс аповесці аднаго пачаткоўца — хоць і чалавека ў гадах — пад назваю «Дзённік працаўніка райфінаддзела».

Старшы рэдактар трохі паўшчуваў Гаваруху за неўласціва ўжытае слова «кулуары», але ўрэшце пагадзіўся, што нататка атрымалася пазнаваўчая.

Але і за гэтым разам Гаваруха адмовіўся, не зважаючы нават на «важкую прычыну», выпіць мацнейшага, прымушаючы тым самым рэдактара спажываць падвойную дозу.

Калі яны вярталіся назад да рачнога вакзала, той ужо называў Гаваруху Сярогам і бажыўся, што заўтра залічыць яго ў штат сваёй газеты.

Але перад тым яшчэ Гаваруха паспеў пачуць шмат чаго для сябе цікавага і карыснага.

У прыватнасці, грунтоўны выклад пра гісторыю агітцягнікоў і параходаў, аб няшчасным здарэнні з агітсамалётам «Максім Горкі», якое болем адгукнулася ў сэрцах працоўных.

Пакуль яны балявалі ў буфеце, параход з гонарам выканаў сваю агітацыйную місію.

Уверх па рацэ ён плыў з сірэнай, прыцягваючы гэтым да сябе ўвагу.

Калі народ у надрэчных вёсках высыпаў на бераг, яго праз гучнагаварыльнік знаёмілі з апошняй Дэкларацыяй народаў краін Афрыкі і паўднёва-ўсходняй Азіі, а таксама са зместам свежага нумара часопіса «Савецкі друк».

«Чытач — строгі і справядлівы суддзя, сябар, самы галоўны рэдактар,— з пафасам разносілася па наваколлі.— І ў завочным прэсклубе майскага нумара свае меркаванні, свае пажаданні рэдакцыям газет, часопісаў, радыё выказваюць звеннявы механізаванага буракаводчага звяна Свёкла, член Дзяржаўнага камітэта хімічнай прамысловасці...— гудок заглушыў на хвілю голас дыктара,— і маршал бранятанкавых войскаў Ротмістраў».

Статак кароў, якія хацелі напіцца з ракі, скамянеў у вадзе. Паўз іх праплываў агітпараходзік.

У калгасе імя К. Маркса на святочнай прыстані пад аздобленай зялёнымі гірляндамі брамай удзельнікаў агітзаплыву віталі хлебамсоллю мясцовыя жыхары.

З імправізаванай трыбуны быў прачытаны — пераважна школьнікамі, вызваленымі ад заняткаў, — даклад на тэму «Цяперашняе пакаленне будзе жыць пра камунізме».

Затым нейкі чалавек у белым пінжаку і кепцы растлумачыў, якімі ядахімікатамі трэба карыстацца пры змаганні з ільняной і бурачковай блыхой, а якімі знішчаць грызуноў альбо апрацоўваць тытунь і кукурузу.

На заканчэнне ўсіх павіншавалі з Днём друку ды заклікалі праявіць патрыятызм і выпісваць мясцовую газетку.

* * *

Вярнуліся назад яны толькі пад канец дня.

Спусціўшыся на бераг, Гаваруха пахадзіў па амаль бязлюдных надрэчных вулках, але зноў адчуў сябе самотным, пакінутым усімі.

Натрапіўшы на афішную тумбу, ён пачаў вывучаць абвесткі.

Усіх гарадзян запрашалі на вечарыну-сустрэчу «Мастак і час». Даклярараваў, што мясцовыя мастакі раскажуць, як трэба разумець твор выяўленчага мастацтва, яго ідэйны змест, почырк майстра.

Арганізатары таксама абяцалі наладзіць абмеркаванне карціны «Будаўнік гіганта хіміі — азотна-тукавага завода».

Сустрэча, аднак, мелася адбыцца толькі ў нядзелю...

Дзверы дома з калонамі былі гасцінна расчыненыя. Гаваруха ўвайшоў. Купкамі ў вестыбюлі тоўпіліся нейкія людзі. Ён зірнуў без ранейшае прыязнасці на паўнюткі столік выязнога газетнага кіёска і накіраваўся ў прыбіральню.

Калі вярнуўся, усе пачалі кіравацъ да залы.

Ён сціпла сеў збоку.

Службоўцы зачынілі дзверы. Пагасла святло, толькі моцны пражэктар высвечваў трыбуну, на якой пад пляскание прысутных нечакана з'явіўся ў пляме святла нейкі чалавек.

Гугнявым голасам ён распачаў штосьці чытаць, шамочучы, калі перагортваў, аркушамі.

Гаваруху пачало хіліць да сну. Раз-пораз ён прахапляўся і першым часам не мог уцяміць, ці наяве гэта ўсё, ці бачыць проста сон.

Прамова зацягнулася. А яе яшчэ, як на тое, пачалі перарываць воплескамі.

Бурныя апладысменты. Вясёлае ажыўленне. Рэгіструючы іх у свядомасці, класіфікаваў на капыл, як гэта рабілася ў газетных справаздачах, Гаваруха. Бурныя працяглыя апладысменты.

Вясёлае ажыўленне. Апладысменты.

Працяглыя апладысменты.

Прамоўца казаў пра тое, што ў сувязі з павышэннем агульнаадукацыйнага ўзроўню народа газеты цяпер друкуюцца не корпусам ці боргесам, як да рэвалюцыі, а шрыфтамі драбнейшымі. З задавальненнем паведаміў, што гэтак званая ламаная вёрстка запанавала на газетных старонках. Тройчы нагадаў аб тым, што журналісты — прывадныя рамяні партыі.

Шмат цытавалася свежых пастаноў аб рабоце газет і радыёвяшчання парткомаў вытворчых калгаснасаўгасных упраўленняў.

Калі ён скончыў, то яго праводзілі з трыбуны пляскание у далоні. І тут Гаваруха пачуў сваё прозвішча.

— Таварыш Гаваруха! — Радасна распасцёр рукі нейкі чалавек са сцэны.— Мы зусім забыліся запрасіць вас. Ведаеце, клопаты, газетная цякучка. Калі ласка,— сюды! У нас якраз у прэзідыуме простых рабочых — недахоп.

Потым дэлегатка нейкага з'езда, якога — Гаваруха не зразумеў, расказала аб сустрэчы са знатнай тэкстыльшчыцай Гаганавай, з касманаўтамі, а таксама пра бесчаўночнае абсталяванне і новую прадукцыю свайго прадпрыемства.

Увесь гэты час прэзідыум спусташаў пляшкі з нарзанам. Але Гаваруха саромеўся, каб працягнуць руку і наліць сабе. Хоць і смажыла.

Напрыканцы старшыня калгаса перадаў прывітанне ад працоўных вёсак і запэўніў, што яны робяць так, каб у магазінах і сталовых было больш масла, малака, мяса, хлеба.

Самы апошні з трыбуны выказаўся нейкі стары з бародкай і ў акулярах, з выгляду — стары настаўнік.

Неспадзявана для ўсіх ён без лішніх прадмоў ваяўніча прыпячатаў свой кулачок да трыбуны.

— Годзе нас карміць абяцанкамі пра светлую будучыню! Мы не чарапахі і не трыста гадоў жывем! Дайце нам хоць цяпер трошкі пажыць...

Зноў-такі нечакана стары заплакаў.

Прэзідыум спахмурнеў.

Залу апанавала агульная збянтэжанасць. Затым — гоман, кепікі.

Змораныя ў чаканні акторы жвава выбеглі з-за кулісаў, пакуль прыбіралі сталы і крэслы прэзідыума, порстка паставілі на маснічынах сцэны немудрагелістыя дэкарацыі.

* * *

П'еса была пра каханне масцітага літсупрацоўніка газеты да маладзенькае наборшчыцы-паліграфісткі.

Душашчыпальнай гісторыі Гаваруха не вытрымаў і спусціўся ў лёхі буфета.

Чарка за чаркай — і ён нажлукціўся гарэлкі ад пачуцця несусветнае самоты ды безвыходнасці.

На вуліцы мёртва гарэлі ліхтары.

Нікога не было. Нават дружыннікаў.

Невядома для каго над гастраномам борздка прабягаў сцежку ланцужок паведамленняў светлавой газеты. Справа налева. Як у арабскім пісьменстве.

Але Гаваруху навіны не цікавілі.

У яго быў іншы настрой.

Вяртаўся ён дахаты са спевамі — на поўны голас — «Марша энтузіястаў». У нейкую хвілю, у незразумелым і незнаёмым для сябе памкненні, ён запаліў жмут газет.

Як з запаленай паходняй, улукаткі пераадольваў Гаваруха вуліцу.

Толькі аднойчы ён спыніўся ля рабочага-волата з невераемна вялікім кулаком, які са шчыта, паказваючы на Гаваруху і ссунуўшы пагрозліва бровы, аб нечым патрабавальна пытаў. Гаваруха пастаяў, няўцямна лыпаючы вачыма, як школьнік перад настаўнікам, і, павярнуўшыся, пакрыўджаны яшчэ больш, пайшоў прэч.

Яго хістала. Адусюль насустрач яму кідаліся фразы транспарантаў і плакатаў. Надпісы былі бадзёрыя і з цьмяным сэнсам, як пісьмёны даўно вымерлага народа.

Плойма заклікаў, прывітанняў і здравіц нагадвала аб нядаўнім шэсці працоўных паўз трыбуны. З муляжамі «каралевы палеткаў», гэт-

кага жаграмаднага бохана, сярпа і молата, якія здолеў узняць толькі магутны «МАЗ». Неслі і кантовыя брускі велізарных рымскіх лічбаў, шар першага зямнога штучнага спадарожніка, ушпілянага кіямі антэн, нарэшце — акрыленую дыгару ракеты «Зямля-Зямля» — як водгулле Карыбскага крызісу.

І — зразумелая рэч! — над людской паводкай хваляваўся гай партрэтаў.

Заначаваць Гаваруху давялося ў выцвярэзніку.

— Гэх, таварыш Гаваруха, таварыш Гаваруха,— бедаваў міліцыянт, перад якім той стаяў у адных сацінавых трусах.— Бярэшся піць, дык знай меру. А яшчэ перадавік, ударнік,— дакараў ён далей.— Газеты пра яго пішуць...

* * *

Ноччу, на казённым ложку, Гаваруху прыснілася ўсё тое, што адбылося з ім за дзень. Прычым удзельнікі падзей былі пераблытаны паміж сабою самым неверагодным чынам.

Яму не хацелася прачынацца.

## НАЦДЭМ

Шэры, маркотна-шэры, хоць задушыся, шыфер. Ад доўгай службы, ад бясконцых кіслых дажджоў ён здаецца свінцовым, як металёвыя краткі ў аўтамабільных акумулятарах. Хвалісты шэры дах. Палац. Венецыя. Турма са свінцовым дахам, каб вязні горш пакутавалі. Ад шыферу таксама рак, французы высветлілі. Неба аднаколернае. Ён гэтага не любіў. Такое неба мёртвае. Яно гаворыць, калі брыняе хмарамі або, нібы па вадзе, па ім плывуць аблокі. Некуды спяшаюцца, а Зямля круціцца. А ўсё ж яна круціцца.

Яны пісалі на сцяльніцах «Вярніце нам нашу мову!», а потым каяліся, іх прымушалі каяцца. Яны каяліся, бо іншае выйсце ўяўлялася чорна-бязглуздым. Не, хлусіш, яны адно паўтаралі словы, якія ім гаварылі і якіх ад іх чакалі. Тым часам у Парыжы студэнты давалі дыхту паліцыянтам, ішлі на дубінкі супраць слёзатачывага газу, са спевам, з партрэтамі Маа, Крапоткіна і Чэ-Гевары. «Чэ»,— звяртаюцца ў Буэнас-Айрэсе (гэта ён вычытаў у Картасара). У Празе моладзь паліла рускія танкі. Кажаце, няўдзячнасць? Прагу ў 45-м вызвалялі і ўласаўцы. А ў Менску моладзь усяго толькі прасіла вярнуць ім іхнюю мову.

А шыфер шэры, як жыццё. А муры хворыя, з плямамі, з пралысінамі на цагляным шкілеце, скуль абсыпаўся тынк, і, мусіць, назаўсёды. У турэмнага начальства хапае грошай толькі на рамонт вон-

кавых муроў. Турма ў цэнтры горада, у горадзе шмат турыстаў, горад прыгранічны.

Раман Рабэра Мёрля пра 68-мы ў Сарбоне ўразіў яго. Кніжка была з цэкоўскай бібліятэкі, тыраж у канцы не быў пазначаны. Ніякага піетэту да Маркса, да камуністаў, французскіх. Начальства дазваляла сабе такое чытаць і нікому больш. Яно не ведала замежных моў, і таму час ад часу з'яўляліся падобныя антысавецкія, але цалкам афіцыйныя пераклады. Гэты Мёрль, канечне, не з лаяльных да СССР, і яго запісалі да буржуазных. «Брэжнеў узяў Афганістан»,— заспявалі раптам паанглійску досыць надзейныя дагэтуль «Пінк-Флойды», захваленыя Саветамі за выкрыццё «машыны шоу-бізнесу», і адразу атрымалі анафему. Ён вельмі любіў «Пінк-Флойд».

Хворыя, у прыкрых скулах муры. Ніжэй-ніжэй, ніжэй. Далей ён не бачыць, але ведае: скрыня меншага падворка для шпацыру ўздоўж перыметра. Скрыня без даху. Брук. Пасярод — панцыр накрыўкі. Тэлефонная студня? Каналізацыя. Ён марыў, як потайкам спускаецца па прыступках углыб, а над галавой застаецца панцыр даху, бароначы ўцекача ад закратаваных муроў, якія нібы нахіліліся згары, прагнучы яго знішчыць. Лаз вузкі, як кратовы калідор. Яны не разлічылі, страцілі асцярожнасць, рынулі й засыпалі друзам, смярдзючай турэмнай цэглай, адзінае выйсце на волю.

А ён спускаецца ў дол. Усё чорна, слізка, смярдзюча, гідка, гной! Па калена, па жывот, па плечы. Не выбрацца. Смак свабоды набывае прысмак жудасці. Труп будзе вандраваць падземнымі калідорамі, пакуль яго не выкіне да выхаду і не вынесе ў раку. Будзе чорная ноч. Як рыбіна, дагары жыватом ён будзе плысці ўздоўж стромкіх, парослых дрэвамі берагоў, паўз вёскі і вядомы ў Еўропе курорт з рудаватай мінеральнай вадой у далёкае бурштынавае мора, забруджанае сцёкамі.

Ён прачынаецца, з ягонай глоткі рвецца спеў, штось бязглуздае: «...Кахоўка, Берлін і Варшава — этапы бальшова пуці». Ён камечыць мулкую падушку, сутаргава ўгрызаецца ў яе сапсаванымі зубамі. У Варшаўскім паўстанні сувязісты карысталіся каналізацыйнымі хадамі. Акоўцы не хацелі рускіх, руская — іх. А зручнейшага моманту дзеля пераправы цераз Віслу немагчыма было прыдумаць. Слуцкія паўстанцы таксама не хацелі пусціць бальшавікоў. Яшчэ нікому гэта не ўдалося. Ён сціскае сабе прыцэўку левае рукі, намацвае пульс і кажа моўчкі: «Спакойна».

Сёння зноў будзе крупеня. «Будзе хлеб, будзе й песня». Або «Нам хлеба ні нада, работу давай!». На руцэ сіняя татуіроўка «Ваня». Альбо

«Вася». Або іншае банальнае імя. Прачнуўся, бабу сасніў. «Спі, Ваня, спі спакойна».

Яго завуць, як звалі сына акадэміка Т-ча, таго, каторы загінуў, «памёр», паводле энцыклапедый, у самім 38-м. Яны ўсе наіўна ў нешта верылі. Сына назвалі ў гонар дзядзькі Радаслава А-га, ганаровага госця на вянчанні бацькоў у віленскім касцёле святых Пятра і Паўла. Т. быў паслом у варшаўскім сойме. Палякі запраторылі яго за краты. Бальшавікі змянялі яго на пісьменніка Фр. А., які ўжо не марыў выбрацца з Салаўкоў, адкуль ніхто не ратаваўся. Ён потым напісаў кніжку «У кіпцюрах гэпэу», якую чытала ў перакладах уся Еўропа. Абмененага акадэміка філалогіі паставілі да «адказнае» працы, у інстытут сельскае гаспадаркі. Ён паспеў вычытаць гранкі свайго перакладу Гамеравай «Іліяды». Стоп! Ён пераклаў яе ў гэтай самай турме, дзе сядзеў цяпер Радаслаў. Кніжка не трапіла ў друк, акадэміка наогул расстралялі. Пераклад знік у архівах, яго дагэтуль не вярнулі беларусам, ён не знойдзены, бо схаваны там, дзе шукаць не дазволена. Пісьменнікі людзі небяспечныя.

У турэмнай сталоўцы лыжкі прыкуты ланцужкамі да сталоў. Падобнымі да ланцужкоў з далёкага хрушчоўскага маленства, за якія тузалі, каб спусціць ваду ў белую балею унітаза. Ваню не падабаецца той, што ў акулярах і сядзіць за іншым сталом. Шпацыруюць яны ў розных дварах. Ваня ў большым, агульным, меней, значыцца, перад дзяржавай правінаваціўся. У турме паўсюдна смярдзіць аміякам мачы: калідоры, камеры, сталоўка, клуб, муры — усё смярдзіць. Гнюсна, аднастайна, неадольна.

Жанчын трымаюць у турме асобна ад мужчын, як калісьці былі асобныя гімназіі. Рэжым жорсткі, сядзяць усе падоўгу і не без дай прычыны. Цяжка такое вытрываць, калі жанчыну бачыш адно дзесь у канцы калідора краем вока або праз шыбу — у дворыку на праходцы. Бачыць вока... Брэшуць усё, што без волі цяжка. Амаль тое ж самае: жыццё шэрае, аднастайнае, толькі рэжым стражэйшы, дысцыпліна. Як у войску. У дысбаце, ва усялякім разе. Цяжка не без волі, шэрай, прэснай, нецікавай, а без бабы. Большасць зэкаў турмы імя Луначарскага ў гэтым перакананы.

Ёсць хвіля адчування праўдзівай свабоды, хоць і не заўжды — у ложку. Тут няма начальства, нападу з боку сусветнага імперыялізму. Спачатку гэтага не адчуваеш так востра і фатальна. Маўляў, бабы... Можна і без іх пражыць. А потым ужо сціскаеш сківіцы, каб не скавытаць. «Бабу дайце, бабу!» А табе замест гэтага — палітзаняткі, Леніна канспектаваць, Харчовую праграму, дакументы з'ездаў ды пленумаў.

У турме, праўда, не зважаючы на ўсе акалічнасці, дзеці нават нараджаліся. Бо да граху, вядома ж, даходзіла. Хто яго знае як? Пасылаюць, напрыклад, жанчыну на кухню абіраць бульбу, а ён тым часам нетаропка мые кацёл або падлогу. З прэзерватывамі, канечне, бяда, дэфіцыт. Яна, аднак, не супраціўлялася, хоць бачыла яго ўпершыню і ён ёй зусім не спадабаўся, па праўдзе кажучы, яна яго нават не паспела разгледзець. Ніякае дыпламатыі не было. Яна адчула прагнную грубую руку ніжэй свайго жывата. Часу ў іх было зусім мала. Гэтак час ад часу нараджаліся ўсё новыя, як пішуць у газетах, будаўнікі камунізму. Зрэшты, доказаў усяму гэтаму няма. Але ж разам з тым зняволеныя жанчыны не маглі, як тая Марыя, пузацець ад святога духа. Не маглі. І ўсё ж гісторыя пра кухонныя любошчы, не зважаючы на сваю грубасць, здаецца занадта рамантычнай для ўстановы УЖ-1984. Сама праўда можа быць яшчэ горш грубай і празаічнай. Хутчэй за ўсё зацяжарвалі злачынніцы ад турэмных ахоўнікаў, для якіх амаль немагчыма звычайнае каханне. Зламаную псіхіку маюць не толькі тыя, што «сядзяць», але аднолькава і тыя, што вартуюць.

Ахоўнікі па-свойму рахманыя, ды нерашучыя ў паводзінах са звычайнымі жанчынамі, на волі. Кветкі, пацалунак, прызнанне ў каханні для іх справа нагэтулькі складаная, што мала хто дае рады. Са сваімі, турэмнымі, куды прасцей і больш зразумела. Ноччу. На дзяжурстве. Ты ёй пару цыгарэтак, шклянку піва, можа, нават танную памаду, калі адносіны набываюць нейкую рэгулярнасць. І яна табе вырабіць усё, што захочаш. Адно трэба быць асцярожным, каб не заспеў дзяжурны афіцэр. У тых, кажуць, ёсць сталыя кліенткі, самыя-найсамыя.

Астатнім застаецца аднаполае каханне, з чаго на волі, можа, нехта з іх нават кпіў. Але гэта таксама даступна не ўсім. Каханкі могуць жыць у розных камерах, нават у адзіночках. Спатканні адбываюцца па суботах у душы. Ахоўнік за плату гасіць святло. Пад халоднымі струменямі ліхаманкава кахаюцца. Цёплую ваду падаюць у ацяпляльны сезон.

Ванна здаецца Радаславу недасягальнай, як Амерыка. Ён марыць папесціцца ў эмаляванай лазніцы, у вясёлкавых пахкіх бурбалках нямецкага «Бадузану». З кніжачкай Аны Бландыяны, з запацелай шклянкай піва з лядоўні. Ваня гэтай справы не прызнае. Хіба што піва. А так, дык у лазню б ды пасадзіць на паліцу азадзістую кабеціну. А потым дзвесце грамаў, шматок сала, цыбуліну і... Была ў Вані адна такая кабетка.

Дзяжурныя прадаюць двухкапеечныя бакінскія прэзерватывы па чырвонцу і дбайна ўжываюць самі, бо забабонна баяцца, што па-

водле тэрміну цяжарнасці можна вылічыць дату, карацей, чыё было дзяжурства.

Парторг, выклікаючы дзеля гутарак сам-насам, прапануе лепшым — дысцыплінаваным, ціхмяным і палітычна даспелым — уступаць у партыю, бо з ахоўнікаў, хто больш-менш не п'ніца, усіх ужо прынялі, а план-разнарадка застаўся, нават павялічылі: ад дасягнутага росту партыйных радоў.

Радаславу парторг не прапануе. Радаслаў не такі, як усе. Яго лічаць за паэта і мяркуюць паблажліва, што паэтам месца не ў турме, а ў дурдоме. Але пра паэзію ўсё няпраўда. Радаслаў ніколі не пісаў вершаў. Хіба які-колечы экспромт, вынік сентыментальнай хвілі, чагосьці падобнага да сумесі закаханасці, самалюбавання ды, у нейкай ступені, таго, што завецца часам натхненнем. Яе звалі і цяпер завуць Сабінай. Ад слова «собіць»? Вось чаму ён і ўцёк, паспрабаваў уцячы. «А-а, паэт. Паэт, ану пачытай сцішкі. «Здзесь будзет горад-сад» ілі «Я ляжу на чужой жане»...

Думкі аб уцёках — рэч небяспечная, крамольная. Падзяліцца з кімсьці нельга, але й не думаць няможна. Думкі да прыкрасці неадчэпныя. Радаслаў разумеў, што без падрыхтоўкі не ўцячэш. Але паступова падсвядома таксама ўцяміў: падрыхтавацца немагчыма, атрымацца можа толькі знячэўку, у неспадзяваным, рызыкоўным выпадку. Другі голас сцвярджаў: усе спробы ўцячы ўвогуле марныя, падстрэляць і пахаваюць на турэмных могілках, а чурка-вартавы паедзе ў адпачынак есці ўрук і піць рысавую гарэлку. Радаслаў яго не слухаў, дакладней, не прызнаваўся, што другі голас існуе і ён яго чуе.

Падобна яно й атрымалася, калі нарэшце надарылася нагода. Якая ж гэта шчаслівая падзея, калі напярэдадні рэвалюцыйнага, а таксама свята працы, двойчы штогод, звонку, на волі, на гарадскіх вуліцах беляць высозныя турэмныя муры! Каманду набіраюць з палітычна надзейных маладзёнаў. Старэйшыя пагардліва адмаўляліся фарсіць у сваёй турэмнай робе навідавоку ў гарадское публікі ды яшчэ й працаваць пад наглядам зацёрханага, з пакамечаныя тварам «куска» — старшыны. Няма ахвоты падхарошваць знадворку свой турэмны дом! У такіх святочна-працоўных выпадках турэмныя бывальцы аказваліся з'едлівымі і няўмольнымі. Даводзілася браць маладых, не проста згаворлівых, але і моцна ўдзячных за давер, за падараваную нагоду дыхнуць вольным паветрам. Яны былі гатовыя хоць штодня бяліць тыя высачэзныя муры. Але не ўсе. Некаторыя пасля першага разу адмаўляліся.

Навокал маткі з дзецьмі, найпрыгожыя, менавіта ў гэтым надрэчным горадзе, дзяўчаты, нейкія іншыя людзі. Усе нібыта спяша-

юцца, ім няма справы да добраахвотных маляроў, але позіркі, хвілёвыя ці зусім вокамгненныя... ад іх рабілася цяжка і ніякавата. Цікаўнасць без спагады. Даводзілася рабіць выгляд, што ты не глядзіш у іхні бок, цябе не хвалюе іх рэакцыя, табе гэта не цікава, ты заняты звычайнай працай, беліш да свята муры. Колькі цяпер, напярэдадні, у горадзе ўвіхаецца тынкоўшчыкаў і маляроў! Часцей мажнаватыя жанчыны, у выпацканым адзенні, ніхто на іх не зважае. Праўда, старшына з пісталетам на баку. Але яго таксама пры моцным жаданні можна амаль не заўважаць. Іх трое: адзін трымае вядро з пабелкай, другі — квач на тычыне, трэці — драбіны. Выконваючы працу, яны паступова абыходзяць турму па перыметры, цэлы невялікі гарадскі квартал. Выцвіла-шэрая фуфайка, гэткія ж нагавіцы, на галаве арыштанцкая, мышынага колеру шапка, якую ні з чым не зблытаеш. Усе глядзяць на цябе.

Радаслаў раптоўна лінуў з вядра на панурага макаронніка, шыбнуў вядро ўбок і кінуўся наўцёкі. «Страляць не будзе. Хіба ў паветра!» Наўкола людзі-людзі, збянтэжаныя, зляканыя, натоўп... Прагнуў перамагчы ў сабе баязліўца, вось сядзі цяпер у карцэры, чакай новага суда. Зведаў пачуццё пратэсту супраць усведамлення тае ісціны, што ўцячы немагчыма, зазнай цяпер турму ў турме, якая, у сваю чаргу, таксама існуе ў «турме народаў». Газетна-кніжныя штампы. Такім чынам, Радаслаў — тройчы вязень, знаходзіцца ў турме трэцяй ступені, «у кубе». Апошняя ў гэтым ланцужку вязніца смяротніка... Сувязь з вонкавым светам, дзе пакуль яшчэ паслаблены рэжым утрымання, для Радаслава надоўга перарвана. Лісты, кнігі, радыё, газеты — табу.

Кажуць, па-кашубску пісьменнік — «лгаш». Брэшуць, мабыць. Радаслаў, каб нечым заняцца, выдумляе сюжэты. Атрымліваецца глупства. Цяжкі злачынца з ачарсцвелай душой сядзіць у адзіночцы. Ветрам на падаконне заносіць аднойчы лісточак. Ён бярэ яго і ўпершыню да смылення ў сэрцы ўсведамляе, што ён не толькі нібы ліст з таго, усё ж лепшага свету, але для яго тут — і ўвесь той свет. Ён пачынае пільнаваць падаконне. З часам у яго назбіраецца нават невялікі гербарый паміж старонак адзінай кнігі, якую яму дазволілі мець. Потым лістота жоўкне і аблятае з дрэў. Пазней падаконне пакрыецца снегам. Наступае доўгая сцюдзёная зіма. Усю зіму вязень разглядае сетку пражылкаў на лісцях, уяўляючы апошнія крыламі вялікіх паўднёвых матылёў, і чытае адну сваю кнігу, але нічога не разумее ў прачытаным.

Вясною ў кутку падаконня ў жменьцы зямлі прарастае зёлка, якую аднойчы здзяўбе аднекуль заляцелая бяздумная птушка. А пад час вобыску ў камеры дзябёлы старшына вытрасе ў парашу ўвесь з

гэткай цяжкасцю й любоўю сабраны гербарый. Усё! Для героя жыццё скончана. Ён цвёрда вырашае абарваць яго самагубствам, але не ведае, як гэта ажыццявіць у турэмных умовах.

Сентыментальшчына. Закратаваныя вокны не адчыняюцца, у камеры заўсёды пануе лёгкі смурод. І кніжак у адзіночцы нікому не дазваляюць чытаць, нават статут капээсэс.

На турэмны падворак уязджае машына з хлебам. На ёй так папросту і напісана «Хлеб». Ці па-руску, ці па-беларуску адна трасца. Радаславу ўяўляецца гэтае прывабнае слова, намаляванае белай фарбай праз трафарэтку. У войску таксама завозілі часам духмяны хлеб, але кармілі чэрствым, чакаючы, пакуль счарсцвее і свежы. Тутака мяккі хлеб бачаць толькі на сёмае ды першае, на савецкія святы. Радаслаў заплюшчвае вочы. Уяўляе, як хлебарэз кроіць боханы да вячэры. Вялікі нож надзейна прыкуты да стальніцы. Хлебная дошка спярэшчана пісягамі парэзаў, пакінутымі вострым лязом. У хлебарэзы бяруць самых надзейных (нож — смяротная зброя!), каму мала засталося сядзець, таму не трэба штосьці ўчыняць. Своеасаблівы ганаровы абавязак. Выносіць парашы таксама, можна сказаць, ганарова, але менш. Абы не сядзець, абы выходзіць, рухацца. Час хутчэй мінае. Радаслаў ляжыць, падклаўшы рукі пад галаву. У турму боханы завозяць з хлебных крамаў, чэрствыя боханы, якія ўжо ніхто не бярэ.

У турэмнай кухні варыцца ўкраінскі боршч без мяса. Не дазволена замнога, а што і дазволена — пакралі кухары, як гэта паўсюдна і здараецца. У санчастцы шпыняюць у азадкі хворых злачынцаў навакаін. У ленінскім пакоі адбываюцца палітзаняткі для вязняў на тэму «Змаганне савецкіх людзей пад кіраўніцтвам капээсэс за правы чалавека ва ўсім свеце» ці на якую іншую. Турэмшчыкі прымаюць сацыялістычныя абавязкі на наступны вучэбны год. Паляпшаць веды, павышаць пільнасць, каб ніхто не ўцёк, і г. д. Сяржант вучыць маладых вартавых «чуркаў» расейскай мове. Мыюць кухонныя катлы, падлогу ў калідорах, смярдзючыя прыбіральні. У клубе круцяць «Чапаева» або «Трактарыстаў». Пакрысе шэры дзень блякне і чарнее. Адбой. Ноччу ў дзяжурцы макароннік спаганяе свой комплекс непаўнацэннасці з нейкай кабеткай на тапчане, сочачы адным вокам за шчытом з сігнальнымі лямпачкамі. Нехта з вязняў, не вытрываўшы, памірае ад старасці альбо з нудоты, не дасядзеўшы свайго тэрміну. На наступны дзень пасля ўсіх фармальнасцяў яго часова вывезуць на волю, у крэматорый, абслужаць па-за чаргой, прывязуць назад і закапаюць бляшаную скрынку з попелам на невялічкіх турэмных могілках.

У таго, каго завуць Васем або Ванем, ёсць нататнічак. Тэлефонная кніжачка, дзе на розныя літары — розныя жаночыя імёны. Насу-

праць кожнага пазначана з вялікай дбайнасцю, колькі разоў з каторай з іх ён пераспаў. Вядомая справа, калекцыянер.

Тю-у-рь-ма-а. Турма. Гучыць грозна. Гэта табе не «хлеб». Рознае гучанне, адрозненне псіхалогіі, адлегласць у менталітэтах. Наш вязень аб гэтым шмат думае. Думкі прыкрыя. Гарэлка й горелка. Розніца?! Нас рабілі імі. Цікавы эксперымент. А потым усіх разам прыраўноўвалі да агульнага знамянальніка, класіфікавалі, як казюрак: таварыш, грамадзянін, мужчына, з рабочых, з сялянаў, са службоўцаў, з пенсіянераў (непатрэбнае закрэсліць).

Не, не далі гэтай мове як след выпрастацца... Спачатку пісалі ўсе хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху. Кожны па-свойму. Нарэшце з'явілася першая граматыка. Менавіта ў 18-м, у год кароткай і няпэўнай незалежнасці. Яе чакалі не менш, як самой незалежнасці. Як вядома, сапраўдную дзяржаўнасць замянілі аперэтачнай, а граматыка напачатку засталася, па ёй вучыліся пісаць мільёны. Але потым бальшавікі спахапіліся: свабоду яны пахавалі, а граматыка тым часам жыла легальна. «Быў скліканы тэрміновы кансіліум, на ім вучоныя, якія ганарыліся, што акадэмій не канчалі, хуценька прыдумалі дыягназ і выпісалі адпаведны рэцэпт: вылегчаць і граматыку, і мову. Усіх пачалі навучаць паводле кладзеных падручнікаў. Тым, хто супраціўся, ставілі дыягназ «нацдэм». Усё адно што вар'ят і нават горш — вораг. Спакладанне адбылося паўторна.

Яно не дае пачатку новаму жыццю. Гвалт над мовай — з'ява пралетарская». Каб у Радаслава былі папера і аловак, ён бы занатаваў свае думкі. Здаецца, гэта ў яго атрымалася б лепш, чым аповяд пра гербарый турэмнага батаніка. Каб Радаслаў апынуўся на волі, каб у яго быў друкарскі варштат і каб ён не баяўся, дык мог бы аднавіць «Мужыцкую праўду». Але занадта многа гэтых «каб», і аніводнае з іх, бадай, неажыццявімае.

Але ж папрацавалі тады над граматыкай сапраўды па-пралетарску. Пашчыравалі. Што мог пасля адчуваць аўтар, небарака акадэмік філалогіі і сельскай гаспадаркі? Жартачкі! Яго самога пакуль не чапалі, бо як-ніяк ягонага вызвалення з турмы патрабавала ўся Еўропа. З гэтае прычыны яго тварэнне было знявечана з яшчэ большым смакам. Пісьменнік Фр. А. здзівіўся, калі іх мянялі на мяжы, якое дыхтоўнае паліто на Бр. Т., як гладка выглядаў пасля турмы ён сам. Дыхнуўшы вольнага паветра, Фр. А. з'еў у звычайным станцыйным буфеце з ладным кавалкам мяса полудзень, варты сталічнага рэстарана.

У горадзе час ад часу адключаюць электрычнасць і ваду. З электрычнасцю перабоі часцей здараюцца доўгімі зімовымі вечарамі, вады не бывае звычайна ўлетку. У турме без святла нельга, таму дзеля

выпадкаў існуе ўласнае дызельнае дынама. З вадой горай, вады сваёй няма, была калісьці даўней, а цяпер зусім няма. Калі адключаюць ваду, на вуліцы спёка, а ў турме гнюсна смярдзіць прыбіральнямі.

Яму, Радаславу, было наогул вядома, чаму гэта яны пісалі на сталах «Вярніце нам нашу мову!». Каб забыць, трэба знішчыць, запалохаць. Адных знішчылі, амаль усіх астатніх да паўсмерці злякнулі. Косткі акадэміка парахнелі немаведама дзе, а ягоная граматыка трапіла ў пажыццёвае зняволенне. Большасць напісанага і выдрукаванага паводле яе было знойдзена ды спалена, а ўсяго знішчыць, вядома, не ўдалося. Яму таксама таемна трапляілі ў рукі старыя пажоўклыя часопісы і кніжкі, надрукаваныя калісь тым яшчэ правапісам, ласкава названым «тарашкевіцай». Лішнія мяккія знакі ў іх, «э» ў слове «Еўропа»... не былі мёртвымі адбіткамі, а як бы глытком свабоды, бо мелі кляймо забароны. Так, дыхаць свабодна забаранялася. Наважваўся на гэта не шмат хто. Радаслаў наважыўся і адчуў, што назад вяртання няма.

Тарашкевіца з'яўлялася адзнакай свабоды, і патрабаваць ад турэмшчыкаў вярнуць яе было наіўнасцю. Турэмшчыкі аддавалі перавагу іншаму правапісу, г. зв. «наркомаўцы», а спавядалі наогул вялікую чужую мову, якой ніхто з іх ніколі добра не валодаў. Гэтак у школьным юнацтве Радаслававы аднакласнікі танчылі пад спевы ансамбля, які капіраваў модныя замежныя песні; нічога не разумеючы ў тэкстах, спявак апантана тварыў з англійскай нейкую неўразумелую мову афрыканскіх тубыльцаў.

У ленінскім пакоі не паспяваюць мяняць партрэты, бо неспадзявана ўраджайна пачало раптам мерці Палітбюро. Для нампаліта невырашальная задача: здымкаў новых членаў пакуль няма дзе ўзяць. Пустыя чатырохкутнікі на месцы фотакартак могуць прыгнятальна ўплываць на вязняў. Шэптам гавораць навіну: пяцігодка пахаванняў Палітбюро (пэпэпэ).

«Літво, Ойчызна моя!» Звычайна далей паэму не чытаюць. І мовы польскай дастаткова не ведаюць, і лянуюцца агараць гэткую вялікую кнігу, спрэс напісаную доўгім архаічным вершам. З чытаннем у арыгінале ў Радаслава таксама напачатку былі цяжкасці, хутка стамляўся. Але ж дабраўся нарэшце нават да таго месца, дзе нечакана апавядалася пра спрытнага ворага, генералісімуса Суворава, які нібыта па чарзе скідаўся хортам або куніцай, даганяючы і дратуючы капытамі свайго супрацьўніка. Гэтую сваю знаходку Радаслаў выкарыстаў ва ўласным апавяданні, напісаным эзопаўскай мовай і поўным празрыстых намёкаў. Апавяданне надрукавалі, але не заўважылі. Лепшы

водгук! Радаслаў раскашэліўся і купіў сабе дарагі факсімільны двухтомнік першага, парыжскага выдання «Пана Тадэвуша».

Для яго былі створаны ў турме лепшыя ўмовы: кнігі, папера, атрамант. Даводзілася, праўда, звяртацца з лістамі да акруговага пракурора альбо да начальніка турмы па справе перасылкі сшыткаў з перакладам. Яны спраўна перасылаліся жонцы. Пераклад паэмы быў скончаны ім у турме цалкам. Усе сшыткі захаваліся. Іх з Фр. А. памянялі з сёмага на восьмае верасня. Пра яго потым пісалі «памёр у 38-м». Фр. А. таксама «памерлі», але пазней.

Радкі перакладу ён дапасоўваў да рашэнняў арфаграфічнай канферэнцыі 26-га года. Усё дазволена! Нават новыя, сербахарвацкія літары ў алфавіце. Акадэмік адстаў ад жыцця, ён сядзеў у турме і не ведаў, што навуковыя высновы пераважылі класавыя, пралетарскія. Паляванне на нацдэмаў! Ён вярнуўся ў самы разгар. Пад капелюшом, у дыхтоўным паліто, гальштук ды інтэлігенцкія акулярыкі, пад пахай скураны, куплены ў Варшаве, партфель з «Іліядай» і «Панам Тадэвушам».

Капрызна, пасля доўгай пярэрвы, абзываюцца пакінутыя адкручанымі водаправодныя краны, і турму зноў мыюць-мыюць-мыюць. Марны занятак. Усё адно смярдзіць. Незнішчальна. Непераможна. Фанабэрліва. Такі пах не вытруціць. Ен зыходзіць адусюль. Смярдзяць нават самі муры. Турма тут ужо даўным-даўно. Існавала сто гадоў за царом, потым за палякамі, за першымі Саветамі, за немцамі, існуе й дагэтуль. І разам з турэмшчыкамі ды вязнямі заўжды існавалі смярдзючыя арыштанцкія прыбіральні. Гучна ліецца ў ражкі халодная вада. Злачынцы шаруюць кухонныя катлы, алавяныя лыжкі, паўміскі, квадратныя метры падлогі, дзіркі ў прыбіральнях, свае і сваіх ахоўнікаў.

Да савецкіх святаў беляць-выбельваюць турму, да савецкіх святаў (вось толькі чамусьці няма Дня працаўніка турмы) рэгулярна абнаўляецца змест турэмнае насценгазеты «За новый быт». Рэдакцыйная калегія, сам адказны рэдактар, мастак, пісар з каліграфічным почыркам. Усё як належыць. Ёсць нават цэнзар — нампаліт. Радаслава ў газеце не друкуюць, піша «завумна». Не, каб вершык святочны прыдумаць. Цэнзар існуе якраз збольшага, дзеля Радаслава, каб не напісаў чаго ганебнага пра партыю або пра УЖ-1984. Паміж сабой яго называюць Салжаніцыным, хоць самі ўсе аднолькава сядзяць, а Радаслаў не тое што «Архіпелаг», наогул нічога ў турме ніколі не напісаў, бо яму баяцца даваць паперу і аловак, а сцэны ў прыбіральнях распісваюць іншыя. Але гэтыя бяспечныя. Апроч трохлітарнага слова з адпаведным малюнкам, ніякіх больш конікаў не выкінуць. Свае,

надзейныя хлопцы. Пачуваюцца яны як рыба ў вадзе. Зрэшты, наадварот. Вада забруджана і атручана. Паветра ў турме смярдзючае. У лепшым разе цяжка-задушнае, як у шпітальных калідорах пасля вільготнай прыборкі.

Прыязджалі на свята самадзейнікі з шэфскім канцэртам. Спявалі хорам «Партыя — наш рулявы», дэкламавалі «Мы гаварым Ленін, падразумяваем партыя» і наадварот. На заканчэнне паказалі сцэнку з «Чалавека з ружжом», атрымалі воплескі. Нампаліт ад імя камандавання, г. зн. кіраўніцтва турмы, уручыў самадзейным гасцям Ганаровую грамату. Арыштантам да святочнага полудня выдалі па паўпачка пячэння, а на вячэру — па два яйкі.

Да жалезных варотаў турмы імя Луначарскага грунтоўна прымацаваны важкія серп і молат. Пакінь надзею кожны, хто сюды ўваходзіць. У галаве Радаслава круціцца старая замежная песня, забароненая як ідэалагічная дыверсія Захаду. Недзе ў дзяжурцы, на тапчане... ну, самі ведаеце што. «Недзе цурчыць у туалеце вада, сумныя думкі наводзіць яна». Радаслаў у думках выходзіць за браму, усміхаецца выгляду сярпа з молатам. Насупраць — утульная кнігаранька, якая дзівам апынулася ў гэткім месцы. Дзверы, рыпучыя ўсходы з поручнямі, касавы апарат, паліцы з кнігамі, на сценах карціны. Калісьці тут ён прыдбаў факсіміле «Пана Тадэвуша». Здаецца, гэта адбылося вельмі даўно. А за кутнім домам дрэмле кававарка ў кафейні «Чорная кава». «Нігды не было так добжэ як тэраз. Піем кавы і ніц мі не тшэба венцэй для шчэншьця». На пляцоўцы паміж старымі сінагогай і пажарнай вежай начуюць турыстычныя аўтобусы. Турыстаў водзяць у музей у старым замку. Новы аглядаць нельга, там — абкам партыі, ахоўваецца міліцыянтам. Вартуе горад танк на п'едэстале. Пад гарой, на рацэ, прыланцужаны да невялікае прыстані старэнькі, першага пакалення цеплаходзік. Далёка не заплывеш, рака не паўсюль суднаходная. Радаславу неакрэслена прыгадваюцца падземныя калідоры, якія павінны тутака існаваць, ён засынае.

Ва ўстанове УЖ-1984 амаль усё было сваё, адно хіба харчы завозілі. А так існаваў нават свой музейчык баявой славы. Частка, якая ахоўвала цяпер турму, калісьці прайшла з баямі ад Сталінграда да Кёнігсберга, а потым ёй прышукалі адпаведную адказную справу. За мінулы час з яе сценаў выйшла багата выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Вакол горада ў лясах схавалі многія выведзеныя з Нямеччыны танкі, «Рускія танкі ў Вашынгтоне?!» Крупнік прыдумалі, каб тайна накарміць велізарную савецкую армію. Іван Крамскі, мажны, але далікатна-рахманы, вайсковы аднагодак Радаслава, папярхнуўся ў салдацкай сталоўцы гарачым крупнікам.

Усе працягвалі жаваць з каменнымі тварамі. Радаслаў паспявае сагнуцца, яго ванітуе пад стол. За суседнім Ваня-Вася апавядае пра тое, як спаборнічаюць на пікніку бабы з іхняй кампаніі. Пасля пары шклянак, сядаючы, паглынаюць адным месцам парожнюю бутэльку. «З-пад пепсі-колы. Яй-богу!»

На шэрых турэмных варотах перакрыжаваныя серп ды молат. Калі Бр. Т. аддаў перавагу палітыцы і апынуўся ў турме, Р. А. Выпусціў на падставе ягонага падручніка граматыкі — сучаснейшы. Радаслаў запомніў адтуль фразеалагічны прыклад: «Вільня не адразу паўстала». Пазней, калі Бр. Т. ужо не было ў жывых, настала чарга ў палітыцы для Р. А. Ён узначаліў Беларускую Раду, але застаўся жывы. Уцекачом. Яго знясільвала настальгія. У Міжземным моры ён прыдбаў выспачку. Выпетраная камяністая паверхня. Рэшткі антычнага мура, бясплодныя смакоўніцы, высокае сонца, распаленае паветра, спёка. Белы дом ля блакітнай вады. На тычыне самлеў бел-чырвона-белы сцяг.

## ФРАНАК СІРОТКА

Цела здрыганулася, затанчыла нібы ў ліхаманцы. Галава жудасна-смешна заматлялася. Сутаргі, су-таргі. Капцы... Франак здранцвеў. Навокал шугала, выбухала, гарэла. Уявіў, як цела забітага ім душмана пратачылі, нібы чэрві, кулі — «дум-дум». Пакручаста, без пэўнага кірунку, як нахабна калідорацць у труне пахаванага нябожчыка. Але тое цела нічыйнае, халоднае, мёртвае. А ў гэтым яшчэ толькі што пульсавала жыццё, кроў, цеплыня. Праз хвілю Франак сам ужо торгаўся на спякотнай, каменюкаватай чужой зямлі ў слязах і ляманце. Яго моцна ванітавала.

Гэтак ён забіў першага і апошняга ў сваім жыцці чалавека — душмана. «Лепей бы мяне, чымсьці я...»

Дзверы ажно застагналі. Бацька знік у сенцах. «Не мужык! Баба». Гэта — сам сабе. А ўголас: «Хоць бы да дзевак схадзіў, да рагатух...— Сказаў, стрымліваючы абурэнне: — Франак! Нават не пакурыць з ім на ганку. Такі табе сын...» «Во-во, і слушна табе бацька кажа,— падтакнула маці з-за печкі. Шаткавала капусту, спынілася крыху каб сказаць.— Узяў бы, ды паслухаўся».

Пахла за печкай і сушонікамі, і лузанцамі па-даўнейшаму, але Франак не адчуваў або папросту не пазнаваў тых пахаў. Яму ўсё пахла, моташна смярдзела крывёю, душманскай, сваёй уласнай і — хлопцаў з бэтээра, які поўз наперадзе. Змяшанай з парахавым гарам, пахам знішчанага цела і поту.

— А, дум-дум. Дум-дум-дум! — з набрынялымі чырванню вачыма бубніў на замежны капыл у курылцы пад гітару «дзед» Барысюк.— Ансамбль «Слэйд», хлопцы. Дзембель у маі. Нап'юсь. Да дзевак пайду. Яй-богу, таптаць. Вот толькі мне да баб дарвацца б. Першым дзелам бабу завалю. Не брашу...

Дахаты яму было наканавана вярнуцца ў цынкавай труне.

«Дум-дум-дум-дум!»

Злез з печы. Не стаў чакаць капусты. Узяў чыгунок з учарашняй крупеняй. Пачынала бурболіць, падкісла. Нічога. Пасёрбаў. Схадзіў у сенцы, адкроіў сала. Бацька ў двары калоў дровы, зганяў злосць. Намысліў пасабіць яму. Але пачуў, як спынілася блізка машына. Нехта затупацеў па ганку, па-вясковаму, без стуку адчыніў дзверы. Парторг. «Здарова, салдат.— Узяў яго па-бацькоўску за плячо. Завёў у хату (паздароўкаўся з маці), пасадзіў за стол, сам сеў побач на лаве.— Ну што, у арміі ў партыю не ўступіў? Нада ўступаць, Франц. Урэмя сягоння атвецтвенае. Няможна заставацца ў старане...»

Гаварыў з паўгадзіны. «Ну, як? Ці згодны?» Франак ленаваўся спрачацца, але хаця б адгаварыцца. Сказаў, што яшчэ не адчувае сябе зусім гатовым да ўступлення. Растлумачыў, што гэта самы сур'ёзны крок у жыцці, а таму не хоча спяшацца, бо трэба ўсё ўзважыць... Парторг даў яму тэрмін і абяцаў пакуль пачакаць.

Франак выйшаў на двор. Пад павеццю грувасціліся дровы. Напяўшыся, вялізная пярэстая свіння цурболіла ў гной. Вочкі — тупасць і самазадаволенасць. Не пайшоў да прыбіральні, мастком праз гной. Расшпіліў прарэх у нагавіцах. Зрабіўшы, сеў на дровах. Сонца ўгрузла, нібы жаўток у яечні, пакрылася смугою, як на патэльні пад накрыўкай. Скруха.

Кулькі ў набойнях былі незвычайныя. Тонкія, вострыя. З чырвоным паскам — «светлякі». Душман, як той паглынальнік агню, светлякі гаслі ў ім, грузлі ў тулаве. Ілюзія. Кулі са зմененай раўнавагай пачыналі свавольна гуляць унутры. Шэптам казалі, што яны забаронены ААН. Параненых пасля не заставалася, у лепшым разе — калекі. Камандзіры называлі іх набоямі з ссунутым цэнтрам цяжару, але размаўляць пра гэта забаранялася.

Куры грэбаліся ў пяску. Устаў з дроваў і гародамі падаўся за аселіцу.

Панскі сад. Дрэвы. Ад дома — анічагусенькі. Нават падмуркаў не засталося. Груд камення. Крушня.

За вёскай стаяла капліца. Па «ўбіенных воінах». Выцвілыя папяровыя кветкі. Цыбуліна. Крыж царкоўны. Яшчэ царскі. Цераз гравійку — зарослы хмызняком падмурак, чырвоная цэгла. Больш ніякага

знаку. Пакурыў, седзячы на шчарбатых цаглінах. Завурчэла машына. Спыніў, папрасіў падвезці да суседняе вёскі. Праязджалі іхнюю хату. Угледзеўся: ані маці, ані бацькі не відно.

У Лучазарным спытаў, дзе жыве настаўнік Какоўка. Адшукаў хату, пастукаўся. Спачатку ў дзверы, потым побач — у шыбіну. Сточаныя шашалем дзверы прачыніліся. У пройме стаяў не стары яшчэ мужчына ў пінжаку наапашкі. Паздароўкаліся.

— Франак Сіротка я. Вучыўся ў вас. Можа, памятаеце.

— А-а. Чаму ж, памятаю.

Болей не ведалі пра што размаўляць.

— У Афгане я служыў. Вярнуўся толькі.

— Жывы, значыць. Добра гэта.

— Пашанцавала.

Гаспадар выйшаў з хаты, вынялі разам папяросы. Селі пад плотам.

— Ну, расказвай, Сіротка.

— Пра вайну?

— Ды не, што баліць табе.

— Душмана я застрэліў. Медаль вось маю... Раскажыце вы лепш, што за нашай вёскай за падмуркі. Я нічога толкам не ведаю.

Вяртаўся дахаты пешкі. Ідучы з другога канца вёскі, заўважыў абеліск. Воінам і партызанам. Завостраны кантовы слуп з зоркай. Агароджа, кветнічак. Франак пастаяў каля яго. Думкі ізноў завіравалі... Пякло сонца, скавыталі кулі «дум-дум», у роце металёвы прысмак крыві з порахам, смага. Нянавісці няма. Пустэча. Ужо амаль не чалавек, не Сіротка Франак з Крывічоў...

Бацькі былі ў хаце. Бацька анічога не сказаў, моўчкі паставіў на стол пляшку. Паказаў толькі галавой: сядай. Франак не стаў адмаўляцца. Сёння пад вечар ён упершыню адчуў крыху палёгку. Паслабла ледзь-ледзь ягоная нутраная зацятасць. Выпілі «пушчанскай». Ну й добра. І няхай сабе. Пакурылі з бацькам на ганку. Моўчкі.

Першы раз ноччу спаў. Душманаў не сніў.

Раніцай запытаў бацьку, завошта выгналі са школы Какоўку. Бацька з прыкрасцю сплюнуў. «За вершыкі нейкія, казалі, пра партызанаў. Дурань». Больш не размаўлялі. Бацька пайшоў на мехдвор. Маці яшчэ з дасвецця на ферме. Панядзелак.

Пакапаў крыху грады. Узяў папяросы, пайшоў на вуліцу. Дайшоў да падмурка. Ужо інакш агледзеў, памацаў цэглу. Сеў.

...Іхні бэтээр страсянула. Чакаеш гэтае хвілі як непазбежнасці, а здараецца неспадзявана. Усяго скаланула, заказытала ў пахвіне, нібы скочыў з гары, потым адчуў, як пацякла кроў з твару. Наперадзе

перагарадзіла дарогу знішчаная 232-ка камузвода. Аднекуль ззаду з жудасным віскам над галовамі праляцелі рэактыўныя артнабоі. Панад мазанкамі кішлака ўзняўся суцэльнай хмарай руды пыл.

Атакуючых ахоўвалі моцным агнём. Страляніна навокал ды яшчэ бранявая камізэлька ціснулі да зямлі. Адусюль скавыталі кулі. Здавалася, яны ляцелі не ўзад-уперад, а з усіх бакоў наогул, без усялякага ладу. Франак Сіротка імкнуўся захапіць разам з іншымі кішлак, у якім знайшлі прытулак душманы і які на ягоных вачах толькі што знішчаны артабстрэлам. Ці былі ў ім жыхары?

...Абеліск узвялі побач Крывічоў. А павінны былі каля суседняе вёскі, але ад яе гарэлішча адно засталося, вуголле. Партызаны солтыса забілі ды нейкіх фрыцаў, афіцэра з аховай. Самім удалося ўцячы ў лес, а вёску немцы спалілі дзеля помсты. Або нібыта не немцы то былі, а ўкраінцы ці летувісы. Паліцэйскі батальён. Пазней, праўда, спаленую вёску ўсё ж адбудавалі, назвалі Лучазарнай, але абеліск ужо не сталі чапаць. Хай сабе стаіць.

Франака, калі вярнуўся, па начах ліхаманкава трэсла. Маці плакала, баялася, што на падучку заняпаў.

Пакрысе ажыў.

Увечары маці хадзіла на другі канец вёскі, за стайню. Назбірала ў драцяны кош конскіх глянцавітых круглякоў. Свінням у карыта. Франак яшчэ зусім хлапчанём быў, як аднойчы ўзяла яго з сабою бабка збіраць за стайняй круглякі. Ён ні аб чым у яе не пытаўся, але яму было ніякавата праз тое. Як гэта можна есці гэта, нават і свінням, з якіх потым шкурка, салка з мяскам, кілбасы... Франак усё бегаў крадком за пуню паглядзець, ці сапраўды яны жаруць тое. Вызіраў нясмела з-за рога і бачыў спачатку закарэлыя лыткі, шворкі хвосцікаў, шчаціністыя каркі. Чуў нецярплівае рохканне, таропкае чвяканне. Падыходзіў засцярожліва бліжэй. Яны ўздымалі на яго няўцямна свае ніякія вачаняты ды зноў торкалі парсючыныя брудныя лычы ў мешанку з бацвіння і крышаных круглякоў. Яму хацелася чамусьці раўці, але ён стрымліваўся.

Столькі часу мінула, а ўсё круглякі! Камбікорму няма. Хлебам таксама болей не станеш карміць. Добра, выходзіць, што хоць у калгасе ніколі не хапала спраўных трактароў і таму, мабыць, захаваліся коні.

Сніў сон. Яны наступаюць батальённа на горны кішлак. Душманы зацята бароняцца, змагаюцца за кожную саклю. Гінуць разам з жыхарамі, якія не пажадалі або не паспелі пакінуць свайго котлішча...

Кныр вішчаў неяк з напругай, зусім ужо не па-парсючынаму, а як ахвяра, якая чапляецца за жыццё, аднак чадспудна ведае, што

ўжо не адкараскаецца. Недалужны сусед-п'янчуга спяшаўся і меў несамавіта-дураваты выгляд. «Касцюк, Касцюк, дзяржы яго!» Бацька адабраў ад яго швайку і, хоць не любіў дужа гэтае справы, уторкнуў лязо некуды пад сэрца недарэзанаму кныру і павярнуў тамака. Франак адвярнуўся і зацiснуў далонямі вушы. Кабан заекатаў, вымкнуўся, закульгаў. За ім пацягнуўся крывавы след. Па снезе. Капцы.

Прыцемкамі, запаліўшы ў хаце святло, каштавалі свежаніну. Франак адмовіўся. Схаваўся на печы. «Дзікун малы».

Гэтым разам па вяртанні сына зноў калолі кабанчыка. Так бы датрымалі да Калядаў, але ўсё адно быў ладны, добра гадаваўся. Цяпер бацька ўзяўся ўсё зрабіць сам. Пачакалі толькі, пакуль хлопец збольшага ачуняе.

Парсюк пабег быў, ды зваліўся і ў сутаргах сканаў. «Ладнае свінчо, ды нязграбнае»,— задаволена, бо скончыў непрыемную справу, мовіў бацька.

Франак назіраў за гэтым абыякава. Потым без смаку еў. Нават выпіў з бацькам першаку. Думаў сваё. Бацька весялеў, хоць стараўся не паказваць свайго настрою. Маці таксама цешылася, падстаўляла Франаку стравы бліжэй. Лямпачка над сталом упершыню за доўгі час сагравала іхні сямейны агмень.

У нядзелю ездзіў у райцэнтр на сустрэчу ветэранаў. Запрашалі ўсіх праз ваенкамат. Уражанне засталося благое. Хто папросту напіўся, хто гарлаў расейскія, пад Высоцкага, песні. Успаміны пра «траўку». Пустэча, у лепшым разе — роспач.

Перад тым хадзілі на могілкі пакласці кветкі. Таксама прыкра. Магілы адмыслова раскіданы па ўсіх могілках, што міжволі з непрыемнасцю ўсе заўважылі. На большасці помнікаў, апроч самых апошніх, ніякіх згадак пра Афганістан, адно дата смерці.

Быў у Какоўкі, але не заспеў таго ў хаце. Пачакаў ды пайшоў у школу. «Спадар Какоўка?» — ці то здзекліва, ці паважна перапытаў вартаўнік і сказаў, дзе таго шукаць.

Пакурылі разам, пагаманілі нядоўга ды развіталіся. Настаўнік называў яго заўсёды Францішкам.

На бацькавым падворку Франак адшукаў непатрэбныя ночвы, у якіх яшчэ нябожчык дзед замешваў гліну. За лазняй пад страхой захавалася зробленая ім цэгла. Нязграбная, рудаватая, але разам з тым як бы жывая, рукатворная. З такой калісьці ў іхняй вёсцы ўсе печы, ды грубкі, ды коміны ў хатах былі складзены. Быў дзед печнікам.

Калёсамі Франак перавёз да падмурка за аселіцай усё будавінне. Ці такая яна была, тая капліца? Можа, і не зусім. Малюнак, зрэшты,

Франак меў. Ад Какоўкі. Нічога, здаецца, адмысловага: чатыры кантовыя слупы з цэглы, стрэшка, пад ёй — крыж.

Да ягонай задумы паставіліся ў вёсцы ўсяляк. Мужчыны і так і гэтак, кабеты, асабліва старэйшыя, цішком маліліся за яго, а моладзь, тая — напалам. Маці маўчала, баючыся бацькі, той бурчэў, толькі незразумела было, колькі ў тым бурчэнні сапраўды незадаволенасці.

Перашкодзіць Франаку заманулася адно хаўрусу з калгаснага парторга ды старшыні сельсавета. Паклікалі, мелі з ім гутарку. Вёў рэй парторг. Нагадаў пра неабходнасць уступлення ў партыю, дакараў Франака медалём: «Вазьмём ды забяром, раз ты так, не апраўдваеш нараду партыі і правіцельства. Хэ-хэ». Сельсавецкі старшыня адно падтакваў. Пад канец нібы выпадкова зазірнуў участковы з расшпіленай кабурай. Франак не здаваўся.

Праз дзень з райцэнтра прыехаў нейкі з савета ветэранаў. «Браток, ну ты чё (...) занімаешся. Забыл, што ль, как мы там кроў пралівалі?» Размова не атрымалася.

Франак з яшчэ большай зацятасцю рабіў сваю справу. Яму болей ніхто не надакучваў, не спыняў, але і падсобы не было. Ён мураваў цагляныя слупы, потым працаваў паўпілой, малатком ды сякерай. Увесь час спрабаваў сабе ўявіць той смяротны, апошні для паўстанцаў бой. Заехалі ў панскую сядзібу, каб адпачыць і падсілкавацца, а ў вёсцы знайшоўся здраднік, спакусіўся на грошы. Купка інсургентаў баранілася за возам бліз ад месца, дзе зараз капліца. Астатнія адстрэльваліся з дома, які казакі затым падпалілі. Ніхто з паўстанцаў не ацалеў. Юду таго потым назвалі чамусьці мясцовым Сусанінам, помнічак меркавалі змайстраваць нават. Забітым жа казакам справілі капліцу (быў малебен з бацюшкам), якая мала-веле захавалася да гэтых дзён. Інсургентам каплічку ўдалося зрабіць ужо толькі за польскім часам. Аднак нядоўга яна стаяла. Да верасня 39-га, да вызвалення.

Пад гонтавай стрэшкай нарэшце, як належыць, і крыж смолкі. Скончыў Франак. Пад крыжам, нібы сама, апынулася свечачка ў шкляной газоўцы запаленая. Капліца. Тым часам вярнуўся з абласнога горада надзвычай задаволены парторг з паперай ад упаўнаважанага па справах рэлігіі ды прасцяком на мехдвор. Але дарма. Ніхто з мужчын не згадзіўся сесці ў бульдозер, нават за гарэлку.

А неўзабаве прыехаў аднекуль здалёк ксёндз і асвяціў каплічку наноў. У гонар тых, хто загінуў, баронячы свой Край. У імя Айца, Сына і Духа святога.

# АПАВЯДАННІ ВУЛІЧНАГА БЮСТА

## ПАЎСТАННЕ З МЁРТВЫХ

Партрэт прывезлі адразу 17 верасня. На вялікім танку «КВ». Мястэчка было побач мяжы. Копы[1] біліся без чаканае зацятасці і ўжо па абедзе наладзілі першы лятучы мітынг. Партрэт прычапілі да тэлеграфнага слупа. Час ад часу дзьмухаў ветрык, і партрэт калываўся на цвіку, нібы якая пратэса па-над галовамі крыжовага ходу. Галоў і цяпер было багата, а ён, партрэт, глядзеў вышэй іх, некуды ў далягляд, і быццам бачыў бы болей, каб не вокны дома насупраць, у адным з якіх быў пастаўлены на ўсялякі выпадак зеленкаваты кулямёт. Вораг яшчэ не быў пераможаны цалкам.

Местачкоўцы сабраліся без прымусу, імі кіравала прыродная цікаўнасць і прыхаванае спадзяванне калі й не на кісельныя берагі, дык, ва ўсякім разе, на электраплуг, лямпачку пад столь замест газоўкі і паляніцу па нядзелях. Палітычны камісар, які ўзлез на лёгкі разведвальны браневічок, гаварыў вельмі красамоўна, а галоўнае — пераканаўча. Потым яго змяніў чырвонаармеец з няўклюднай даўгой вінтоўкай. Затым надзвычай горача-запальна, ад імя местачкоўцаў, сказаў сваё ўдзячнае слова тутэйшы чарнявы і блізкавокі Бэрка.

Пад час усяго гэтага людзям раздавалі бясплатна газеты. «Праўду» і «Суворовский натиск», у якіх было ўжо напісана пра сённяшні мітынг і астатнія падзеі. Затым нейкі вайсковы ад імя прысутных у апошні раз падзякаваў «дарагому таварышу Сталіну», і ўсе, хто ведаў словы, адспявалі «Інтэрнацыянал». На заканчэнне сабраных хуценька сшыхавалі, і пад духавы аркестр яны пакрочылі паўз, нібы трыбуну, палутарку, у кодабе якое спаважна пасталі — з рукой да брыля — камандзіры і начальнікі.

Ад таго дня жыццё ў мястэчку рэзка з'iначылася. Памешчыкаў-абшарнікаў ды капіталістаў болей не стала, было назаўжды пакончана з эксплуатацыяй чалавека чалавекам. Замест манаполек адчыніліся закусачныя і салдацкая чайная, а таксама рэўкомаўскі буфет і рабочая сталоўка. Гандаль з прыватнага ў адзін дзень зрабіўся дзяржаўна-спажывецкі. Амаль усе гандляры з гэтае прычыны паступова апрануліся ў скуранкі ды такія ж скураныя самаробныя шапкі «з пупамі», як называлі іх дзядзькі, у будзёнаўкі. Кожнаму знайшлася і адпаведная рэвалюцыйнаму выгляду пасада. У рэўкоме, спажывецкім тавары-

[1] Прастамоўная назва жаўнераў «Корпуса охроны погранічнэй».

стве, аддзеле народнай міліцыі дый іншых, ужо цалкам абрэвіятурных канторах, якія паадчыняліся на кожным рагу.

У тую ж восень да рэвалюцыйнага свята на бліжэйшую чыгуначную станцыю прыбыў цягнік з літарным вагонам. Усю ноч яго пільна вартавалі. Наступнага дня чырвонаармейскі аддзел з вялікімі высілкамі перагрузіў у трафейны італьянскі грузавік вялізную скрынку, падобную да труны з нябожчыкам асілкам. Дапамагаў цягнуць сакрэтны груз магутны гусенічны С-100, «Сталінец». Ахоўвалі браневікі і танкеткі. Кавалерыйская казацкая паўсотня канваявала іх на працягу ўсёй дарогі. Пры пад'ездзе да мястэчка ў пералеску, як высакародныя разбойнікі, усіх дадаткова перастрэлі людзі ў закрытым трафейным аўто з васільковым аколышам фуражках.

Абапал вуліцы, па якой кавалькада накіравалася да сядзібы мясцовага энкавэдэ, утварыліся ланцугі з узброеных вайскоўцаў усіх чыноў. Яны нікога не выпускалі на ходнікі ды забаранялі прачыняць вокны, папярэджваючы якую-колечы варожую правакацыю. Ворагі не драмалі, а іх было безліч у першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян. На важкой скрынцы палявога тэлефона нават было напісана папярэджанне: «Чырвонаармеец, будзь пільны! Памятай: вораг падслухоўвае». З увагі на ворагаў і заставы на старой мяжы пакінулі да часу, трымалі яе па-ранейшаму замкнутай.

Не бачны воку помнік усталявалі на падрыхтаваным падмурку ў дашчанай «кашулі», каб адкрыццё адбылось ўрачыста і супала з гадавінай рэвалюцыі. Наблізіцца да яго было нельга, бо ахоўваўся вартай з двух чырвонаармейцаў. Цырымонія змены вартавых кожнага разу таксама бывала надзвычай урачыстая і звычайна збірала на пляцы разявакаў. Ніхто не бачыў схаваны помнік, але ні ў кога не заставалася няверы адносна таго, хто Ён.

Неўпрыкмет настаў той дзень, калі Іосіфа Вісарыёнавіча «распранулі» сякерамі.

На Ратушным пляцы з двума касцёламі і гандлёвымі радамі вусаты помнік выглядаў надзвычай паважна, але, калі можна так сказаць, не зусім дарэчы. Мясцовы ксяндзок, ужо адгаварыўшы вячэрнюю малітву, схаваўшы пад коўдру сваю пляшывую галаву, скардзіўся Богу на гэта. Аднак усюдыісныя сіняакалышныя энкавэдысты ўсё адно, мабыць, даведаліся пра контррэвалюцыйныя малітвы, бо ксёндз неўзабаве выехаў у Комі АССР.

Асабліва чамусьці не пасавалі сваім фасонам да старога ратушнага гадзінніка фуражка і шынель правадыра. Праўда, яго адразу ўпадабалі птушкі. І вось тут фуражка аказалася вольмі дарэчы, бо абараняла голаў ад экскрэментаў. Потым пайшлі дажджы і разагналі

пад стрэхі несвядомае птаства. Ды іншае ліха: вада гасіла, не давала разгарэцца люльцы, якую чалавек трымаў у жмені.

Аднойчы дасвеццем пачуўся аднастайны гуд і неба засцілі крыжы летакоў. Удзень сваімі ценямі яны закраталі зямлю. Гэта былі нямецкія бамбавікі. Іх ляцела так шмат, што ўсіх апанаваў жудасны страх. Пачалася паніка. Энкавэдэшнікі адразу кінуліся забіваць вязняў і паліць сакрэтныя паперы, а потым уцяклі з мястэчка на ўсход. Было не да помніка. Па вуліцах гуляла кудаса з папераў ды попелу. Навакольныя сяляне завалодалі кінутымі вайсковымі складамі. Рабавалася ўсё: соль, махорка, боты, нават фуражкі, за якія немцы расстрэльвалі на месцы.

Назаўтра на пляцы ўжо чуўся са слупоў бравурны нямецкі марш, а сагнаныя местачкоўцы аднолькава няўцямна слухалі адрывіста-рэзкую нямецкую гаворку ўперамежку з ламаным перакладам на расейскую.

Жаўнер, які дазволіў сабе вольнасць выпрабаваць прыцэльнасць свайго «шмайсера» па вусатым помніку, атрымаў тэрмін гаўптвахты, бо для немцаў парадак — перш за ўсё. Куля спляжылася аб жалезны прэнт у сэрцы расстралянага. Помнік дэмантавалі. Адныя казалі, што яго завезлі ў асабісты падарунак фюрэру, другія бажыліся, нібы страту трэба шукаць ажно ў альпійскіх штольнях у самой Аўстрыі.

За працэдурай дэмантажу назіраў з гарышча адзін салдацік, што адстаў ад войска. Ён гарэў нянавісцю і пэўны час ледзьве стрымліваў сябе, каб не распачаць страляніну са сваёй трохлінейнай зброі. Пазней ён стварыў з акружэнцаў партызанскі атрадзік і знішчыў сабраны акупантамі ў сялян абоз з харчамі, за што немцы спалілі вёску разам з жыхарамі.

Увогуле, з нашага боку было безліч ахвяраў. Вайна нарэшце скончылася перамогай. Спачатку ў Берліне, а потым у Маньчжурыі. А пасля яе распачалася ўжо «халодная». Не зважаючы, аднак, на імперыялістычнае акружэнне, местачкоўцы ладзілі наноў сваё незаможнае жыццё. Дбалі і аб культурным адпачынку. Адчынілі хату-чытальню, затым шахматна-шашачны клуб, а потым і агульнамястэчковы. Касцёлы замкнулі.

Местачкоўцы ў нядзелю слухалі лекцыі аб міжнародным становішчы або чыталі пра яго ў газетных сшыўках, ладзілі самадзейныя выступленні артыстаў і падводзілі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва. Наведвалі лазню. Дабрабыт і культурныя запатрабаванні паступова раслі, і аднойчы на павестцы дня паўстала пытанне аб тым, каб вычысціць ды абнавіць ваду ў сажалцы, што ў панскім парку.

Сказана — зроблена. На суботніку камсамольцы вычарпалі вёдрамі ваду і ўбачылі люльку ды брыль фуражкі. Прыцішанае «ўра!» вырвалася з грабаровых ратоў. Адкапалі рэшту. Усе прысутныя адчувалі сябе ніякавата перад жалезабетонным волатам, які ператрываў усе ліхалецці на месцы, не выязджаючы чыгункай да Нямеччыны або ў аўстрыйскія Альпы. Яго на руках панеслі на пляц. Пастамент быў, на жаль, заняты, і таму адкапанага паставілі пакуль у вестыбюлі райкама партыі. Паколькі галава пад час транспарціроўкі адламалася, яе паклалі побач, у шкляным футарале. Калі не верыце, з'ездзіце ды паглядзіце самі.

## ПЛЯЦ ДЭКАРАЦЫЙ

Мясцовая газетка з'явілася за шыбамі кіёскаў друку крыху са спазненнем. Затрымка выйшла праз тутэйшы камітэт партыі. Пад наглядам метранпажа друкары з мацярком на вуснах у самы апошні момант успаролі швайкамі прыгожую металічную паверхню падрыхтаванай да матрыцавання апошняй па ліку — першай старонкі. Радкі цьмяна-зіхоткіх гартавых літар рассыпаліся. Справа была надта паспешная, бо звычайна, ашчаджаючы ўласную працу, майстра вымае з клюмпаў асады замененыя матэрыялы жменямі і ахайна складае побач у слупках.

Узамен з'явіўся чатырохкутнічак клішэ — на два з чвэрцю квадраты, г. зн. трохі менш за памеры самога слупка. Клішэ абгарадзілі брускамі шырокіх паскаў, якія адбілі пазней на папяровых газетных аркушах чорную тлустую асадку. «Група таварышаў» развіталася з чарговым сябрам па партыі.

Труну з нябожчыкам вынеслі з пакояў камітэта партыі, дзе да яго ў апошні раз завіталі працоўныя, на волю. Тамака, на вуліцы, і мусілі часова спыніцца, бо аўтобусік з пахавальнага бюро спазняўся. Усе нешматлікія прысутныя пачуваліся ніякавата. Словы над памерлым ужо былі сказаныя, а да прамовак над выкапанай магілай чарга яшчэ не дайшла.

Было сцюдзёна.

Волат-правадыр, у нагах якога апусцілі пакуль труну, стаяў да нябожчыка спінай і да ўсяго яшчэ аніяк не мог зняць сваёй знакамітай кепкі, бо быў адліты з бронзы. Пачаў імжэць дожджык, на труну паклалі века, і ўсе з палёгкай вярнулі капелюшы на галовы.

Таварыш Сарычаў, які хадзіў тэлефанаваць, вярнуўся і са стрыманай радасцю паведаміў, што транспарт зараз будзе.

Шафёр, як ні плішчыўся, не здолеў пад'ехаць да ганка, шчодра аздобленага абапал нагляднай агітацыяй. Цела мусілі перанесці цераз гранітную трыбуну і адхоністымі прыступкамі спусціцца да пляца.

Гэты экзатычна-чорны брук яшчэ памятаў нестраявы крок працоўных калон. Нябожчык рэгулярна ля ног правадыра вітаў святочныя шэсці, стоячы разам з начальнікам гарнізона і двума іншымі палкоўнікамі. Ніхто з іх не даставаў фуражкай і да калена Ільіча. Сам жа былы Першы большаў пераважна ўшыркі і пагатоў не быў даўгалыгі.

Яны зараз на адвітанне не маглі нават абмяняцца маўклівымі паглядамі, бо не бачылі адзін аднаго. Першага схавала ад свету белага аксамітнае чырвонае века труны. Другі ж па-ранейшаму летуценна ўзіраўся некуды ўдалечыню.

Раптам высветлілася, што недалуга шафёр ніяк не можа даць рады дзверцам. Раззлаваны, ён пачаў недапушчальна лаяцца. Навокал тым часам пачалі купіцца разявакі.

Сарычаў не адчуваў варожасці разявакаў, але выразна чытаў кплівасць на іхніх тварах. Жалобная ўрачыстасць, уласцівая сённяшняй нагодзе, яшчэ крыху — і неўпрыкмет ператварылася б у фарс. Яму прыкра і невыносна было такое ўсведамляць сабе.

«Маць вашу разэтакую! — мацюкнуўся тым часам шафёр і стомлена-задаволена скамандаваў: — Стаўце гроб...»

Калі ўсе паселі, аўтобус пакаціўся па бруку, як па бобе, перасякаючы пляц наўскасяк. Гамон! Пакуль ён марна корпаўся ў замку, дарогу, якой сюды прыехаў, раздзяўблі адбойнікамі і працерабілі ў ёй раўчук нейкія ўвішныя дзядзькі ў ватніках...

«Пайшоў ты на (...), на-чальнік!» — не раздумваючы адказалі яны хорам на енк Сарычаў... Па іхніх няголеных чырвоных пысах ён даўмеўся адразу, што яны ўжо былі на падпітку.

Вярнуліся назад. Але і за будынкам камітэта адразу налева ім таксама не пашанцавала. Стары мураваны мост быў разбураны, а новы — вялікі і шырокі — дагэтуль не здолелі пабудаваць. Сарычаў з прыкрасцю прыгадаў усю гісторыю. Спачатку скончыўся жалезабетон, а потым падрадчык мусіў зусім спыніць працу і адаслаць людзей кудысьці, дзе здарыўся землятрус.

Здавалася яшчэ адное выйсце — выехаць праз вузкі завулак каля Дома шлюбу. Аднак тамака ўсё было запруджана машынамі ў стужках ды вясельнікамі. Святочная грамада змяняла грамаду. Пстрыкалі фотакамеры. Пятніца — дзень весялляў. Праехаць скрозь іхнія шыхты ў катафалку Сарычаву не дазволіла б партыйная годнасць, але ўсё адно наўрад ці ўдалося б зрушыць аграмадныя начоўкі

бетоннай клумбы з пажоўклымі кветкамі, якой быў перагароджаны праезд.

Смуткоўшчыкі ўсё больш пахмурнелі, не хаваючы знерваванасці. Апошняе выйсце, да агульнага жаху, таксама аказалася тупіком. Паўсюдна ляжала цэгла. Будаўнікі пачалі аднаўлядь фасад нейкае калісьці разбуранае камяніцы.

Тады расхваляваны Сарычаў, папрасіўшы ў жанчын дзве капейкі, кінуўся да таксафона.

Праз паўгадзіны іхні аўтобус перанеслі на руках цераз рышток зеленкаватыя хлопцы, якіх падбадзёрваў па-будзёнаўску вусаты старшы прапаршчык. Рабочых ужо не было і следу.

Усе супакоіліся і прыдрамалі. Дарога да могілак была не першагатунковая, і чапурыста адзеты нябожчык зыбаўся ў чэраве дамавіны, нібы ў калысцы.

Шлях не надта каб і далёкі, але на пачатку уікэнду на вуліцах паўсюдна надараліся заторы, а потым давялося доўга чакаць свае чаргі, каб заправіцца бензінам. Пасажыры мелі час памарыць наяве або ў хвіліны нямоцнага сну.

Нябожчык Епіфанаў, напэўна, думаць ужо не мог, а каб мог, узгадаць яму было што.

Пляц гэты, на якім мясціўся камітэт партыі, названы быў, як і належыць, імем Ільіча. Аднак паміж сабою гарадзяне называлі яго «Епіфан-пляцам», пра што той добра ведаў і вельмі ганарыўся. «Мяне людзі памятаць будуць,— даводзіў ён за талеркай баршчу жонцы, калі шыкоўны чорны лімузін дастаўляў яго на абед дахаты. — Добрым словам успамінаць. За ўсё, што для іх зрабіў. Можа... нават помнік потым паставяць»,— і ў воку нараджалася сляза замілавання.

Аднак мара марай, а пакуль наспела патрэба змяніць помнік правадыру, які апынуўся трошкі ўбаку ад новага пляца з будынкам камітэта і маральна састарэў, таму на тле вялікага партыйнага дома выглядаў бы мізэрна і збеднена. Цэментную постаць помніка, якую да рэвалюцыйных свят фарбавалі то срэбнай, то залатой фарбай, пагрузілі на грузавік і адвезлі ў далёкі райцэнтр. А на пляцы тым часам за ноч (ставяць і руйнуюць помнікі заўсёды аднолькава — начной парою) вырас высокі і вялікі, абцягнуты прасцінай нябачны новы помнік. Па абрысе белай калмыгі можна было толькі здагадацца, што рука выпрастана наперад.

А-я-яй! А якая выдатная была першая святочная дэманстрацыя каля новага помніка, які засланіў сабою дом камітэта партыі. Кіраўнікі горада поплеч з правадыром, народ трыумфуе, а па-над усімі лунае даўжэзны транспарант «Правильной дорогой идёте, товарищи!».

Адно засмучала, таварыш Епіфанаў мог толькі прыблізна меркаваць, як трымаецца наверсе Маўзалея цэнтральнае кіраўніцтва, бо пад час трансляцыі з Краснага пляца сам пазіраваў тэлекамерам.

Калоны абодвух гарадскіх раёнаў — Ленінскага і Кастрычніцкага, — уваходзячы на пляцавы брук, прыгожа зліваліся ў адну, ужо падвойна-шырокую плынь. Дзеля гэтага тав. Епіфанаў загадаў зруйнаваць нейкую старую камяніцу. Нефармалы-інтэлігенты крыху пабунтавалі ды супакоіліся, бо Першаму падказалі кампраміснае рашэнне. З тактычных меркаванняў разбурылі толькі палову дома. І авечкі, як той казаў, цэлыя і ваўкі сытыя.

Выдатны пляц! Псаваў выгляд адзін толькі разбураны млын. Гэта асобная гісторыя. Калісьці на месцы пляца была рачная, г. зв. Швейцарская, даліна. А на рэчцы круціў жорны млын. Калі даліну засыпалі і заасфальтавалі, дык пачалі будаваць камітэт партыі. Аднак вада падмывала асфальт і шкодзіла будаўніцтву. Пляц мусілі раскапаць і свавольную рэчку схаваць у трубу.

Справа, аднак, гэтым не скончылася. Млын перашкаджаў працаўнікам збудаванага камітэта шумам сваіх колаў. Рака ж паступова ператварылася ў каналізацыйны сцёк, з якога дужа смярдзела. Таму ў камітэце партыі было вырашана млын разбурыць, а замест пшаніцы купляць у Канадзе адразу муку.

На месцы млына хацелі пабудаваць універсітэт марксізма-ленінізма, ды не паспелі.

Руіны да лепшага часу мусілі затуліць ад вачэй галерэяй партрэтаў членаў цэка.

Вось і скончыліся мройныя ўспаміны, якія за нябожчыка абудзіў тав. Сарычаў, што змяніў яго на пасадзе Першага. Прыехалі.

На разлеглых могілках доўга шукалі патрэбны сектар. Дождж ужо не спыняўся. Гавораць, добрая прыкмета, але ж дзе там!

У яму паспела нацячы вада. Але самае прыкрае, што ў сподзе ляжаў камень-валун. Непадалёк бадзяліся нейкія два непрыемныя на выгляд мужчыны. Сарычаў сказаў паклікаць іх.

Далакопы, а гэта былі яны, адразу «заламілі» цану. Сарычаў спачатку вагаўся, потым штосьці палічыў у галаве і згадзіўся. У партыйнай касе яшчэ заставаліся грошы.

Мужчыны ўваліліся ў яму. Яны цялёпкаліся там і брыдка мацюкаліся. Жанчыны прыціскалі вушкі. Здавалася, што гэты вэрхал ніколі не скончыцца.

У рэшце рэшт труну запетавалі цвікамі, толькі на хвілю, каб не замачыць гарнітур, паказаўшы нябожчыка брудна-шэраму небу.

Сціслыя словы змучаных людзей.

«Няўрокам кажучы, — любіў ён паўтараць калісь на банкетах. — Я здаровы як бык!» Але і гэтае сэрца не вытрывала, не пераржыў стары нападак на партыю.

Узнагароды на падушачках. Ён пачынаў у «Смершы». Потым усталёўваў тутака савецкую ўладу.

Настаў час прамовіць тав. Сарычаву. «Спі...» — пачаў ён ды запнуўся. «Спакойна» так і засталося ў ягоным горле. «Хай зямля табе пухам, — скорагаворкай закончыў тав. Сарычаў і скамандаваў: — Хутчэй засыпайце!» Зрабілася зусім чорна навокал.

Сарычаў не стаў чакаць, накуль насыплюць капец. Павярнуўся і пайшоў прэч. На бязлітаснае святло аўтобусных фараў. У кішэні ён сціскаў партбілет.

## ЗНЯВАЖАНЫ БЮСТ

— Слухай, Казя, ты, мусіць, маеш хеўру. Яны яму насы ламаюць, а ты рамантуеш. Да пенсіі работы хваціць.

— Ну ты што, Юзік, здурнеў ты, ці што?

— А што? Гэта думка! — узняў галаву трэці, разліўшы ў шклянкі.— У кожным бадай мястэчку і вёсцы стаіць, вачам назаляе.

Зрабілася неяк няёмка.

Казя не стаў нават піць, усхапіўся з крэсла, падышоў да бюста і прымяў аберуч яму з бакоў свежазроблены нос. Дбайна-разгублена. Павярнуўся і паглядзеў з крыўдаю на сябрукоў.

— Дармо ты. Пажартаваў я. І не называй мяне Юзікам або яшчэ горай Іосіфам. Лаўры дыктатара мне зусім без патрэбы. Язэп я, запомні, Казя. Зарубі на носе.

— Хлопцы, давайце вып'ем. Чорт з ім. Заўтра ўжо другога дараблю.

— Мы сваё выпілі.

— Дык налі яшчэ.

Трое сядзелі ў пакоі майстэрні. Паліцы па сценах узнімаліся ад долу да столі. Нібы ў бібліятэцы. Толькі замест кніжак галовы аўтараў. Асабліва чамусьці гасцям падабалася кпіць з бюста Вялікага стырнавога. «Хітрыя вочы, халера! Пракудніцкія».

«Колькі ні чытай, імператарам не станеш», «Вялікім заплывам мы нанеслі сакрушальны ўдар па імперыялістах!», «Каб плаваць, трэба плаваць», «Стрэльба спараджае ўладу», «Чым горш, тым лепш!» і г. д.

У гадавіну Кастрычніка ў розных мясцінах здарыліся акты вандалізму з вулічных бюстаў. Аднаму цяжкой рэччу адбілі нос, другога

аблілі алейнай фарбай, трэцяму яшчэ штось учынілі. Апошняму ўвогуле адарвалі галаву.

— Ці чуеш? — Юзік-Язэп устаў і зрабіў з сябе нейкую постаць. — А яна, бабка з дубальтоўкай, і гаворыць міліцыянту: «Я яго, таварыш маёр, ахоўваць буду, а як жа. Калі так трэба. Загад ёсць загад». Але ж, кажа, ён быў нямецкім шпіёнам. Сама па тэлевізары глядзела й чула...» Як? Га!

— Ну дык што?..

— Як ты не разумееш? Там каля кароўніка немаведама як апынуўся бюст. Ніхто нават не памятае. Стаіць сабе на пастаменце. А бабка кароўнік ахоўвае. Ці ўцяміў?

— Тады сапраўды смешна.

Трэці разліў з бутэлькі і, не чакаючы, чокнуўся сваёй шклянкай з іхнімі.

Яны закурылі «Беламор». Іншых папярос у горадзе купіць было немагчыма. Тытунёвая фабрыка мяняла цяпер толькі тавар на тавар.

Казя ўплішчыў у спод тандэтнай попельніцы выкураную беламорыну і пачаў, як заўсёды, апавядаць аб жанчынах, якіх нібы залатвіў. «Адну, знаеш, Юзік, у цягніку... У «СВ». Ядроная кабетка».

Трэці абыякава пускаў з рота дым, уталопіўшыся ў бюсты.

— Ты, Казя, кінь гэтае глупства. Я табе ўсё адно не веру. Ты такі брыдкі, як краб. Поўсцю зарос. Вушы нават не брыеш. Гэта памылка, што кабету адно толькі цікавіць. Ёй яшчэ трэба, каб у цябе выгляд быў як мае быць: пастава, цяглiцы, пагляд арліны. А ў цябе што?

— Усё сабе жартуеш.

— Якія жарты? Ты б пабачыў жанчын, што мне належалі, якіх я кахаў. Тыя каханкі не для вас, Шура.

— А вось аднойчы гасцявалі ў Валодзі В., мастака, ты яго знаеш. Дык вось, зрабіў ён тазік самагонкі. Кубкамі жалезнымі чэрпалі. І жонка ў яго нічога. Не вызвяралася.

Той, што сядзеў моўчкі, лянотна сплюнуў папяросу і недаверліва-скептычна спытаў:

— А ці праўду кажуць людзі, што вы, Казя, адзіны ў горадзе і вобласці маеце права ляпіць Яго? Як лаўрэат Дзяржпрэміі...

Але таму не даў адказаць Язэп-Юзік:

— Лепш хай раскажа які ганарар адхапіў за таго, што на пляцы стаіць. Ладны кавал, га? Тысяч, мусі, -наццаць.

— Ды што заладзіў: ганарар, ганарар... На гарэлку хапае. Чужыя грошы лепш не лічыць, я табе кажу.

— Ну добра, Казя, больш не буду. Ты ўсё за чыстую манету прымаеш, браце. Са смехам чалавецтва, ці ведаеш, развітваецца са сваімі

заганамі і з мінулым. Гэта яшчэ нейкі класік сцвердзіў. Чытай першакрыніцы. Трэба, Казя, часцей усміхацца, болей пражывеш.

Твар скульптара змучана зморшчыўся ў грымасе, што аддалена нагадвала ўсмешку.

Але гэта не спыніла красамоўства чалавека, які меў двойчы дыктатарскае імя.

— Цябе і ляпіць яго паставілі, бо не маеш пачуцця гумару. Здурнець жа можна: зляпіць сто правадыроў і ані разу не пасміхнуцца.

— З глузду не з'ехаць, — абазваўся трэці.

— Не дуры, Юзік. Чаму сто?

— А колькі?

— Менш, значна менш.

— Не, ты мне скажы, як гэта зляпіць цэлых сто аднолькавых галоў і ні разу рожкі якія-небудзь не прыладкаваць. Я б, дальбог, не ўтрымаўся...

— Ды не сто, я табе кажу.

Вочы Казі раптам заплылі крывёю. Яны ўтрох ужо ладна-такі падпілі. Але ў Казевай майстэрні стаяла цэлая скрынка з бутэлькамі, часткова яшчэ не адкаркаванымі.

Казя знянацку ўстаў і няпэўным крокам пасунуў да адраматанаванага бюста. Сябрукі моўчкі, з цікаўнасцю за ім назіралі.

— Я чуў нейк, — міжвольна пачаў трэці, — як аднойчы пад п'янае вока замест кепкі яму ў руцэ хлопцы зрабілі газету ці наадварот. Камісія мусіла падпісаць, бо час падпіраў.

— Не тое, не тое, пачакай,— перапыніў яго Казя, зморшчыўшы крыху фанабэрліва твар. — Я скажу.

Ён абняў бюст левай рукой, пакінуўшы правую вольнай — на капыл спрактыкаванага прамоўцы або спевака.

Юзік нечакана замітусіўся, разліваючы з бутэлькі. Ён зрабіў знак Казю і паднёс яму шклянку. Той нагбом выпіў і, пацягнуўшы ў сябе паветра, пачаў гаварыць:

— Хлопцы! Хлопцы, ці ведаеце, колькі маіх бюстаў па ўсёй краіне разышлося? — Ён неяк стомлена, крыху са шкадобаю на іх паглядзеў. — У кожным трэцім кабінеце, у піянерскім пакоі, у чырвоным кутку на ферме. Вось так.

— Ну во, а што я казаў?! — задаволена выгукнуў Юзік-Язэп, ледзь не папярхнуўшыся гарэлкай. — Вось ты мне, нам і растлумач зараз: ці з'яўляецца творам мастацтва тое, што на кожнай ферме ёсць? А то ў газеце ўспомнілі вандалаў, што Рым панішчылі. Дык жа там былі сапраўды каштоўныя творы. Усе розныя. Аднолькавых не

было. А твае бюсты — шырпатрэб. Падобны адзін да аднаго, як рублі жалезныя з партрэтам.

Па шчоках п'янога скульптара цяклі слёзы. Глытаючы іх, ён пачаў несамавіта апраўдвацца перад збянтэжанымі гасцямі:

— Ты маеш рацыю, Юзік. Гэта ў мяне адзін такі быў заказ. Не мастацтва яно. Але ты астатнія паглядзі. Той, што на пляцы, магутны, памкнёны наперад. Сам рух. Потым, што ў райцэнтры. З непакрытай галавою, усім вятрам назло. (Каторы на пляцы — у кепцы.) Далей...

Але госці не далі дагаварыць, узялі яго пад рукі, усадзілі за стол, налілі ў шклянку.

— Давай лепш пасмяёмся. Ці чулі вы, як у П-ы не маглі дамовіцца, за чый кошт рамантаваць адарваную галаву? (Знаю-знаю, Казя, цябе такія празаічныя пытанні не датычаць.) Дык вось, не запісаны, аказалася, бюст нідзе на балансе. Нічыйны. Адны на другіх ківаюць. Ваш, маўляў, не адпірайцеся. Пассавет на ЖКГ, тыя назад адфутбольваюць. А ў таварыстве аховы помнікаў у касе нават на тое, каб галаву табе, Казя, завезці, няма грошай. Цырк на дроце!

Два другія слухалі нібы няўцямна.

— А таму, што на станцыі стаяў, больш пашанцавала. Мае гаспадара. Знаходзіцца на балансе, але толькі няблізка, ажно ў Вільні. Тэлефануюць туды чыгуначнаму начальству, тлумачаць: зняважылі, маўляў, ваш бюст, прымайце меры. А з Вільні адказваюць мацюком: у вас стаіць, самі і разбірайцеся. У нас свайго клопату па вушы... Га-га!

Гаспадар, здавалася, ужо спаў. Язэп наліў сабе. Ён трымаўся малайцом. Шэрагі бюстаў драмалі ў годным маўчанні.

Неспадзявана трэці пачаў гаварыць, да нікога не звяртаючыся:

— А я па тэлевізары бачыў, як у Варшаве Жалезнага Фелікса зламалі. Галава з татарскай бародкай упала й ляжыць, а вока адно ўсё роўна назірае, як той «знаменитый глаз» у «Іване Грозным». Вось. А натоўп сабе галёкае. Пераважна моладзь, студэнты. Развалілі яго і пляц адразу пераназвалі, здаецца, імем Юзафа Пілсудскага.

Вось. А за ноч на сцяне з'явіўся велізарны надпіс: «Рана радуецеся. Я ўсё бачу. Ваш Ф. Дз.».

## ТУРЭМНЫ ДВОРЫК

Галава рыцара рэвалюцыі аздабляла сабою квадрат турэмнага дворыка. Дворык па-ранейшаму служыў для шпацыру, як і дзвесцетрыста год таму, калі нічым, апроч малітваў, не занятыя манахі бадзяліся паміж чатырох высозных муроў з думкай, каб гэта перамахнуць вышыню цаглянак і выскачыць зласткі да дзяўчат. З абдым-

нымі клубамі, грудастых і юрлівых. Цяжка стрываць абяцанку, дадзеную богу. Мужчыны, якія займалі келлі сягоння, таксама снілі самых распусных жанчын, але амаль не марылі трапіць адсюль не волю. Гэта мала каму ўдавалася.

Радаслаў ціхенька, каб не шумець ды не прыцягнуць увагу, не раззлаваць наглядчыка, стаў на зэдлік і зірнуў праз краты вонкі. Уздоўж муроў па галерэях, як нежывыя, рухаліся вартавыя з вінтоўкамі ўперавес. Тут была і кулямётная вышка, якую нельга змеціць з вуліцы.

Паўсюдна шурпаты, белы ад снегу, калючы дрот. Як тэлеграфная сувязь абапал чыгункі. Адно птушкі не сядаюць на яго. Небяспечна.

Не за гарамі Новы год.

Заўтра чорнай раніцай дзяжурны пасля пабудкі змяце дзеркачом снег з рэдкіх валасоў гіпсавага помнічка, які яшчэ горш ад арыштантаў мёрз пад небам. Калі ён апынуўся тут, ніхто не ведае. Вельмі даўно. Сам жа чалавек спыняўся ў горадзе ў далёкім двадцатым, каб дапытаць палоннага польскага генерала. Стаяла лета варшаўскага паходу. Здавалася, не за гарамі Берлін і доўгачаканы пажар сусветнае рэвалюцыі. Допыт адбыўся ў турме. А памятную шыльду, праз пяцьдзесят гадоў, прычапілі да мура ў іншым месцы, дзе ён сказаў палымяную прамову перад апантанай залай. Парупіліся гарадскія ўлады, задаволілі хадайніцтва турэмнага начальства.

У Радаслава здранцвелі ногі. Але злазіць не хацелася. Гэта быў ягоны час. Адбой. Інакш, каб гарэла лямпачка пад столлю, вартавы яго заўважыў бы. Радаслаў ведаў: не спіць уся турма. Неўзабаве Новы год.

Некалі пасярод двара была мураваная студня. Цяпер — адзін толькі помнічак. Болей — анічога. У душы Радаслава варухнулася штосьці накшталт шкадобы. Адны скалелыя вартавыя і недарэчны голаў нябожчыка. Бездапаможны перад снегападам, які паступова мацнее. Самотны і голы як бізун. Ні дрэва, ні кусціка. Дрэвы маглі вырасці (хмызы — схаваць?)... Нават кветак не садзілі вясною, каб не нагадвалі аб волі. Неба ж, яно паўсюдна аднолькавае.

Што, які менавіта сэнс уклаў той колішні турэмны начальнік у гэты акт: крызу бязглуздае, але ўрачыстае адкрыццё астрожнага помніка? Шыхты арыштантаў у шэрых фуфайках. Салдацкі аркестрык. Імправізаваная трыбуна. Чырвоная стужка. Нажніцы. Чырвоныя таксама гваздзікі. Сентыментальны напамін аб пачатку радаводу, аб бацьку? Караючы меч рэвалюцыі і г. д. Або задумвалася адкрыццё як сродак супакаення арыштантаў: маўляў, маем халодную галаву, але гарачае сэрца. І чыста вымытыя рукі. А можа, начальнік быў некалі

настаўнікам і хацеў гэткім чынам нагадаць лішні раз аб усяго толькі перавыхаваўчай функцыі установы? Жалезны Фелікс некалі меў спагаду да беспрытульных дзяцей. Бязлітасны ён быў адно да раз'юшанага ворага, да контррэвалюцыі. Цікава, ці атрымаў палёгку ў сваім лёсе той, як казалі, зняволены скульптар, які рупліва зляпіў бюст?

Думка аб тым, што Дзяржынскі, якога Радаслаў зараз бачыў, ніколі не ведаў волі, бо, пакуль не нарадзіўся ў турме, быў усяго толькі гіпсам, уразіла вязня. Ён нарэшце злез з зэдліка і, стараючыся не рыпець спружынамі, прылёг на ложак. Ён ляжаў і думаў пра гіпсавага арыштанта. Радаслаў прачытаў усю турэмную бібліятэчку, большасць кніжак у якой (ці выпадкова?) апавядала аб ім ды ягонай чэкісцкай гвардыі.

За імклівай кавалерыяй ён ледзь паспяваў спыняцца ў гарадах і мястэчках, каб прамовай узняць рэвалюцыйны энтузіязм працоўных. Ужо ў Польшчы ягоны спальны вагон ледзь не зрашэцілі кулямі легіянеры, якія ваявалі ў тыле чырвоных і перастрэлі цягнік. Неўзабаве давялося ўвогуле вяртацца назад, дбаючы толькі аб тым, каб не апынуцца ззаду конніцы. Што сталася з падрыхтаваным маніфестам рабоча-сялянскага ўрада і сакрэтным загадам аб прызначэнні Фелікса Эдмундавіча правадзейным старшынёй, нічога не вядома. Ён вёз гэтыя важныя паперы ў кішэні сваёй славутай скуранкі.

Яшчэ ў бібліятэцы быў Поўны збор твораў У. І. Леніна, але ніхто ў турме, нават нампаліт, не чытаў ПЗТ. Радаслаў узяўся вывучаць рукапісную спадчыну правадыра ад пачатку і неўзабаве ўжо на палітзанятках прымушаў чырванець маёра сваімі пытаннямі, якім той не мог даць рады. Скончылася тым, што Радаславу забаранілі чытаць Леніна, які, аказалася, не толькі аддаваў бульбу дзетдомаўцам і пісаў аб састаўных частках марксізму, але і заклікаў «рабаваць нарабаванае» ды, нібы звычайную справу, красамоўна пяяў тэрор і расстрэлы. Ніхто ў турме пра такое ніколі не падазраваў, і быў засмучаны сам нампаліт, якому паводле службовага абавязку належала ведаць першакрыніцы. Далажылі па камандзе начальніку турмы і той таксама не даў веры, нават калі яму прынеслі кніжкі з закладкамі на адпаведных старонках. Збор твораў забралі з ленінскага пакоя і арыштавалі, замкнуўшы ў незгаральнай шафе, а Радаслава пасадзілі ў карцэр, каб не падбухторваў вязняў. Вось-вось настане Новы год. Свята, якога міжволі чакаеш, але прычакаўшы з келіхам у руцэ сканчэння бою крамлёўскіх курантаў і выпіўшы шампанскае, не ведаеш, да чаго прыкласці рукі. Калі не трапляў у сябрыну, Радаслаў зазвычай адразу забіраўся ў ложак. Чаго можна чакаць ад жыцця: яшчэ большай шэрасці? Новы год. Ну і што? Шампанскае. Што тое шампанскае, калі марыць, дык

па-сапраўднаму. Палову б жыцця зараз за шклянку кавы са згушчонкай і бутэрброд з галандскім пажадана сырам. Але ў турме не даюць каву, нават жалудовую.

У маленстве ён чытаў апавяданне пра Фелікса Эдмундавіча, яшчэ рэвалюцыянера-пачаткоўца. Некалькі дзён той не меў каліва ў роце. А потым яму пашчасціла трапіць з грашыма ў кішэні ў рэстаран, дзе папрасіў яечню з шынкай і каву з малаком. Страву прынеслі. Якая казытлівая для ноздраў смажаніна, якая пахкая кава! Але ён ужо заўважыў шпіка, што сядзеў за іншым столікам. Абыякава ўстаць, не пакаштаваўшы ежы, нібы толькі на хвілінку, у прыбіральню, і, не апрануўшыся, уцячы праз акно ў зімовы дзень... Жалезны чалавек. «Гвоздзі бы дзелаць с эціх людзей».

Стары чорна-белы кінафільм, таксама бачаны ў дзіцячыя гады, апавядаў аб турэмнай жытцы гэтага чалавека. Сапраўды, нязломак. Аднак сядзець за кратамі, каб потым садзіць іншых... Брыдка неяк. А цяпер ягоны бюст зноў у турме, у дворыку, які трымае на прыцэле кулямётчык, што на працягу варты не змружыць вока.

Адсюль не ўцячэш і гэта не перабольшванне. Быў, праўда, выпадак, першы і апошні. Апавядалі аб ім навічкам неяк меланхалічна, знарок абыякава, аднак і сам апавядаючы і слухаючы, кожны сабе думаў: ужо я не спудлаваў бы, не трапіў як шчупак у юшку.

Нейтралізавалі ахову. Завалодалі зброяй. Рэцэдывісты. Увесь горад трымцеў у страху.

Іх напаткалі ў пятнаццаці кіламетрах за горадам, у лесе. Абрабавалі вясковую крамку: гарэлка, закуска. Стрывалі толькі да лесу. Нажлукціліся і паснулі. Учулі след сабакі-ваўкарэзы...

Бюст прыкрывала снегам пераднавагодняя ноч. Так будзе цяплей ператрываць падранішнюю халадэчу.

Апроч яго ў турме быў яшчэ адзін гіпсавы небарака-вязень. Невялікі бюсцік самога Ільіча. Ен стаяў у ленінскім пакоі на засланым чырвоным абрусам стале, побач з пераноснай трыбункай з чаканным дзяржгербам. На вокнах, як і ва ўсіх іншых памяшканнях, былі краты, нават жалезныя дзверы мелі закратаванае акенца-«вочка». Адзінае адрозненне: і дзверы, і краты былі пафарбаваныя ў белы колер.

Кім ён быў, той, што зараз на вуліцы, пад снегападам? Тутэйшы чалавек. Са шляхты. Твар татарскі. Прозвішча... Паляк, адным словам. Радаслаў ужо аднойчы паспытаў карцэра. Праз яго. Вырашыў тады бліснуць эрудыцыяй. А ці ведаеце, спытаў ён у нампаліта, што

напісалі польскія газеты, калі Фелікс Эдмундавіч памёр? «Іздэхл едэн пес, хоцяж походзі з польскей крві...»[1]

Напэўна, ужо дзесьці без чвэрці дванаццаць (гадзіннік мець забаранялася), бо наглядчык пачаў абыход калідора, каб, напэўна, паспець да навагодняга віншавання савецкаму народу. Грук у акутыя дзверы ботам. «С коек не вставаць, к окнам не падхадзіць! С Новым годам, (...) вашу мать!»

Аднекуль з калідору пачуліся гукі дынаміка: бой гадзінніка Спаскай вежы. Звонку, з вышыні, іх раптам заглушыў вежавы звон на касцёльнай званіцы, што стаяла адразу за турэмным мурам.

Бах! Бах! Тук-тук-тук-тук. Бах! На беленай столі вязніцы блякла адбіўся праз нямытыя шыбкі каляровы букет навагодняга салюту і млява растаў. Турэмны дворык паглынула цемра. Муры і вокны пачалі насцярожана абмацваць пражэктарны прамень.

Наступіў Новы год.



[1] Здох сабака, хоць і меў польскую кроў.

## ЗМЕСТ